ЗАВОЧНІК БЕЛАРУСІ

сэрыя

# ЗАВОЧНЫ КОМВУЗ

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ІНСТЫТУТА МАСАВАГА ЗАВОЧНАГА НАВУЧАНЬНЯ ПАРТАКТЫВУ пры ЦК КП(б)Б

КУРС ПАДРЫХТОЎЧЫ І ПЕРШЫ

№ 5

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

ІНСТЫТУТ МАСАВАГА ЗАВОЧНАГА НАВУЧАНЬНЯ
ПАРТАКТЫВУ пры ЦК КП(б)Б

# ЗАВОЧНІК БЕЛАРУСІ



С Э Р Ы Я

## ЗАВОЧНЫ КОМВУЗ

№ 5
САКАВІК

МЕНСК
БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА 1931



## АД РЭДАКЦЫІ

З гэтага нумару часопісь „Завочны Комвузавец", у сувязі з організацыяй Беларускага інстытуту масавага завочнага навучаньня (ІМЗН), згодна пастановы ЦК КП(б)Б, становіцца выданьнем „ІМЗН" пад назвай „Завочнік Беларусі", сэрыя „Завочны Комвуз".

Організацыя „ІМЗН выклікана тымі буйнейшымі задачамі, якія стаяць перад партыяй у галіне падрыхтоўкі кіруючых комуністычных кадраў, і яшчэ большага ўзброеньня іх марксыцка-ленінскай тэорыяй.

У пачатку сакавіка г. г. пры ЦК КП(б)Б адбылася нарада па пытаньнях партасьветы. Нарада канстатавала нездавальняючае становішча партасьветы, са ўсёй рашучасьцю выкрыла недахопы, правалы, і іх прычыны ў разгортваньні партвучобы. Аднэй з асноўных прычын правалаў у партвучобе зьяўляецца апартуністычная недаацэнка яе (партвучобы) з боку некаторых зьвеньняў партарганізацый. У гэтых мясцох таварышы не ўявілі сябе, што задачы партасьветы нельга аддзяляць ад задач ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, што нельга прадстаўляць сабе партасьвету, як нешта адарванае ад усёй партыйнай работы, што зараз асабліва актуальнае значэньне набывае ператварэньне тэорыі ў сапраўдную штодзенную зброю ў практычнай рабоце.

У сыстэме партыйнай вучобы завочнае навучаньне займае значнае месца. Задача ўзбраеньня марксыцка-ленінскай тэорыяй ёсьць задача кожнага партыйца, камсамольца, беспартыйнага рабочага, калгасьніка. Існуючая сетка партасьветы ня зможа поўнасьцю ахапіць усю партыйную, комсамольскую арганізацыі, асабліва актыву. У дапамогу сетцы партасьветы, для пасьпяховага вырашэньня задачы тэорэтычнай вучобы актыву, які ў значнай частцы нельга на доўгі час адарваць ад практычнай работы і накіраваць на вучобу, і прызвана сыстэма завочнага навучаньня. Яна дасьць магчымасьць партыйна-комсамольскаму актыву, не адрываючыся ад такой важнае справы, як практычнае кіраўніцтва сацыялістычным будаўніцтвам, узбройвацца рэвалюцыйнай тэорыяй, спалучаючы яе з вырашэньнем практычных задач сацыялістычнага будаўніцтва. Таму задача партыйных арганізацый, змагаючыся па-бальшавіцкаму з выпраўленьнем правалаў у партасьвеце, зьвярнуць асаблівую ўвагу на завочнае навучаньне, папулярызуючы яго сярод шырокіх партыйных мас, ствараючы спрыяючыя ўмовы для вучобы завочнікам.

Пастановай сакратарыяту ЦК КП(б)Б пры ЦК арганізаваны Інстытут масавага завочнага навучаньня. Стварэньне інстытуту — гэтага кіруючага цэнтру завочнага навучаньня—дасьць магчымасьць хутчэй і лепш выправіць недахопы ў сыстэме завочнага навучаньня і паставіць на належную вышыню арганізацыйнае, навучальна-мэтадычнае і ідэёва-палітычнае кіраўніцтва, стварае прадпасылкі арганізацыі новых форм завочнага навучаньня. Паводле пастановы сакратарыяту ЦК КП(б)Б, кантынгент партыйна-камсамольскага актыву, які павінен быць ахоплен сыстэмай завочнага навучаньня, вызначаецца ў 7000 чалавек. За выкананьне гэтай кантрольнай лічбы партыйныя арганізацыі павінны змагацца. Гэтая кантрольная лічба рашуча ставіць пытаньне аб удзяленьні большай увагі справе организацыі завочнага навучаньня.

Вялікую роль ў завочным навучаньні павінна адыграць радыё. Яно павінна зрабіцца галоўным зьвяном у сыстэме завочнага навучаньня, Уключэньне радыё ў сыстэму завочнага навучаньня вырашае цэлы рад цяжкасьцяй. Яно дае магчымасьць, перамагаючы адлегласьці, сканцэнтраваць лепшыя кваліфікаваныя сілы ў адным цэнтры, палепшыць гэтым самым якасьць прадукцыі выкладчыкаў. Яно будзе прывучаць завочнікаў да рэгляманту часу сваіх заняткаў, будзе прымушаць завочнікаў працаваць больш хуткімі тэмпамі, унесіць адзінства, плянавасьць, сыстэму ў работу як завочных устаноў, так і самых завочнікаў. Партыйным арганізацыям трэба поўнасьцю рэалізаваць пастанову ЦК КП(б)Б аб арганізацыі асобных радыё-пакояў, забесьпячэньне іх праз радыё-цэнтр патрэбнай колькасьцю радыё-апаратуры, прыладамі, аб адпаведнай разгрузцы актыву і інш.

Стварэньне Інстытуту масавага завочнага навучаньня дасьць магчымасьць, скарыстоўваючы радыё, шырэй папулярызаваць завочнае навучаньне, лепш перабудаваць усю сыстэму завочнага навучаньня „тварам да гаспадарчай аднастайнасьці раёнаў“, да спэцыялізацыі іх, шырэй папулярызаваць работу мясцовых партыйных арганізацый па разгортваньні масавага завочнага навучаньня, іх адносіны да гэтай важнай справы, моцна ўдарыць па апартуністычнай недаацэнцы партвучобы ў паасобных мясцох, па абломаўшчыне і г. д.

Перад Інстытутам масавага завочнага навучаньня ЦК КП(б)Б пастаўў рад адказьнейшых задач. Выконваць іх інстытут павінен шляхам разгортваньня на гэтым вучастку сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, шляхам прыцягненьня да работы на фронце завочнага навучаньня лепшых тэорэтычных партыйных сіл, шляхам унясеньня ў праграму завочнага навучаньня, побач з палітычнымі дысцыплінамі, і элемэнтаў тэхнікі, шляхам шырокага скарыстаньня радыё ў злучэньні з адпаведнай выдавецкай чыннасьцю.

Усё гэта дасьць магчымасьць узьняць на вышэйшую ступень справу падрыхтоўкі партыйных кадраў, узьняць яе на вышыню, адпаведную патрабаваньням рэканструкцыйнага пэрыяду.

---

# Беларуская Мова

Курс вядзе І. Ю. МІЦКЕВІЧ.

## ЗАДАНЬНЕ ПЯТАЕ.

## А. З МОРФОЛЕГІІ.

### Граматычны склад слова.

### § 71. Корань слова.

Возьмем рад слоў:
*вада, воды, вадзіца, вадзяны, вадзяністы, падводны, надводны, завадзь, разводзьдзе.*

Пры ўсёй разнастайнасьці даных слоў няцяжка заўважыць, што ўсе яны маюць адну супольную гукавую частку *вад* (*вод* і *вадзь* тое-ж самае, як гэта вядома нам з фонэтыкі). Гэта супольная частка родніць паміж сабою даныя словы, уносячы ў кожнае з іх адзін асноўны матар'яльны зьмест, шчыльна зьвязаны з разуменьнем слова *вад-а*.

Гэтая супольная частка ў родных паміж сабою словах называецца звычайна к о р а н е м  с л о в а, або п е р ш а п а ч а т к о в а ю  а с н о в а ю.

У радзе слоў: *рука*, *рукі*, *руцэ*, *ручка*, *ручны*, *рукавіцы*, *парука*, *падручнік*, *выручка*, *заручка*—коранем будзе частка слова *рук* (*руц*, *руч*—тое-ж самае); у шэрагу слоў: *стол*, *сталом*, *стале*, *сталовы*, *сталіца*, *застольны*, *настольнік*—коранем зьяўляецца агульная гукавая частка слова *стол* (*столь*, *сталь*—тое-ж самае).

Увесь рад прыведзеных вышэй слоў мы можам, такім чынам, расчляніць на паасобныя граматычныя часткі: 1) на корань і 2) на часткі слова, што могуць быць перад коранем і пасьля кораню: на-*столь*-нік, па-*рук*-а, раз-*водзьдз*-е, пад-*вод*-ны і г. д. Корань-жа слова падзяляцца на больш дробныя граматычныя часткі ня можа.

У в а г а: Падзел кораню на гукі і склады ёсьць падзел фонэтычны, а не граматычны.

З усяго вышэй паданага мы можам сказаць пра корань слова наступнае:

**Корань слова**—гэта такая непадзельная граматычная частка слова, ад якога можна ўтварыць цэлы рад родных паміж сабою слоў шляхам далучэньня да яго іншых граматычных частак слова: лес, ляс-*ны*, лясь-*нічы*, *за*-лесьс-*е* і г. д.

*ЗАДАЧА 100.*

Сьпісаць словы, выдзеліць у іх корань і падкрэсьліць яго:

Узор: ход, пры-ход, за-ходз-іць, на-ход-ка, пра-хадз-імец, вы-на-ход-ка.

Язда, паездка, выезд, езьдзіць, заездка, прыезд, тачыла, тачыць, вытачаны, заточаны, нясу, прынясу, падноска, разносчык, ношка, рэчка, рака, рачны, прырэчны, зарэчны, зарэчча.

## § 72. Форма слова і формальныя яго часткі. Словы форменыя і бясформеныя.

Здараецца часам, што корань сам па сабе зьяўляецца поўным закончаным словам: *стол, брат, бераг, пень, печ, гай* і г. д. У большасьці-ж выпадкаў корань пэўнага закончанага слова яшчэ нам не дае. І сапраўды, што прадстаўляюць сабою такія, напрыклад, карані слоў, як *вод—вад—вадз*. Гэта толькі ўрыўкі слоў бяз усякае граматычнае формы і без выразнага зьместу. З гэтых урыўкаў, толькі можна ўтварыць шмат розных слоў, але ў залежнасьці ад таго іменна, якую форму мы будзем гэтым урыўкам прыдаваць. Калі да неаформленага кораню *вод* мы прыставім у канцы гук *ы*, дык адтрымаем зусім закончанае, зусім аформленае слова *воды*; калі прыдамо яму ў канцы гуказлучэньне *ны*, дык атрымаем новае аформленьне слова *водны*, а калі да апошняга слова прыставім гуказлучэньне *над* ці *пад*, дык атрымаем яшчэ пару новых аформленых слоў—*надводны—падводны* і г. д.

Заўважце:

1) Тыя гукавыя часткі, якія дадаюцца да кораню і аформляюць яго ў пэўнае закончанае слова, называюцца **формальнымі частками слова**.

У словах: рук-*а*, рук-*аў*, *пад*-руч-*нік*—формальнымі часткамі будуць: *а*, *аў*, *пад*, *нік*.

2) Формальныя часткі слова могуць мець месца як пасьля кораню, так і перад коранем: *пад*-руч-*нік*, *на*-ход-*ка*.

3) Словы, якія маюць формальныя часткі (пера-*гавор*-ы, за-*гавор*-ы) ці якія могуць іх мець (печ, *печ*-ы, за-*печа*-к), называюцца **словамі форменымі**, а тыя словы, што ня маюць фор-

мальных частак і ня могуць іх мець, называюцца **словамі бясформенымі** (*вельмі, нават, калі, дзе, не, у, к, да, дык, і, ах, эй* і друг.).

4) Формаю-ж слова, такім чынам, называецца ўласьцівасьць яго раскладацца на корань і формальныя часткі. Раз слова гэтай уласьцівасьці ня мае, яно ня мае тады і формы. (Глядзі папярэднія прыклады).

*ЗАДАЧА 101.*

Сьпісаць словы і падкрэсьліць у іх формальныя часткі.

Гарадок, гарадзкі, прыгародны, места, мястэчка, лясны, Палесьсе, лясьнік, говар, прыгавор, выгаварыцца, пяку, выпечка, выпечаны, запякаць, прыпечаны, печка, запечак, печаны, сьвет, сьветлы, пасьвяці, сьвечка, асьвета, прасьвет, высьветліць, ах, няхай, так, тады, надта, не, за.

*ЗАДАЧА 102.*

Выпішце ў тры слупкі словы ў такім парадку: 1. Словы бясформеныя, 2. Словы форменыя, але бяз формальных частак. 3. Словы з формальнымі часткамі.

Раз атрад ішоў увесь дзень, прасьледуючы адыходзячага ворага. Вораг, ці, як гавораць салдаты „ён", быў дзесь поруч. Яшчэ не пасьпявалі датлець кастры, запаленыя ім, і яшчэ выразна віднеліся ў дарожным пыле сьляды кованых ботаў, і здавалася часам, што ў паветры носіцца пах гару і поту, пакінутага ворагам—вось, вось „ён".

К вечару стала вядома, што „ён" спыніўся, быць можа, гатовы заўтра даць бой.

І, як вада ў запрудзе, пачалі зьбірацца роты, палкі і сьцяною расьцякацца па фронту.

(З апавяд. Якаўлева „Мужыкі").

## § 73. Канчатак слова (флексія).

Формальныя часткі слова бываюць дваякага роду. Адны з гэтых частак, зьмяняючы форму слова, зусім не парушаюць яго агульнага значэньня, яго ўнутранага матар'яльнага сэнсу: вад-*а*, вад-*ы*, вад-*ою* вад-*амі* і г. д.; другія-ж, наадварот, і служаць толькі для таго, каб надаваць слову ці кораню новы зьмест, новае матар'яльнае значэньне.

(Аб апошніх формальных частках слова глядзі ў наступным параграфе).

Першыя з азначаных формальных частак называюцца **канчаткамі слова**. Канчаткамі яны названы, відавочна, таму, што знаходзяцца звычайна ў канцы слова: Пол-*е*, пал-*ямі*, пал-*ёў*.

Але-ж трэба заўсёды мець на ўвазе, што ня ўсякая граматычная частка слова, што знаходзіцца ў канцы, будзе канчаткам. Так, калі мы возьмем слова *стол*, дык гук *л* зусім не зьяўляецца яго канчаткам, бо гэта гук карэнны, і ніякае формальнае часткі ён тут не прад-

стаўляе. Таксама калі мы возьмем слова *стол-ік* (з формальнаю часткаю *ік*), дык і тут ня будзем мець канчатку, як формальнай частк слова, бо формальная частка *ік*, прылучыўшыся да кораню *стол*, унесла ў само слова іншае разуменьне, значыць, утварыла новае слова з новым зусім зьместам (*стол*—прадмет звычайны; *столік*—предмет маленькі). А вось калі мы скажам столік-*а*, столік-*ам*, столік-*і*, столік-*у*, дык формальныя часткі *а, ам, і, у* будуць бязумоўна канчаткамі, бо яны, зьмяняючы форму самога слова, зусім не датыкаюцца яго ўнутранога зьместу: усе формы даных слоў гавораць нам аб адным і тым-жа прадмеце—маленькім століку ў адзіночным ці множным ліку.

У граматыцы канчатак слова называецца яшчэ **Флексіяй**. Флексія—слова лацінскае; на нашей мове яно значыць „гібкая частка", А „гібкаю часткаю" (флексіяй) можна назваць і называюць канчатак таму, што ён—адзіная формальная частка ў слове, якая, зьмяняючыся, зьмяняючы, „згібаючы" форму слова, не парушае значэньня самога слова.

У вышэй паданым радзе слоў (*стол-ік-а, стол-ік-у* і г. д.) формальных частак дзьве. Калі мы зьмянялі канчатак (флексію) *а* на *ам і, у* і др., дык *столік* столікам у нашай сьвядомасьці так і заставаўся. А вось заменім другую формальную прыналежнасьць слова *століка*, выкінем *ік*, а на яго месца ўставім *іц*. Атрымаем слова *стал-іц-а*, якое мае вельмі далёкі агульны зьмест з словам *столік*. Значыць, формальная частка *ік* і формальная частка *іц*, што могуць стаць у слове адно замест другога, быць прылучанымі да канчатку-флексіі ніяк ня могуць.

Якое-ж значэньне мае канчатак у мове? Дзеля якое патрэбы ён існуе?

З рольлю канчаткаў у мове мы ўжо часткова знаёмы. Працуючы над граматычным матар'ялам § 8 другога заданьня, будуючы з шэрагу слоў стройныя і зразумелыя сказы, мы ўвесь час мянялі адну форму слова на другую, мяняючы выключна іх канчаткі. А мяняць канчаткі патрэбна было для таго, каб правільна з граматычнага і лёгічнага боку ўвязаць у сказе адно слова з другім, без чаго самы сказ, як мы бачылі, ня мог мець ніякага сэнсу.

Заўважце:

1. Канчатак ці флексія ёсьць зьменная формальная частка слова, якая звычайна знаходзіцца ў канцы слова і якая служыць для правільнае граматычнае і лёгічнае сувязі слоў у сказе.

2. Канчаткі, зьмяняючы форму слоў, зусім не парушаюць іх агульнага зьместу, а толькі ўстанаўляюць, як зазначана вышэй, іх узаемаадносіны ў сказе.

*ЗАДАЧА 103.*

Сьпісаць словы, канчаткі выдзеліць і падкрэсьліць

Узор: дом, домік, домік-ам, дам-ы, дам-амі.

Пень, пянек, пяньком, пянькамі, пянечкі, людзі, людзьмі, людны, бязлюдзьдзе, добры, добрых, дабрата, добрымі, добрае, слава, слаўны, слаўнымі, чырвонымі, чырвоную, чырвоненькі, чырванаватая.

## § 74. Суфікс і прыстаўка.

Зьвернемся цяпер да другога парадку формальных слоўных частак, аб якіх крыху гаварылася ў папярэднім параграфе.

Возьмем рад слоў і прааналізуем іх з боку граматычнага складу: *рук-а*, рук-*ав*-ы, руч-*нік*-і, *па*-рук-а, *пад*-руч-*нік*-і, *на*-рук *аў-нік* і.

Усе словы аднаго і таго-ж кораню *рук;* усе яны маюць канчаткі флексіі (*і, ы, а*) і ўсе яны, за выключэньнем першага слова, маюць *ня толькі* канчаткі, а і іншыя формальныя часткі, у словах вылучаныя курсывам. Зьвярнеце ўвагу на тое, што адны з гэтых іншых формальных частак маюць месца паміж коранем і флексіяй рук-*ав*-ы, руч-*нік*-і, а другія—перад коранем (*па*-рук-а, *пад*-руч-*нік*-і, *да*-руч-*эньн*-е).

Заўважце:

1) Формальныя часткі слова, што знаходзяцца паміж коранем і канчаткам, называюцца **суфіксамі**, ці проста **ўстаўкамі**, а што знаходзяцца перад коранем—**прыстаўкамі**.

2) Суфіксы і прыстаўкі служаць для таго, каб ад карэньняў утвараць новыя словы ці з іншым адценьнем аднаго-ж і таго-ж разуменьня (*мам-а, мам-к-а, мам-ач-к-а*), ці з зусім новым матар'яльным зьместам (*дарог-а*, дарож-*н*-ы, *пры*-дарож-*н*ы).

3) Суфіксы, як агульнае правіла, маюць месца ў слове паміж коранем і канчаткам. Бываюць аднак, выпадкі, калі суфіксы займаюць канцавое палажэньне ў слове: брат-*ок*, дом-*ік*, садз-*ік*, квас-*ок*, і др. Але як ужо было зазначана ў папярэднім параграфе, канцавы стан суфіксу ні ў якім разе ня робіць яго канчаткам (флексіяй), бо суфікс і канчатак розьняцца не сваім палажэньнем у слове, а сваімі граматычнымі функцыямі, аб якіх гаварылася вышэй.

4) Пры дапамозе суфіксаў (прыставак таксама) выпадае часта ўтвараць новае слова не ад кораню непасрэдна, а ад слова, якое ўжо мае суфікс: друк-*ар*, друк-*ар-ых-а*, друк-*ар-оў-н*-а, друк-*ар-н-я*. Вось чаму ў слове можа быць суфіксаў не адзін, а некалькі: гаспад-*ар-к*-а, гаспад-*ар-н-асьць*. Тое-ж самае і з прыстаўкамі: летась, *за*-летась, *па-за*-летась; *за*-меж-н-ы, *па-за*-меж-н-ы.

5) Многія прыстаўкі могуць існаваць і існуюць у мове, як асобныя дапаможныя словы (*з, у, ў, пад, над, ад, на, да* і друг.), але-ж яны тады ўжо не зьяўляюцца прыстаўкамі, а так званымі прыназоўнікамі, якія пішуцца з называльнымі словамі заўсёды асобна; прыстаўкі-ж ніколі асобна ад слова на пісьме ня ўжываюцца.

6) У прыстаўках *з*, *без* (*бяз*), *цераз*, *уз*, *раз*, перад глухімі зычнымі адбываецца асыміляцыя звонкага гуку „*з*“. Ён, стаўшы перад глухімі зычнымі, заўсёды гучыць, як адпаведны яму глухі гук *с* (*бес*падстаўны, *ус*хадзіўся, *рась*пісаўся). Гэтая гукавая зьява перадаецца і на пісьме, чаму ў азначаных прыстаўках (толькі ў прыстаўках) перад глухімі і на пісьме будзем спатыкаць *с*, а ня *з*: *рас*чыніць, *ус*катурхаць, *бес*парадны, *с*парахнелы і друг. (Больш падрабязна глядзі заданьне 4-е §, 49 вывад, п. 4 і § 50, вывад 3, п. 4).

*ЗАДАЧА 104.*

Сьпісаць словы, раскладваючы іх на граматычныя часткі, корань і канчаткі падкрэсьліваць.

Узор: бел-ы, бел-ават-ы, бел-еньк-імі, па-бел-ен-ы.

Гар, гарэлы, прыгарка, загарэлыя; веды, вядомы, сьвядомыя, сьведка пасьведчаньне, выведваньне; магу, магчымасьць, перамога, недамаганьне; казаць, казка, наказ, пераказы, расказы, пераказчыкі; цяга, цяганіна, выцяжка, зацяжны, цягнік.

*ЗАДАЧА 105.*

Выпісаць з верша словы, што маюць прыстаўку, суфікс, ці тое і другое разам, вылучваючы гэтыя формальныя часткі паводле ўзору папярэдніх прыкладаў і падкрэсьліваючы іх простаю рысаю.

ЗАЯВА (урывак)

Энтузіязм мас
    ня зьмерыць
барометрам
    плянаў
    програм...
У будучнасьць шчасную вера
дадзена нам!
І ўсё-ж,
    хоць наперад
мы крочым упарта,
'шчэ маем прарывы
і шмат перашкод.
Загадала
    комуністычная партыя
стрэць па-ўдарнаму
    трэці год.
Таму неадкладна трэба
памножыць на сотні
    энэргію мас,

Каб трубы заводаў
узьняліся ў неба,
каб
створаны быў
усесаюзны калгас...

**Ракіта.**

*ЗАДАЧА 106.*

Ад ніжэй паданых карэньняў утварыць рад новых слоў; прыстаўкі і суфіксы падкрэсьліваць:

*Дом, сад, горад, нага, каса, акно, кліч, высь, язда, ігра, суд.*

## § 75. Аснова слова. Словы карэнныя і вытворныя.

*З папярэдніх параграфаў мы бачым,* што форменае слова з граматычнага боку можа складацца:

1) З аднаго кораню: *чалавек, ночь, дзень, май, сад.*

2) З кораню і канчатку, што непасрэдна прымыкае да кораню чалавек-*ам*, ноч-*амі*, сад-*ы*.

3) З кораню і суфіксу без канчаткаў-флексій вол-*ік*, дам-*ок*, кан-*ёк*, садз-*ік*, брат-*ок*.

4) З кораню, суфіксу (адною ці некалькіх) і канчатку: карт-*ач-к*-а, мам-*ач-к*-а, соцыял-*іст*-ы, камун-*іст-ыч-н*-ы.

5) З кораню, прыстаўкі, суфіксу ці суфіксаў і канчатку: (па-*дар*-к-і, па-*дар*-ун-к-і, *па-дар-ун-ач-к-і*.

З усіх граматычных частак слова зьменнаю, „гібкаю“ часткаю зьяўляецца толькі канчатак (флексія), зьменнасьць якога патрэбна для граматычнага злучэньня слоў у сказе. Уся астатняя частка слова, ці складаецца яна толькі з кораню, ці з кораню і астатніх формальных элемэнтаў, застаецца ў гэтым выпадку заўсёды нязьменнаю. Роль гэтае астатняе часткі слова (за выключэньнем флексіі)—укладваць у слова належны зьмест, прыдаваць яму патрэбнае рэальнае значэньне.

Заўважце:

1) Частка слова, узятая без канчатку (флексіі), называецца **асноваю слова.**

2) Корань слова, які разам з канчаткам ці нават без канчатку можа зьяўляцца цэлым словам, называецца таксама **асноваю,** але толькі **першапачатковаю,** ці **нявытворнаю асноваю.** Затое аснова, у склад якое ўваходзяць суфіксы, прыстаўкі ці суфіксы і прыстаўкі разам, называецца **вытворнаю асноваю:**

*Луг, дарог*-а, *маст*-ы, *двар*-ы—словы з нявытворнаю асноваю;

*Луж*-ок, *дарож-ач-к*-а, *па-мост, па-на-двор*-ак—словы з асноваю вытворнаю.

Словы, што ўключаюць у сябе толькі корань (нявытворную аснову) ці корань і канчатак, называюцца **карэннымі словамі**: *дам-ы, вёск-а, горад, рэк-і*; словы-ж, якія маюць аснову вытворную, называюцца **вытворнымі словамі** (чаму?): *сел-ян-ін, на-стаў-нік, па-рад-а.*

*ЗАДАЧА 107.*

Сьпісаць словы, нявытворную аснову падкрэсьліць дзьвюма рысамі, а вытворную аднэю; канчаткі аддзяліць працяжнікам.

Узор: бяроз-а, бярэзінк-а, падбярозавік;

Дума, задуманы, выдумка; работа, работнік, рабілі, рабі, заработкі; веды, вядомы, паведамленьне, ведамасьць; вяду, вядзі, повад, паводзіны, правадыр, праваднік; лік, лікавыя, разьлікі, лічба, прылічаны.

*ЗАДАЧА 108.*

З пададзенага верша выпісаць спачатку словы карэнныя, потым словы вытворныя; у тых і другіх словах аснову падкрэсьліць, канчатак адасобіць.

Узор: 1. Словы карэнныя: вад-а, карысьць, карысьц-і.
2. Словы вытворныя: бярозавік, падбярозавік-амі.

КАДРЫ:

Ударна працуе
　　краіна мая—
Краіне маёй
　　ня сьпіцца...
Час адпачыць?..
　　—Часу няма:
Трэ' працаваць
　　і вучыцца...
Шырыцца мілямі
　　фронт перамог
Крокі наперад
　　упартыя.
Не,
　　мы ня згубім дарог:
Наш правадыр—
　　партыя!

**Ракіта.**

## § 76. Чаргаваньне гукаў. Беглыя галосныя.

Корань, як і ўсякая аснова, зьяўляецца нязьменнаю граматычнаю часткаю слова. Тым ня менш у процэсе словаўтварэньня, а таксама і пры словазьменнасьці прыходзіцца іншы раз назіраць зьмену паасоб-

ных гукаў і ў самым корані, часьцей замену аднаго гука другім: рук-а, руч-к-а, руц-э; дуг-а, дуж-к-а, дуз-е; ног-і—нага, сель-ск-і, сял-о і г. дал.

Такая гукавая зьмена паасобных гукаў у корані ці наогул у аснове слова называецца чаргаваньнем гукаў і адносіцца да зьяў чыста фонэтычнага, а не граматычнага парадку.

Галоўнейшыя выпадкі чаргаваньня гукаў у беларускай мове наступныя:

а) у галіне галосных:

*о*(*ё*)—*а*(*я*): росы—*ра*са, сёлы—*ся*ло
*э*(*е*)—*а*(*я*): рэчка—*ра*ка, *ле*с—*ля*сы
Глядзі § 25 „Аканьне"

б) у галіне зычных:

*г-ж-з*: лу*г*—лу*ж*ок—(на) лу*з*е
*к-ц-ч*: ру*к*а—(на) ру*ц*э—ру*ч*ка
*х-с ш*: стра*х*а—(на) стра*с*е—стрэ*ш*ка
*д-дзь*: ва*д*а—ва*дз*іца
*т-ць-ч*: рос*т*—рась*ц*еш

Нарэшце варта адзначыць яшчэ тое, што карэнныя гукі *„о"*—*ё*(*я*) часам могуць зусім зьнікаць: *сон—сну*, *дзень*, *дня*, *бяру—браць*.

Такія галосныя так і называюцца **галоснымі беглымі**.

*ЗАДАЧА 109.*

Выявіць магчымае чаргаваньне зычных у наступных словах:

дарога, дуга, плугі, нага, рака, шапка, кучка; ціха, ліха, муха, завіруха; мазь, грозьба, касьба, голас, мысль; горад, гарод, блудзіць, радзіць, судзіць; сьвет, муціць, лятаць; вяду, брыду, яда; трэскі, піск.

## § 77. Словы простыя і складаныя. Правапіс складаных слоў.

Пераважная большасьць слоў, карэнных ці вытворных, мае адзін корань. Але-ж спатыкаюцца словы, у якіх не адзін, а два карані: *параход, зямляроб, чужаземец* і др. Словы з адным коранем называюцца **простымі словамі**, а з двума—**складанымі**.

Часткі складанага слова часьцей злучаюцца між сабою так званымі злучальнымі галоснымі *о е* (не пад націскам *а-я*): *куродым, сухедні, зямляроб, уладалюбец, агняўпарты.*

Часам злучальнаю галоснаю зьяўляецца гук *і*: *пяцігодка, сямілетка.*

Спатыкаюцца складаныя словы і бяз усякае злучальнае галоснае: *трохпавярховы, паўдзесятка, абыякавы, шматпольле* і др.

З правапісу складаных слоў неабходна заўважыць наступныя правілы:

1. Злучальныя галосныя *о-е*, як і ўсюды ў мове, чуваць выразна толькі пад націскам; не пад націскам на іх месцы чуецца і пішацца *а-я: сенажаць, сінявокі, сьвячасовы.*

2. Калі націск прыпадае на другую частку складанага слова, дык кожная частка пішацца так, як пісалася-б яна, будучы адасобленаю: *белабокі, вялікаселец, вярбалоз, доўгавязы, дробнабуржуазны, мовазнаўства, сэрдабольны, штодзённы.*

3. Словы, зложаныя з *паў* (палавіна) ці *палу*, ня маюць злучальных гукаў і беспасрэдна далучаюцца адно да другога: *паўгода, паўпуда, паўдарогі, палудзень* і г. д.

4. Калі складанае слова зложана з цэлых слоў, што адзначаюць назву аднаго якога-небудзь прадмета, прыметы ці дзеяньня, дык гэтыя словы пішуцца з злучком: *вясельле-разгул, Дунай-рака, каліна-маліна, папараць-кветка, салавей-птушка, хлопцы-малойцы; цёмна-сіні, пацяклі-паплылі, узбудую-узьвяду, цёмна-зялёны* і г. д.

*ЗАДАЧА 110.*

Утварыць і запісаць складаныя словы з асноў наступных простых слоў, ужываючы, дзе будзе патрэбна, адпаведныя суфіксы і канчаткі.

Сам + цьвет, тавар + абмен, зьвер + лавіць, зямля + рабіць, пяць + + канец, сем + міль, сіні + вока, дробны + буржуй, мова + знаць; палавіна + кош; палавіна + чвэрць; палавіна + дзень; чорны + зялёны Масква + рака; ружа + кветка; зямля + маці.

## Б. З СЫНТАКСУ.

*ЗАДАЧА 111.*

Паўтарэце з заданьня 4-га § 66, 67, 68, 69—„Заўвагі" і адкажэце пісьмова на пытаньні:

1. Якія сказы называюцца складанымі сказамі?
2. Якія віды складаных сказаў вам вядомы?
3. Якія вам вядомы віды складана-злучаных сказаў?
4. Якія злучнікі ўжываюцца ў складана-злучных злучнікавых сказах?
5. Якія знакі прыпынку маюць месца ў складана-злучаных сказах:
   а) пры злучнікавым злучэньні?
   б) пры злучэньні бяззлучнікавым?
6. Чым у асноўным вызначаюцца складана-залежныя сказы ў параўнаньні з сказамі складана-злучанымі?

### Складана-залежныя сказы.

**§ 78. Сказ асноўны, ці галоўны і сказ дадаsucceeded, ці залежны.**

Дык так, складана-залежныя, як і ўсякія іншыя складаныя сказы, вызначаюцца тым, што іх можна раскласьці на шэраг простых сказаў—два, тры і г. д.

І люба мне глядзець на поле (*першы сказ*),
Дзе колас гнецца да зямлі (*другі сказ*),
Дзе радасьць ясная і воля
Наўкол ўсё чыста абляглі (*трэці сказ*),

Гурло.

Істотная-ж асаблівасьць складана-залежных сказаў у параўнаньні з складана-злучанымі тая, што **простыя сказы ў іх нераўнапраўны, нераўназначны між сабой.** Сярод усіх простых сказаў складана-залежнае фразы заўсёды будзе адзін такі сказ, у якім, па-першае, захавана асноўнае значэньне ўсяе складанае фразы, і які, па-другое, мае пэўны закончаны сэнс і бяз злучэньня з астатнімі простымі сказамі данае фразы. У прыведзеным урыўку такім сказам зьяўляецца першы сказ:

*І люба мне глядзець на поле...*

У гэтым сказе, па-першае, сапраўды ўкладзена ўсё тое асноўнае, што аўтар хоча сказаць усім урыўкам, і, па-другое, гэты сказ сам па сабе дае нам поўнае разуменьне аб тым, што іменна хоча сказаць нам аўтар.

Зусім іншае палажэньне займаюць у складана-залежнай фразе астатнія простыя сказы, будзь іх адзін, два і больш. Узятыя самі па сябе, яны нам будуць незразумелымі, г. зн., што бяз сувязі з першым сказам мы ня будзем уяўляць сабе, якая іменна думка крыецца ў сказах гэтага другога парадку.

І сапраўды, што, якое ўяўленьне даюць нам самі па сабе, без увязкі з першым сказам, два астатнія сказы прыведзенага вышэй урыўку?

„*Дзе колас гнецца да зямлі*"...
„*Дзе радасьць ясная і воля*
*Наўкол усё чыста абляглі*"...

Роўна нічога. Толькі ўвязаўшы гэтыя сказы з першым, у якім, паўтараем, сконцэнтравана асноўнае значэньне ўсёй фразы, мы зможам убачыць, які сэнс, якое значэньне і яны маюць у складанай фразе. Значыць, сказы другога парадку, сказы самі па сабе незразумелыя, уводзяцца ў складаныя фразы толькі як дадатак да першага сказу і становяцца ў поўнай меры ад яго залежнымі.

У такіх суадносінах будуць простыя сказы ў любой складана-залежнай фразе. Адзін з усіх сказаў будзе выражаць сабою асноўнае, ці галоўнае палажэньне ўсяе складанае фразы; ён, узяты сам па сабе, будзе для нас зусім зразумелы. Астатнія-ж сказы будуць фігураваць толькі як дадатак да першага сказу, і сэнс іх, іх значэньне суцэльна будзе залежыць ад першага асноўнага сказу.

Заўважце:

1. Складана-залежныя сказы прадстаўляюць сабою комплекс простых нераўназначных сказаў.

2. Сказ, у якім сконцэнтравана асноўнае палажэньне ўсяе складанае фразы, і які сам па сабе мае належны сэнс, называецца **асноўным ці галоўным сказам**, а іншыя сказы, сэнс і значэньне якіх суцэльна залежаць ад сказу асноўнага, называюцца **сказамі дадзенымі, ці залежнымі.**

3. Асноўных, ці галоўных сказаў у складана-залежнай фразе будзе заўсёды толькі адзін, а дадзеных, ці залежных сказаў можа быць адзін, два, тры і значна больш.

Увага: Складаная фраза можа мець зьмешаны характар, г. зн. у яе могуць уваходзіць і складана-злучаныя і складана-залежныя сказы. Пры такіх умовах магчымы не адзін, а два і больш асноўных сказаў.

4. Простыя сказы ў складана-залежнай фразе аддзяляюцца коскаю, а часам і коскай з кропкаю, аб чым глядзі § 8 „Заўвага 2-я".

*ЗАДАЧА 112.*

Сьпішэце тэкст сказаў; асноўны сказ падкрэсьліце простаю рысаю, а залежны закручастаю.

1. Нявольнік на палавіну перастае быць нявольнікам, калі ён уяўляе сабе сваё нявольніцтва.

2. Пролетарыят толькі тады перамагае, калі ён змагаецца пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі.

3. Навука рухаецца наперад клясаваю барацьбою, як ёю-ж рухаецца наўперад і ўсё астатняе.

4. Як толькі ноч суровая за небасхіл зьбяжыць, зарніца каляровая над краем задрыжыць (Александровіч).

5. Пакуль застаюцца клясы, пакуль зьвергнутая ў аднэй краіне буржуазія ўдзесяцярае свае атакі на соцыялізм у міжнародным маштабе, да тых часоў дыктатура пролетарыяту неабходна.

6. Мы павінны разумець, што толькі моцны саюз рабочых і бядняцка-серадняцкага сялянства можа захаваць соцыялістычную рэволюцыю ў нас, пакуль не наступіць такая-ж рэволюцыя ў іншых краінах.

7. Каб крочыць у ногу з рабочаю арміяй па-бальшавіцкіх вехах, і я абвяшчаю сябе ўдарнікам літаратурнага цэху.

Ракіта

8. І на палёх, дзе ветру стынь
Мяце асеньнюю дарогу,
На межах зьбітых колектыў
Удалеч трубіць перамогу.

Астапенка.

9. На сінім балоце, дзе багна і мох,
Дзе бросьня і водар багунны,
Няхай пракладзецца у будучнасьць мост
Пад рэйкамі гулкай чыгункі.

Астапенка.

## § 79. Для чаго ўжываюцца дадана-залежныя сказы?

Цікава і патрэбна ведаць, якую роль адыгрываюць даданыя, г. зн. залежныя сказы ў складанай фразе, маючы на ўвазе, што асноўнае значэньне ўсяе фразы захоўваецца ў сказе асноўным, галоўным.

Зноў возьмем прыклады і прасачым, да якіх іменна частак асноўнага сказу дадаецца сказ залежны.

1. Трактар выглядаў жывою сталёваю істотаю, нейкім дзівосным **аратаем**, *які ў хвіліну мог узорваць вялікі шнур.*

2. Сяляне **гладзілі** калёсы трактара, яго бакі, *як прывыклі яны гладзіць спрацаванага коніка.*

3. Міхась **асьцярожна**, *каб жонка ня чула,* здымаў абразы са сьцяны.

З. Бядуля.

У першай і другой складаных фразах першыя сказы асноўныя, а другія, надрукаваныя курсывам, залежныя сказы. У трэцім складаным сказе, сказ, надрукаваны курсывам, таксама залежны сказ, але-ж ён робіць разрыў між членамі асноўнага сказу, ён ўстаўлен у сярэдзіну яго (заўважце гэта).

Цяпер прачытайце толькі асноўныя сказы ўсіх трох складаных фраз:

1. Трактар выглядаў жывою сталёваю істотаю, нейкім дзівосным **аратаем.**

2. Сяляне **гладзілі** калёсы трактара, яго бакі.

3. Міхалка **асьцярожна** здымаў абразы са сьцяны.

Адкажэце, ці патрабуюць яны ў цэлым якога-небудзь тлумачэньня накшталт таго, напрыклад, якое патрабуюць некаторыя віды складана-злучаных сказаў, вам ужо вядомыя?

Бязумоўна, не. Усе тры асноўныя сказы ў цэлым нам зусім зразумелы, і выказаная ў іх думка не патрабуе ніякага далейшага разьвіцьця, ніякага далейшага тлумачэньня, а значыць, і ніякага дадана да сябе сказу.

Учытайцеся яшчэ раз у сказы, і яшчэ раз пераканайцеся ў тым, што асноўны сказ складанае фразы дае нам зусім акрэсьленую, зусім ясную закончаную думку.

Але іншая справа з паасобнымі словамі гэтых, як і ўсякіх, сказаў.

Як ужо вам вядома (глядзі заданьне 2-е, § 10), кожнаеназывальнае слова ў сказе, г. зн. кожны яго член, можа выклікаць тое ці іншае запытаньне, можа патрабаваць, значыць, больш дасканалага свайго абазначэньня. І ў рабоце сваёй па разьвіцьці сказаў мы прымушаны былі дадаваць да такіх членаў другія словы, словы даданыя, увязваючы гэтыя апошнія лёгічна і граматычна з першымі словамі. Словам, мы прымушаны былі з кароткіх сказаў рабіць пашыраныя, разьвітыя сказы для таго, каб кожнае іх слова было чотка, ясна акрэсьлена, каб кожнае з іх у злучэньні з іншымі словамі сказу давала-б нам яснае ўяўленьне, ясны вобраз.

Але-ж часта бывае, што аднымі дадáнымі словамі, дананымі членамі нават і дужа разьвітога сказу мы ня ў сілах выказаць усёй паўнаты разуменьня, якое мы хацелі-б надаць таму ці іншаму слову нашага асноўнага сказу. І вось тут на дапамогу нам зьяўляюцца не даданыя ўжо словы, а **дадана-залежныя сказы**. Даданыя сказы, такім чынам, выступаюць у нашай мове тады іменна, калі мы не знаходзім належных даданых слоў для пашырэньня ці ўдасканаленьня нашага разуменьня аб тым ці іншым слове асноўнага сказу.

Так іменна абстаіць справа і ў прыведзеных вышэй прыкладах. У асноўным сказе першага прыкладу, у сказе, зусім ясным і зразумелым наогул, аўтару патрабавалася разьвіць, паглыбіць ці больш ярка акрэсьліць слова **„аратаем“** на пытаньне—*якім аратаем?* І аўтар, дадаўшы да гэтага слова на гэтае-ж пытаньне азначэньне **„дзівосным“** не задаволіўся гэтым і, каб яшчэ ярчэй вызначыць сваё разуменьне а *дзівосным аратаі*, ужыў ужо не даданае азначальнае слова, а цэлы даданы азначальны сказ:— . . . **дзівосным аратаем** (*якім?), які ў хвіліну мог узорваць вялікі шнур.*

У асноўным сказе другога прыкладу аўтар тое-ж самае ўчыніў са словам **гладзілі**—*(з дзейнікам):* ён разьвіў зьмест яго зноў такі цэлым даданым сказам: . . . „**гладзілі** . . . *(як?), як прывыклі яны гладзіць спрацаванага коніка*“.

Тое-ж самае мы можам назіраць і ў трэцім і ў любым прыкладзе.

„Міхась **асьцярожна** *(дзеля чаго асьцярожна?), каб жонка ня чула*, здымаў абразы са сьцяны“.

Заўважце:

1. Даданыя-залежныя сказы, такім чынам, выконваюць тую самую ролю, якую выконваюць і звычайныя даданыя-залежныя члены сказу: яны пашыраюць і паглыбляюць наша разуменьне, наша прадстаўленьне толькі аб тым ці іншым члене асноўнага сказу (дзейніку, выказьніку ці даданым слове).

2. Вось чаму дадана-залежныя сказы ў фразе залежаць па сутнасьці справы нават не ад асноўнага сказу ў цэлым, а толькі ад аднаго якога небудзь слова ў асноўным сказе, ад таго іменна слова, дзеля ўдасканаленьня зьместу якога і ўжыты самы дадана-залежны сказ. Толькі з гэтым словам асноўнага сказу дадана-залежны сказ і мае лёгічную сувязь, як мела-б такую-ж лёгічную сувязь з ім і дадана-залежнае слова.

3. Вось чаму, нарэшце, кожны дадана-залежны сказ у складанай фразе заўсёды будзе адказваць на адно з пытаньняў, на якое звычайна адказвае тое ці іншае даданае слова сказу, а то на пытаньне дзейніка ці выказьніка, калі залежны сказ будзе разьвіваць зьмест гэтых асноўных членаў сказу.

Прыклад:

*Хто шчасьлівы жыць сягоньньля,*
*Чый як сталь крамяны мускул*
*і палёт надхмарны думак,* — *2 дзейнікавыя заданыя сказы.*

**Напружэньце жорскі мускул,**
**Панатужце ўзьлёты думак.** — *Аснаўны сказ бяз дзейніка.*

Астапенка.

*ЗАДАЧА 113.*

Сьпісаць прыклады, дадана-залежныя сказы падкрэсьліць пакручастаю, а словы асноўнага сказу, з якімі лёгічна ўвязваюцца сказы дадана-залежныя, простаю рысаю.

1. На руках аратаеў мазалі працы, ад якой рукі пацямнелі, зрабіліся цяжкімі. У іх вачох спакойнасьць, якой раней ніколі ня відаць было. З тым самым імпэтам, як пры дзяліцьбе панскае зямлі, новая грамада дзеліць год на новыя шнуры. З. Бядуля.

2. Як скончылася забастоўка ў Англіі, у Міхалкі пачаліся новыя справы. Ён вельмі зацікавіўся Кітаем, дзе за апошнія гады там нешта бурыцца, кіпіць, як у катле. З. Бядуля.

3. Сяляне абступілі трактарыста, які сядзеў на машыне ў бліскучай скуранай вопратцы, з такой зацікаўленасьцю, як часам абступаюць на рынку суседа, які толькі што купіў добрага каня. З. Бядуля.

## § 80. Сказы залежныя, сузалежныя, падзалежныя.

Дык так, згодна апошняму вываду дадана-залежныя сказы нам патрэбны бываюць для разьвіцьця зьместу якога-небудзь слова ў сказе асноўным. Для гэтае опэрацыі часта бывае досыць аднаго даданага сказу. Тады і ўвесь складаны сказ будзе мець толькі два простыя сказы—асноўны і дадана-залежны:

1. Наша рабочая маса ідзе на працоўны ўздым **дзеля таго,** *каб канчаткова пахаваць капіталізм і пабудаваць у СССР соцыялізм.*

Сталін.

2. *Дзе жальба і спрадвечнае гора спавівалі ў смутак гады,* **там** сягоньня ў бяскрайнасьць прастораў пасылаюць вітаньне гудкі.

Алесін.

Заўважце 1:

Калі пры адным асноўным сказе ёсьць толькі адзін дадаsuccessfully сказ, дык ён так і завецца **дадана-залежным сказам.**

Але часта здараецца, што мы дзеля разьвіцьця зьместу аднаго і таго-ж слова ўжываем не адзін, а два і больш дадана-залежных сказаў.



Прыклад:

**За хатай поле пачыналась** (*дзе за хатай?*), **дзе жыта хораша гайдалась** (адзін залежны сказ), (*яшчэ дзе за хатай?*) **дзе рос авёс ячмень і грэчка** (другі залежны сказ).

Абодвы залежныя сказы, як гэта выразна бачна, разьвіваюць зьмест слова асноўнага сказу „**за хатай**“, больш трапна і дасканала вызначаюць месца за хатай, абодвы ў аднолькавай меры залежаць іменна ад гэтага слова „**за хатай**“ і абодва адказваюць на адно і тое-ж пытаньне—„*дзе за хатай?*“

З другога боку, часта выпадае паглыбляць дадана-залежнымі сказамі зьмест не аднаго слова, а двух і больш. Разумеецца, да кожнага такого слова прыходзіцца дадаваць і асобны дадана-залежны сказ. І зноў у складаным сказе мы будзем мець пры адным асноўным два і больш дадана-залежныя сказы, хоць і будуць яны падпарадкаваны розным словам, хоць і будуць яны адказваць часта на розныя пытаньні.

**Ад сахі, ад станкоў,**
*дзе удар малаткоў*
*загібаў непакорную сталь*
*дзеля крат, ланцугоў,* (1 залежны сказ).
**мы пайшлі ваяваць,**
*каб сваёй барацьбой*
*ланцугі раскаваць,* (2 залежны сказ).
*каб нядолю і жаль*
*у канец зруйнаваць* (3 залежны сказ).

Гартны.

У прыведзеным урыўку асноўны сказ—„**Ад сахі, ад станкоў мы пайшлі ваяваць**“.

Увага: Зьвярнеце ўвагу на ўключэньне ў асноўны сказ дадана-залежнага.

Першы дадана-залежны сказ—*дзе ўдар малаткоў загібаў непакорную сталь дзеля крат ланцугоў*“—разьвівае зьмест слова „**станкоў**“ на пытаньне—„*якіх станкоў?*“

Другі і трэці дадана-залежныя сказы лёгічна ўвязаны з выказьнікам асноўнага сказу—„**пайшлі ваяваць**“, у аднолькавай меры гэтаму слову падпарадкаваны, чаму і адказваюць на адно і тое-ж пытаньне—„*дзеля чаго пайшлі ваяваць?*“. Заўважце, што гэтыя два сказы, як і даданыя сказы ў першым прыкладзе, адпавядаюць паўторным аднародным сказам складана-злучанае фразы і нават аднародным паўторным членам зьлітага сказу. (Глядзі задачы 4-е, § 68.—Вывад—разьдз.).

Заўважце 2:

1. Калі ў складанай фразе ёсьць некалькі дадана-залежных сказаў, што лёгічна злучаны з адным і тым жа ці з рознымі словамі аднаго асноўнага сказу, дык такія сказы называюцца ня проста залежнымі, а сузалежнымі сказамі. У першым прыкладзе два, а ў другім тры сузалежных сказаў (*праверце*).

2. Калі некалькі сузалежных сказаў падпарадкаваны аднаму і таму-ж слову, тады яны адказваюць на адно і тое-ж пытаньне *(глядзі ўвесь першы прыклад і канец другога)* і нагадваюць складана-злучаныя сказы з інтонацыяй пералічэньня. Паміж такімі сказамі, як сказамі аднае і тае-ж складанае фразы, ставіцца коска. Пры значнай-жа пашыранасьці такіх сказаў між імі ставіцца, замест коскі, коска з кропкай.

Прыклад:

Мільёны драбнейшых сялянскіх гаспадарак аб'яднаюцца ў колектывы. Утвараюцца грамадзкія буйныя сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы, дзе ўжо з посьпехам могуць прымяняцца сучасныя сельска-гаспадарчыя прылады і мэханічная цяга, дзе адбываецца найбольш завостраная барацьба, дзе тысячы эксплёататараў-кулакоў губяць магчымасьць эксплёатаваць мільёны вызваленых ад нявольніцтва эксплёатацыі.

М. Калінін „Правда".

2. Прыслухайся, дружа, як у сінюю муць,
У раньняй расе і тумане
Сталёвыя госьці па полі плывуць,
Упоперак межы ламаюць; — першы сузалежны сказ (зьліты)

Як глуха трашчыць застарэлы быльнёг
на жорсткім адвечным узьмежку; — другі сузалежны сказ

Як буйнае сонца з вясёлым агнём
Сталёвыя плавіць усьмешкі. — трэці сузалежны сказ.

Астапенка.

Вельмі часта здараецца і так, што нам патрэбна бывае ўжыць залежны сказ для таго, каб разьвіць зьмест слова не асноўнага сказу, а залежнага-ж. У такім выпадку ў нас атрымаецца складаная фраза, у якой залежныя сказы будуць падпарадкаваны ня толькі асноўнаму сказу, а і залежнаму. Такім чынам могуць утварацца дадана-залежныя сказы першага парадку, што падпарадкаваны непасрэдна асноўнаму сказу, потым дадана залежныя сказы другога парадку, што залежаць ужо ад залежных сказаў першага парадку, далей могуць быць залежныя сказы трэцяга парадку і г. д.

Заўважце:

I. Такія дадана-залежныя сказы, якія разьвіваюць тое ці іншае слова другога залежнага сказу, якія, значыць, і падпарадкуюцца гэтаму другому залежнаму сказу, называюцца ня проста залежныя і ня сузалежныя, а **падзалежныя сказы.**

2. Падзалежныя сказы, як залежныя і сузалежныя, аддзяляюцца ад іншых сказаў свае складанае фразы толькі коскаю.

Прыклад 1.

Гэй, хто ня ўмёр, гэй, сябар працы!
Бяры аружжа і—ў агонь,
каб адабраць усе палацы,
*што паўзьняла твая далонь!*

Моркаўка.

Першы радок—зваротак і да сказаў не належыць. **Асноўны** сказ *„Бяры аружжа* і—ў агонь", **залежны сказ**: *„каб адабраць усе палацы"*; **падзалежны**—*„што паўзьняла твая далонь"*, бо апошні сказ залежыць ужо ад сказу залежнага, разьвіваючы слова **палацы** на пытаньне—*якія палацы?"*

Прыклад 2.

**Кітайская рэволюцыя будзе жыць і разьвівацца**, бо яна падняла дзясяткі мільёнаў да вялікае рэволюцыйнае творчасьці, бо яна паднімае сотні мільёнаў нявольнікаў, *якія ня хочуць насіць ланцугоў свайго нявольніцтва.*

У фразе першы сказ—асноўны, два далейшыя, што разьвіваюць выказьнік „будзе жыць" асноўнага сказу—сказы **сузалежныя**, бо абодва яны падпарадкаваны аднаму асноўнаму сказу і нават аднаму і таму-ж слову (... *будзе жыць* чаму?"); нарэшце апошні сказ, надрукаваны курсывам, **сказ падзалежны**, бо ён падпарадкаваны не асноўнаму, а залежнаму сказу першага парадку (**„нявольнікаў якіх?"**).

*ЗАДАЧА 114.*

Сьпісаць прыклады, расставіць знакі прыпынку, залежныя сказы падкрэсьліць пакручастаю, а словы, з якімі лёгічна яны зьвязаны, простаю рысаю.

1. Народны настаўнік павінен быць пастаўлен на такую вышыню на якой ён не стаяў і не стаіць і ня можа стаяць у буржуазным грамадзтве.

Ленін.

2. Асінаўская электрастанцыя будуецца ў мясцовасьці дзе багата торфу дзе яго хопіць больш чым на сто год.

3. І вось тым, Масква,
ты значна для плянэты
што ў табе паустаньняў моцна зерне
што злучаюць ніткі Комінтэрна
усіх
хто воляй к барацьбе сагрэты.

Лявонны.

4. Я хацеў-бы пяяць як пяе
цёмны бор непагодаю
каб вакол абуджаць
зыкам песьні свае
хто ня кінуў 'шчэ спаць
пад нядоляй-нягодаю

Гартны.

5. Я хачу жыць
хачу ў жыцьці змагацца
хачу злучыць жыцьцё
ў адзіны творчы рух
каб іскрамётамі
гарэла мая праца
каб творчы мой запал
ніколі не патух

Каб разам церабіць
шляхі да простай мэты
каб пот і кроў праліць
за справу тых ідэй
каб словы палкія
пявучыя поэты
ўзьнімалі творчы дух
і сілу у людзей.

Я маладасьць аддам
аддам юнацтва сілу
аддам сваё жыцьцё
прыгожым сьветлым днём
каб ліхалецьце нас
ніколі не спаткала
каб стрэхі нашых хат
ня драла грузаньнё.

Няхай мая рука
шліфуе гукі песень
няхай мой творчы дух
зьнімае слоў імпэт
я з радасьцю пайду
да новага прадвесьня
каб песьняй прывітаць
бурлівы наш сусьвет

Хведаровіч.

6. Каля рэчкі-шумнацечкі
выцьвілі гады
дзе хіліліся мястэчкі
стануць гарады
дзе пярсьцёнкі ніцых межаў
аплялі палі
глебу трактарам узрэжуць
снайпэры зямлі
лемяшом сталёвым грызьці
без мяжы прастор
дзе калісьці кволым лісьцем
захлынаўся бор.

**Лявонны.**

## § 81. Параўнальныя сказы.

Параўнальныя сказы складаюць асобы від залежных (таксама сузалежных і падзалежных) сказаў, якія вызначаюцца тым, што вельмі часта бываюць сказамі няпоўнымі і досыць кароткімі: выражаюцца, напрыклад, часта адным дзейнікам, а то толькі аднымі даданымі словамі.

Прыклады:

1) Густая высокая трава калыхалася, *як мора.*

2) Кругом, бы лес, шуміць збажжына.

Увязваюцца параўнальныя сказы з сваім асноўным сказам часьцей за ўсё злучальным словам *як, бы, нібы* і друг.

*Як нідзе на сьвеце,*
У Ленінскім сталецьці
балоты, *як акопы*
капаюць землякопы.

**Александровіч.**

Асноўны сказ тут—„у Ленінскім сталецьці балоты капаюць землякопы“.

Першы параўнальны сказ—„*як нідзе на сьвеце*“, ня мае ні дзейніка, ні выказьніка—сказ няпоўны;

Другі параўнальны сказ—*як акопы*—складаецца толькі з аднаго дапаўненьня *акопы* і злучальнага слова *як.*

Параўнальныя сказы, як і ўсякі даданы сказ, вылучаюцца коскаю, калі яны стаяць з пачатку ці ў канцы складанае фразы, і дзьвюма коскамі, калі яны ўключаны ў асноўны сказ.

*ЗАДАЧА 115.*

Сьпісаць, выдзеліць коскамі параўнальныя сказы і падкрэсьліць іх пакручастаю рыскаю.

1. Вось адна як струна
Сасонка расла
У бязмежным бары-гушчары

Загудела піла
Застагнала сасна
Пры дарозе
Як сьлёзы апілкі

Сасонка расла
Як струна
З ёю сосны як тыя асілкі.

**Александровіч.**

2. ПЯЦІГОДКА

(Урывак)

Шырокае поле, мае вы загоны!
Таемныя шэпты і сьпеў каласоў...
Як вецер шумлівы
Як вецер залётны
Цягнік прыпыніўся ля сініх лясоў
Ї ў працы напорнай і ў працы магутнай
Праплыў па-над полем над вёскаю час
Ї вырас на ніве як волат чыгунны
Як дзень параможны калгас
О поле бязмежнае,
Любае поле!!
Сягоньня і ты як жыццё расьцьвіцеш
Дзе ўсе мы ахоплены творчаю воляю
Дзе праца як волат дзе сэрца як цэх!

**Куляшоў.**

## § 82. Устаўныя дадана-залежныя сказы.

Дадана-залежныя сказы ў адносінах да сваіх асноўных сказаў могуць займаць і займаюць у скаданай фразе рознае палажэньне. Яны могуць стаяць перад асноўным сказам (*хто сэрцам сьмел,* той пераможа), могуць стаяць і пасьля асноўнага. (Той пераможа, *хто сэрцам сьмел.* Мы хочам, *каб на зямі ўсе былі шчасьлівы*); нарэшце, дадана-залежныя сказы могуць устаўляцца ў сярэдзіну асноўнага, разрываючы,

такім чынам, яго члены, лёгічна і граматычна між сабою ўвязаныя. Вось на гэты апошні від разьмеркаваньня ў складанай фразе дадана-залежных сказаў і патрэбна зьвярнуць належную ўвагу.

Возьмем прыклады:

1) Міхась асьцярожна, *каб жонка ня чула*, здымаў абразы са сьцяны (Бядуля).

2) Бой, *што пачаты ўжо з богам*, мы давядзем да канца (Крапіва).

У абодвух прыкладах дадана-залежныя сказы ўстаўлены між членамі асноўнага сказу і, на што асабліва патрэбна зьвярнуць увагу, кожны з іх выдзелены з абодвых бакоў коскамі. Коскі паказваюць, што ўстаўныя дадана-залежныя сказы павінны выдзяляцца з асноўнага і інтонацыйна. Гэта значыць, што перад дадана-залежным сказам і пасьля яго абавязкова патрэбна зрабіць невялічкую паўзу (паўзу коскі) з адпаведным павышэньнем голасу (інтонацыя коскі).

Міхась асьцярожна, ↗ *каб жонка ня чула*, ↗ здымаў абразы са сьцяны. ↘

Бой, ↗ *што пачаты ўжо з богам*, ↗ мы давядзем да канца.

Устаўным можа аказацца не адзін, а два і некалькі дадана-залежных сказаў як сузалежных, так і падзалежных.

**Там,** *дзе жыцьцё*
*бурліць крыніцай,* } (1 устаўны сказ—залежны)
*каб змрок ня пляміў*
*люстра дзён,* } (2 устаўны сказ—падзалежны)
**зьнімалі з ветхае званіцы**
**пазелянелы стары звон.**

**Лявонны.**

Якія-ж прычыны прымушаюць нас учыняць часам устаўку дадана-залежных сказаў у асноўны, учыняць разрыў паміж членамі аднаго і таго-ж сказу?

Гэтых прычын дзьве. Першая прычына—гэта тое, а ня іншае разьмеркаваньне слоў у асноўным сказе, тое, а ня іншае разьмеркаваньне ў ім паўз і лёгічных націскаў (глядзі заданьне 2-ое, п. 12). Другая прычына тая, што для яснасьці мовы патрэбна, каб залежныя сказы па магчымасьці стаялі ці пры самым тым слове асноўнага сказу, дзеля разьвіцьця якога яны ўжыты, ці ва ўсякім выпадку недалёка ад яго.

Каб праверыць гэта, папрабуйце зрабіць перастаноўку залежных сказаў у вышэйпаданых прыкладах, паставіўшы іх наўперад з пачатку, а потым у канцы асноўнага сказу. Такая перастаноўка павінна вам паказаць, што чым далей будзе стаяць дадана-залежны сказ ад таго слова, ад якога ён залежыць, тым цьмяней будзе думка, выражаная гэтым сказам; значнае-ж іх аддаленьне робіць незразумелым і самы залежны сказ і ўсю складаную фразу.

Прачытайце апошні прыклад, пераставіўшы два ўстаўныя залежныя сказы на канец асноўнага. Што выходзіць?

Заўважце:

1. Дадана-залежныя сказы ў адносінах да асноўнага могуць займаць траякае палажэньне:

а) стаяць перад асноўным сказам;

б) быць пасьля асноўнага;

в) нарэшце, быць устаўленымі ў сярэдзіну асноўнага сказу.

2. Дадана-залежныя сказы на пісьме аддзяляюцца коскаю як ад асноўнага сказу, так і адзін ад другога, калі іх у складанай фразе некалькі; сузалежныя-ж сказы пры значным іх разьвіцьці могуць аддзяляцца адзін ад аднаго і коскаю з кропкай, як складана-злучаныя бяззлучнікавыя сказы, што вымаўляецца з інтонацыяй пералічэньня. (Глядзі заданьне 4-е, § 68, Вывад, п. 4; § 80, заўвага, п. 2).

3. Устаўныя дадана-залежныя сказы аддзяляюцца ад асноўнага дзьвюма коскамі, з якіх адна ставіцца перад, а другая пасьля ўстаўнага сказу.

Мінуць гады, і мой жытнёвы край ў палёх сваіх, *што расьцьвітуць наўкола*, павыйдзе сьвяткаваць вялікі творчы Май.

Куляшоў.

*ЗАДАЧА 116.*

Сьпісаць сказы, расставіць знакі прыпынку, устаўныя дадана-залежныя сказы падкрэсьліць пакручастаю рысаю, а словы, ад якіх яны залежаць, простаю.

1. Піонэры што прыехалі з суседняга заводу аказалі вялікую дапамогу сялянам-калгасьнікам у іх палявых работах.

2. Чырвоная армія якая забясьпечвае мірную працу рабочых і сялян заўсёды будзе буйнейшым фактарам у справе соцыялістычнага будаўніцтва.

3. Улада якая спатыкае гарачае спачуваньне і падтрыманьне з боку шырокіх рабочых і сялянскіх мас самая трывалая ўлада.

4. Чырвоны сьцяг што паднялі рабочыя ў 1917 годзе ў гарадох ёсьць сьцяг барацьбы за комунізм.

5. Поле якое апрацоўвалася трактарамі давала найвышэйшыя ўраджаі.

6. Да працы ўсе
хто чуе сілу
пад сьцяг чырвоны
вольны сьцяг!

Чарот.

7. У старонцы расьпятай
дзе жах карагодзіў
усьміхаецца хата
ў саюзе з заводам!

Лявонны.

## § 83. Злучнікі і злучальныя словы ў складана-залежных сказах.

Прагледзьце прыклады задач, зьвярнеце асаблівую ўвагу на дадана-залежныя сказы, і вы пабачыце, што кожны з іх зьвязаны з асноўным сказам абавязкова якім-небудзь злучнікам ці злучальным словам.

Увага: *Злучнікам* мы будзем тут называць усякае бясформеннае слова, якое, не зьяўляючыся членам сказу, служыць толькі для сувязі аднаго сказу з другім. Злучальным жа словам мы будзем называць такое слова, якое таксама будзе служыць сувязьзю між двух простых сказаў у складана-залежнай фразе, але якое адначасова будзе мець пэўную граматычную форму і будзе ў сілу гэтага зьяўляцца членам таго ці іншага сказу.

Гэтыя злучнікі і злучальныя словы нічога агульнага ня маюць з тымі злучнікамі, якія ўжываюцца ў складана-злучаных сказах (глядзаданьне 4-ае, § 67. Заўвага). І слушна, там злучнікі злучаюць раўназначныя члены—сказы, а тут яны дапамагаюць нам падпарадкаваць адзін сказ другому; яны носяць і асабістую назву—**злучнікі падпарадкаваньня**. Злучнікаў падпарадкаваньня досыць многа, значна больш, чым злучнікаў проста злучальных.

Галоўнейшыя, больш хадавыя з іх наступныя:

*Калі, як, толькі, покуль:*

1. Што з таго, *калі* ваўком шалёным кіне вораг злосны покліч свой?! За наскокі, чорныя праклёны ён заплаціць уласнай галавой!

Лявонны „Штурм".

2. *Як толькі* ў процэсе разьвіцьця будуць зьнішчаны адзнакі клясаў, грамадзкая ўлада згубіць свой палітычны характар.

Па Марксу.

3. *Покуль* існуюць клясы, *покуль* нізрынутая ў аднэй краіне буржуазія ўдзесяцярае свае атакі на соцыялізм у міжнародным маштабе, да тых часоў гэтая дыктатура неабходна.

Ленін.

Злучнікі *калі, як, толькі, покуль*, як бачна з прыкладаў, ужываюцца тады, калі залежным сказам вызначаецца час дзеяньня, аб якім гаворыцца ў асноўным яго сказе.

*Дзе, куды, адкуль:*

1. Было жудасна на вуліцах пустынных, *дзе* шчасьце новае кавалі мы краіне.

Александровіч.

2. Мы ўсе ідзем, куды кліча нас компартыя.

Рэволюцыя 1848 г. дае магчымасьць Марксу вярнуцца ў Германію, *адкуль* контр-рэволюцыя прымушае ўцякаць яго ў Парыж.

Злучнікі *дзе, куды, адкуль* ужываюцца тады, калі патрэбна вызначыць залежным сказам м е с ц а дзеяньня, аб якім гаворыцца ў асноўным яго сказе.

3. *Таму што, бо:*

Вялікі чалавек зьяўляецца іменна пачынальнікам, *таму што* ён бачыць далей другіх і хоча дужэй другіх.

Пляханаў.

Сусьветная буржуазія ўзводзіць паклёп на Савецкі Саюз, *бо* адчувае сваю слабасьць.

„Правда“.

Злучнікі *таму што, бо* ўжываюцца тады, калі залежным сказам вызначаецца прычына дзеяньня ці зьявы, пра якія гаворыцца ў асноўным сказе.

4. *Каб*—ужываецца пры вызначэньні залежным сказам мэты.

Трэба было ўчыніць рэволюцыю ў розумах для таго, *каб* зрабіць рэволюцыю ў жыцьці магчымаю.

Сямкоўскі.

5. *Колькі, паколькі*—ужываецца пры выражэньні залежным сказам колькасных адносін.

Мы ня ведаем, дасканала, *колькі* часу нам будзе патрэбна для поўнага ажыцьцяўленьня ідэй комунізму. Аднак, *паколькі* шляхі нашы да комунізму правільны, мы цьвёрда ўпэўнены, што гэтыя ідэі мы ажыцьцявім.

6. *Калі,*—ужываюцца пры выражэньні залежным сказам умоўнасьці (часоўнасьці таксама).

Кожная кляса нясе за сабой сваю этыку, *калі* у яе ёсьць свой уклад жыцьця, свой падыход да рэчаіснасьці.

Луначарскі.

7. *Як, нібы*—ужываюцца пры выражэньні залежным сказам параўнаньня.

(Гл. „Параўнальныя сказы“).

8. *Хоць*—ужываецца пры так званых уступальных залежных сказах.

*Хоць* цягнік ішоў усё цішэй і цішэй, дагнаць яго было ўсё-ж такі цяжка.

9. *Як, што*—ужываюцца дзеля ўдасканаленьня і дальнейшага разьвіцьця думкі:

Прыклад:

1. Я сягодня добра чую, добра пазнаю, *як* краіну маладую молатам куюць.

2. Любы край, табе сьпяваю і складаю верш я аб тым, *што* ты ўзрастаеш і што ты ўзрасьцеш.

Куляшоў.

Усе вышэй паданыя і ім падобныя злучнікі зьяўляюцца словамі бязформенымі; членамі сказу яны не зьяўляюцца і служаць выключна для злучэньня дадана-залежных сказаў з сказамі для іх асноўнымі.

Поруч з гэтымі злучнікамі роль злучнікаў падпарадкаваньня могуць выконваць і выконваюць словы формены, называльныя словы, якія адначасова зьяўляюцца і членамі сказу і злучальнымі словамі. Да такіх злучаных слоў належаць наступныя словы:

*Які, каторы, хто, што* і друг.:

Прыклады:

1. Воля капіталістычнае грамады заўсёды застанецца прыблізна такою-ж, *якою* была воля ў старажытных грэцкіх рэспубліках: воля для рабаўласьнікаў.

Ленін.

2. Ня можа быць ніколі пазаклясавае барацьбы ці пазаклясавае ідэолёгіі ў грамадзтве, якое разьдзіраецца клясавымі супярэчнасьцямі.

3. Хто разумее пераход да соцыялізму без прыдушэньня буржуазіі, той не соцыяліст.

Ленін.

4. Хто хоць колькі-небудзь паслабляе жалезную дысцыпліну пролетарыяту, той фактычна дапамагае буржуазіі супроць пролетарыяту.

Ленін.

5. Я вітаю звонкія віхуры, што агорнуць песьнямі сусьвет.

Астапенка.

Такім чынам, складана-залежныя сказы вызначаюцца ад складаных сказаў іншых відаў тым, што ў іх заўсёды маюць месца асобныя злучнікі ці злучальныя словы, толькі. ім уласьцівыя, пры чым бяз злучнікаў ці бяз спэцыяльных злучальных слоў ня можа быць і складана-злучанага сказу.

Возьмем некалькі прыкладаў і прасочым, што можа стацца з складана-злучанаю фразаю, калі мы вылучым з яе злучнікі падпарадкаваньня (таксама і злучальныя словы), імкнучыся адначасова не парушаць па-магчымасьці агульнага сэнсу тэксту.

1. Кітайская рэволюцыя будзе жыць, *бо* яна падняла дзесяткі мільёнаў да вялікае рэволюцыйнае творчасьці, *бо* яна паднімае сотні мільёнаў нявольнікаў, *якія* ня хочуць насіць ланцугоў свайго нявольніцтва.

1. Кітайская рэволюцыя будзе жыць і разьвівацца: яна падняла дзесяткі мільёнаў да вялікае рэволюцыйнае творчасьці, яна паднімае сотні мільёнаў нявольнікаў. Яны ня хочуць насіць ланцугоў свайго нявольніцтва.

У складана-залежным сказе мы маем (глядзі левы слупок): першы сказ асноўны, далей два сузалежныя сказы (чаму сузалежныя?) з прычынным злучнікам *бо* і, нарэшце, падзалежны сказ (чаму падзалежны?) з злучальным словам *якія*.

Якая-ж комбінацыя сказаў атрымалася, калі мы вылучылі злучнікі падпарадкаваньня *бо* і злучальнае слова *якія*?

А атрымалася восьшто: сказ асноўны разам з сузалежна-прычыннымі сказамі ўтварыў адзін складана-злучаны бяззлучнікавы сказ (глядзі заданьне чацьвертае § 68, 69), апошні-ж сказ, што быў з злучальным словам *якія*, стаў зусім самастойным сказам, пры чым злучальнае слова, што было адначасова і дзейнікам залежнага сказу, падмянілася звычайным дзейнікам *яны*.

2. Мы павінны разумець, *што* толькі моцны саюз рабочых і бядняцка-серадняцкага сялянства *можа* захаваць соцыялістычную рэволюцыю ў нас, *покуль* не наступіць такая-ж рэволюцыя і ў іншых краінах.

Толькі моцны саюз рабочых і бядняцка-серадняцкага сялянства можа захаваць соцыялістычную рэволюцыю ў нас да наступленьня такое-ж рэволюцыі ў іншых, краінах. Гэта мы павінны разумець.

У даным прыкладзе, вылучыўшы злучнікі з складана-залежнага сказу, для захаваньня агульнага зьместу фразы мы прымушаны ўчыніць больш глыбокую пертурбацыю яго складаных частак—простых сказаў, а іменна:

З двух залежных сказаў утварыць адзін просты разьвіты сказ, нічым ня зьвязаны з іх былым асноўным сказам, а былы асноўны сказ перанесьці на другі плян, прыдаўшы да яго яшчэ і слова *гэта*, без якога ня было-б вядома, што іменна „*мы павінны разумець*".

3. Мы можам панесьці паражэньне, *калі* не ўладаем сродкамі барацьбы.

Не ўладаем сродкамі барацьбы—можам панесьці паражэньне.

Тут з складана-залежнага сказу з умоўным злучнікам падпарадкаваньня атрымаўся асобны від складана-злучанага сказу з больш рэзкім, з больш энэргічным павышэньнем голасу на месцы стыку двух незалежных адзін ад аднаго сказаў. Для абазначэньня рэзкасьці гэтага павышэньня ў такіх выпадках заўсёды ставіцца ня коска і ня іншы які-небудзь знак прыпынку, а іменна працяжнік.

Такога віда складана-злучаныя сказы, аб'яднаныя толькі інтонацыйна з рэзкім энэргічным павышэньнем голасу між дзьвюма складанымі яго часткамі, атрымоўваюцца заўсёды, калі адбываецца пропуск умоўнага злучніка падпарадкаваньня ў сказах складана-залежных:

Прыклады:

1. *Калі* сякуць лес, дык шчэпкі ляцяць. (Сказ складана-залежны).

*Лес сякуць—шчэпкі ляцяць.* (Сказ складана-злучаны).

2. *Калі* хочаш міру, рыхтуйся к вайне. (Сказ складана-залежны).

*Хочаш міру—рыхтуйся к вайне.* (Сказ складана-злучаны).

Які-ж агульны вывад з усяго сказанага пра злучнікі падпарадкаваньня і пра злучальныя словы ў складана-залежных сказах?

Заўважце:

1. Бяззлучнікавага злучэньня ў складана-злучаных сказах ня існуе.

2. Для злучэньня дадана-залежных сказаў з іх асноўнымі сказамі існуе досыць значная колькасьць спэцыяльных злучнікаў *падпарадкаваньня і злучальных слоў*, якія заўсёды знаходзяцца пры дадана-залежных сказах (глядзі вышэй „галоўнейшыя злучнікі і злучальныя словы“).

Увага: Некаторым злучнікам і злучальным словам пры залежных сказах часам адпавядаюць адпаведныя злучнікі і злучальныя словы пры асноўным сказе: *калі—дык, хоць—але, абы хто—той* і некаторыя другія.

Прыклады:

Калі добра прадумаеш, *дык* добра і зробіш. *Хоць* з вадою, абы з табою. *Хоць* і мал, але-ж удал. *Хто* пытае, той ня блудзіць.

3. Вылучэньне з складана-залежных сказаў злучнікаў і злучальных слоў вядзе да ўтварэньня сказаў іншых сынтаксычных пабудоў, а іменна: складана-злучаных бяззлучнікавых сказаў або сказаў простых, нічым між сабою ня злучаных.

4. Вылучэньне з складана-злучаных сказаў злучніка ўмоўнасьці *калі* вядзе да ўтварэньня асобнага віду складана-злучаных сказаў, між дзьвюма часткамі якіх адчуваецца ў вымаўленьні рэзкае, энэргічнае павышэньне тону, што на пісьме абазначаецца працяжнікам.

*ЗАДАЧА 117.*

Складана-залежныя сказы перабудаваць у сказы іншых сынтаксычных пабудоў: у складана-злучаныя і простыя самастойныя сказы.

1) Была ноч, калі я вышаў на вуліцу. 2) Я з цікавасьцю прачытаў кнігу, у якой ярка абмалявана жыцьцё і праца шахцёраў. 3) Цягнік прыбыў з значным спазьненьнем, з-прычыны чаго некаторыя пасажыры не пасьпелі папасьці на параход. 4) Уся работа была сконцэнтравана ў вытворчым бюро, дзе разглядваліся ўзоры тканін, што дасылаліся туды з розных фабрык. 5) Зацяжная зіма некалькі затрымала ход пасеўнай кампаніі, якая была намечана ў шырокім маштабе, аб чым паведамлялася ў нашых газэтах. 6) З жывейшым пачуцьцём здавальненьня паехаў я паглядзець на сваю рэчку, якую летам курыца пяройдзе, але якая цяпер неслася шырокім разьлівам і ўносіла ўсё, што пападалася ёй на дарозе.

*ЗАДАЧА 118.*

Кожны дany комплекс простых сказаў злучыць у сказы складана-залежныя, ужыўшы, разумеецца, у адпаведных мясцох адпаведныя злучнікі падпарадкаваньня і злучальныя словы[1].

[1] Прыклады для задачы ўзяты цалкам з падручніка „Збор стылістычных практыкаваньняў“ Паўлаў-Шышкін і Сьцефаноўскі.

Узор:

Пачалася навальніца.
Рабочыя вярнуліся на завод.

1. **Калі** пачалася навальніца, рабочыя вярнуліся на завод.
2. **Як толькі** пачалася навальніца, рабочыя вярнуліся на завод.
3. **Калі** (*як толькі*) рабочыя вярнуліся на завод, пачалася навальніца.
4. Рабочыя вярнуліся на завод, *бо* пачалася навальніца.

1) Прагучэў гудок. Праз некалькі хвілін з фабрычнае брамы пацягнуліся рабочыя. Яны на хаду клапатліва зашпільвалі вопратку і падымалі каўняры. У гэты час дзьмуў прарэзьлівы вецер.

2) Хмары закрылі небасхіл. Уся прырода прыняла хмурны нявеслівы выгляд. Мастак спыніў маляваць карціну. Яму патрэбна было яркае сонечнае асьвятленьне.

3) Рана-рана пратрубіў сыгнальны ражок. Лягер заварушыўся. У лягэры знаходзіліся курсанты ваенных школ.

4) Наблізілася пара жніва. Усе калгасьнікі выйшлі ў поле. Там залацілася сьпелае жыта.

Увага: Пажадана, каб на кожны прыклад было дана ня менш двух варыянтаў злучэньня простых сказаў у складана-злучаную фразу.

## § 84. Агульны вывад пра складана-залежныя сказы.

Заўважце (паўторна):

1) Складана-залежнымі сказамі, ці фразамі называюцца такія сказы, у якіх складаныя іх часткі—простыя сказы няроўназначныя.

2) У складана-залежнай фразе адзін просты сказ сярод іншых простых сказаў зьяўляецца асноўным, ці галоўным сказам. Асноўны, ці галоўны сказ вызначаецца тым, па-першае, што ў ім захована асноўная думка, асноўнае палажэньне ўсяе складанае фразы, і тым, па-другое, што ён, будучы вылучаным з агульнага складанага злучэньня, дае нам зусім закончаную і зусім зразумелую думку.

Увага: Калі ў склад складана-залежнае фразы ўваходзяць сказы складана-злучаныя (а гэта часта бывае), дык атрымоўваецца фраза зьмешанага тыпу, і ў такой складанай фразе пры існаваньні залежных сказаў можа быць два і больш асноўных сказаў.

3. За выключэньнем асноўнага сказу, усе іншыя простыя сказы складана-злучанае фразы зьяўляюцца сказамі не самастойнымі. Гэта значыць, што яны, узятыя самі па сабе, бяз увязкі з асноўным сказам, не даюць нам патрэбнага разуменьня, зьяўляюцца тады для нас незразумелымі. Дзякуючы вось гэтай акалічнасьці, усе іншыя простыя сказы складана-залежнае фразы, за выклю-

чэньнем асноўнага, называюцца сказамі даданымі, залежнымі, а то проста дадана-залежнымі сказамі.

4. Дадана-залежных сказаў у складанай фразе можа быць адзін, два і некалькі, часам нават многа (у мове пэрыядычнай).

5. Дадана-залежныя сказы ў пераважнай сваёй большасьці служаць у мове дзеля таго, каб пашыраць, паглыбляць, адным словам, разьвіваць тое ці іншае ўяўленьне, якое ў менш ясных вобразах даецца якім-небудзь адным словам асноўнага сказу. Гэтым іменна тлумачыцца і тая акалічнасьць, што пры адным асноўным сказе можа быць некалькі залежных сказаў, і нават залежны сказ сам можа мець залежныя сказы (так званыя сказы падзалежныя).

6. Па характары граматычнае сувязі дадана-залежныя сказы бываюць:

а) **проста залежныя**, калі пры адным асноўным будзе толькі ён адзін,

б) **сузалежныя**, калі іх пры адным асноўным будзе некалькі,

в) **падзалежныя**, калі яны будуць у залежнай увязцы не з асноўным сказам, а з залежным-жа.

7. Усякі залежны сказ злучаецца з сваім асноўным сказам абавязкова злучнікам падпарадкаваньня ці злучальным словам.

Злучнікамі падпарадкаваньня звычайна зьяўляюцца бясформенныя дапаможныя словы (*каб, як, калі, дзе, хоць, бо* і др.), а злучальнымі словамі—форменыя называльныя словы, якія адначасова зьяўляюцца і злучнікамі і членамі залежнага сказу *(які, каторы чый, хто, што)*.

> Увага: Злучнікі падпарадкаваньня і злучальныя словы зьяўляюцца выразнымі граматычнымі адзнакамі залежных сказаў, і імі варта кіравацца пры пастаноўцы знакаў прыпынку ў складана-залежнай фразе.

8. Кожны сказ у складана-залежнай фразе аддзяляецца ад свайго суседа звычайна коскаю, пры чым калі залежны сказ зьяўляецца ўстаўным (глядзі § 80, 82—заўвагі), дык ён выдзяляецца коскамі абавязкова з абодвых бакоў.

Пры сузалежных сказах у выпадку іх значнае пашыранасьці, ужываецца, замест коскі, коска з кропкаю.

*ЗАДАЧА 119.*

Сьпісаць артыкул і расставіць знакі прыпынку.

## ВУЧЭНЬНЕ АБ КЛЯСАВАЙ БАРАЦЬБЕ (урывак).

Н. Ленін.

Калі было нізрынута прыгоньніцтва і на сьвет божы зьявілася „свабодная“ капіталістычная грамада адразу выкрылася што гэтая свабода азначае новую сыстэму прыгнечаньня эксплёатацыі працоўных

розныя социялістычныя вучэньні зараз-жа пачалі ўзьнікаць як адлюстровак гэтага прыгнечаньня і протэст супроць яго але першапачатковы социялізм быў утопічным социялізмам ён крытыкаваў капіталістычнае грамадзтва ганьбіў праклінаў марыў аб зьнішчэньні яго фантазаваў аб лепшым ладзе пераконваў багатых у амаральнасьці эксплёатацыі.

Але ўтапічны соцыялізм ня мог паказаць сапраўднага выйсьця ён ня ўмеў ні разьясьніць істоты наемнага нявольніцтва пры капіталізьме ні адкрыць законы яго разьвіцьця ні найсьці тую грамадзкую сілу якая здольна стаць творцаю новае грамады.

Тым часам бурныя рэволюцыі якімі справаджалася падзеньне фэўдалізму прыгоньніцтва ўсюды ў Эўропе ўсё відавочней выкрывалі як аснову свайго разьвіцьця і яго рухальную сілу барацьбу клясаў...

Геніяльнасьць Маркса заключаецца ў тым што ён знайшоўся раней за ўсіх зрабіць адгэтуль і правесьці пасьлядоўна той вывад якому вучыць сусьветная гісторыя гэты вывад ёсьць вучэньне аб клясавай барацьбе.

Людзі заўсёды былі і заўсёды будуць дурненькімі ахвярамі абману і самаабману ў політыцы покуль яны не навучацца за любымі маральнымі рэлігійнымі політычнымі соцыяльнымі фразамі заявамі абяцанкамі вынахадзіць інтарэсы тых ці іншых клясаў прыхільнікі рэформы і палепшаньня заўсёды будуць абмануты абаронцамі старога покуль не зразумеюць што ўсякая старая ўстанова як бы дзікаю і гнілою яна ні здавалася трымаецца сіламі тых ці іншых пануючых клясаў а каб зламаць супраціўленьне клясаў ёсьць толькі адзін сродак знайсьці ў самым навакольным грамадзтве адукаваць і організаваць дзеля барацьбы такія сілы якія могуць—па сваім грамадзкім стане павінны—скласьці сілу якая здольна зьмесьці старое і пабудаваць новае.

(„Марксыцкая хрэстаматыя" С. Сямкоўскі).

---

## РАЗЬДЗЕЛ ДРУГІ.

## (РАЗЬВІЦЬЦЁ МОЎНЫХ НАВЫКАЎ).

### § 84. Укладаньне простага пляну.

*ЗАДАЧА 120.*

Прачытаць ніжэй падааны артыкул, разьмеркаваць яго на абзацы і ўкласьці просты плян да яго.

### АБ УЛАДЗІМЕРЫ ІЛЬЛІЧЫ.

(*Прамова на жалобным паседжаньні зьезду саветаў Саюзу ССР 26 студзеня 1924 г.*).

Таварышы! За гэтыя дні, калі я стаяла каля труны Уладзімера Ільліча, я перадумала ўсё яго жыцьцё, і вось што я хочу сказаць вам. Сэрца яго білася гарачаю любоўю да ўсіх працоўных, да ўсіх прыгне-

чаных. Ніколі ён гэтага не гаварыў сам, дый і я, трэба думаць, не сказала-б гэтага ў другую, менш урачыстую мінуту. Я кажу аб гэтым таму, што гэтыя пачуцьці ён атрымаў у спадчыну ад рускага гераічнага рэволюцыйнага руху. Гэта пачуцьце прымусіла яго палка, горача шукаць адказу на пытаньне, якавы павінны быць шляхі вызваленьня працоўных?

Адказ на свае пытаньні ён атрымаў у Маркса. Не як кніжнік падышоў ён да Маркса. Ён падышоў да Маркса як чалавек, што шукае адказу на балючыя, канечныя пытаньні. І ён знайшоў там гэтыя адказы. З імі ён пайшоў і да рабочых. Гэта былі 90-я гады. Тады ён ня мог гаварыць на мітынгах. Ён пайшоў у Петраград, у рабочыя гурткі. Пайшоў расказаць тое, што ён сам даведаўся ў Маркса, расказаць аб тых адказах, якія ён у яго знайшоў. Прышоў ён да рабочых ня як надзіманы настаўнік, а як таварыш. І ён ня толькі гаварыў і апавядаў, ён уважліва слухаў, што гаварылі яму рабочыя. І піцерскія рабочыя гаварылі яму ня толькі аб парадках на фабрыках, ня толькі аб прыгнечаньні рабочых. Яны гаварылі яму аб сваёй вёсцы. У залі Дому Саюзаў, пры труне Ўладзімера Ільліча я бачыла аднаго з рабочых, які быў у гуртку Уладзімера Ільліча. Гэта тульскі селянін. І вось гэты тульскі селянін, рабочы Семянікоўскага заводу, казаў Уладзімеру Ільлічу: „Тут,—кажа,—у горадзе мне ўсё марудна аб'ясьніць; пайду я ў сваю Тульскую губэрню і скажу ўсё, што вы говорыце; я скажу сваім родным, другім сялянам, яны мне паверацъ. Я-ж—свой. І тут ніякія жандары нам не перашкодзяць. Мы вось цяпер многа гаворым аб злучнасьці паміж рабочых і сялян. Гэтая злучнасьць, таварышы, дадзена самою гісторыяй. Рускі рабочы адным бокам сваім—рабочы, а другім бокам—селянін. Работа сярод піцерскіх рабочых, гутаркі з імі, уважлівае прыслухоўваньне да іх размоваў далі Ўладзімеру Ільлічу разуменьне вялікае мысьлі Маркса, той мысьлі, што рабочая кляса зьяўляецца перадавым атрадам усіх працоўных, і што за ім ідуць далей працоўныя масы, усе прыгнечаныя, што ў гэтым яго сіла і парука яго перамогі. Толькі, як правадыр усіх працоўных, рабочая кляса можа перамагчы. Гэта зразумеў Уладзімер Ільліч, калі ён працаваў сярод піцерскіх рабочых. І гэтая думка, гэтая ідэя асьвятляла ўсю далейшую яго чыннасьць, кожны яго крок. Ён хацеў улады для рабочае клясы. Ён разумеў, што рабочай клясе патрэбна гэтая ўлада не для таго, каб наладжваць сабе салодкае жыцьцё за кошт іншых працоўных; ён разумеў, што гістарычная задача рабочае клясы—вызваліць усіх прыгнечаных, вызваліць усіх працоўных.

Гэтая асноўная ідэя налажыла адбітак на ўсю дзейнасьць Уладзімера Ільліча. Таварышы прадстаўнікі савецкіх рэспублік, рэспублік працоўных! Да вас зварочваюся я і прашу гэтую ідэю Ўладзімера Ільліча асабліва блізка прыняць да сэрца. Я хачу сказаць, таварышы, апошнія некалькі слоў. Таварышы, памёр наш Уладзімер Ільліч, памёр наш любімы, наш родны. Таварышы комуністы, вышэй падымайце дарагі

Леніну сьцяг комунізму. Таварышы рабочыя і работніцы, таварышы сяляне і сялянкі, працоўныя ўсяго сьвету, злучайцеся дружнымі радамі, станавецеся пад сьцяг Леніна, пад сьцяг комунізму.

Н. Крупская.

---

## КАНТРОЛЬНАЯ ПРАЦА № 5.

| | | |
|---|---|---|
| § 72 | задача | 102 |
| „ 74 | „ | 104, 106 |
| „ 75 | „ | 108 |
| „ 78 | „ | 112, п. п. 6, 9 |
| „ 79 | „ | 113, п. 3 |
| „ 80 | „ | 114, п. п. 3, 6 |
| „ 82 | „ | 116, п. п. 3, 7 |
| „ 83 | „ | 118 |
| „ 84 | „ | 119,120 |

---




# ГІСТОРЫЯ РЭВОЛЮЦЫЙНАГА РУХУ Ў ЗАХ. ЭЎРОПЕ І ПАЗШ.

## ЗАДАНЬНЕ ПЯТАЕ.

I. Тэма: **Чартыскі рух.**

### II. Папярэднія заўвагі.

Адна з найвялікшых падзей у гісторыі Заходняй Эўропы, падзей, якая для Англіі мела ня меншае значэньне, чым рэволюцыя 1848 г. для Францыі, зьяўляецца чартыскі рух. „Ён, паводле слоў гісторыка—комуніста Франца Мэрынга, быў першай спробай сучаснага пролетарыяту заваяваць уладу з тэй мэтаю, каб скарыстаць яе ў сваіх інтарэсах. Аднак, ён ня быў чыста пролетарскім рухам, бо да яго далучыліся шмат якія дробнабуржуазныя элемэнты і яшчэ не ахапляў найбольш перадавыя пласты пролетарыяту, якія ўдаліся ў роспач у выніку няўдачы сваёй першай буйнай спробы выступленьня“. З гэтага боку чартызм дае нам вялікі матэрыял для разуменьня першых сьвядомых крокаў ангельскага пролетарыяту—яго палітычнай організацыі, тактыкі, програмы і рознагалосьсяў,—так і для ўскрыцьця ўсіх памылак ангельскага рабочага руху ў наступны час. Лёзунгі чартызму цяпер устарэлі, але цьвёрда вытрыманая клясавая лінія яго асноўнага асяродку ў адносінах буржуазіі павінна і зараз служыць ангельскаму рабочаму прыкладам, які варты перайманьня.

У сувязі з гэтым мы павінны ў час прапрацоўкі гэтага выданьня вырашыць тры асноўных проблемы: а) наяўнасьць якіх умоў і акалічнасьцяй у соцыяльным жыцьці Англіі прывяла да чартыскага руху; б) чаму мы называем чартыскі рух пролетарскім і як ён зрабіўся гэтакім; в) у чым былі слабыя бакі чартызму і памылкі яго ўдзельнікаў, якія прычыны прывялі яго да згубы.

Каб вырашыць першую проблему, нам неабходна зьвярнуцца крыху назад, да гісторыі XIX стагодзьдзя, самому разгару прамысловага перавароту, бо, як кажа Энгельс, „чартыскі рух ёсьць дзіцё дэмократычнай партыі, якая разьвівалася ў 80-х г. г. XVIII ст. адначасова з пролетарыятам і ўнутры яго“. За наступныя гады прамысловая рэволюцыя дасягнула вялікіх посьпехаў: ранейшая сельская і рамесьніцкая

Англія зьнікала пад націскам капіталу, пануючае месца паступова заваёўвала фабрыка і машына; былыя вёскі і мястэчкі пératвараліся ў густа заселеныя прамысловыя цэнтры, а былыя асяродкі рамесьніцкай вытворчасьці руйнаваліся. Пролетарызаваліся рамесьнік і саматужнік, якія трацілі сваю незалежнасьць і пératвараліся ў нявольнікаў капіталу. Іменна з боку гэтых апошніх зьявілася спроба шляхам руйнаваньня машын і фабрык затрымаць наступленьне прамысловага капіталізму—так званы лудускі рух. Апошні, як рэакцыйная зьява, якая цягнула назад да патрыярхальных парадкаў, хутка быў зруйнаваны.

Ад усіх зьмен у соцыяльным жыцьці Англіі выграла толькі прамысловая буржуазія, якая імкнулася цяпер забясьпечыць сабе месца ў праўленьні і таму патрабавала ў сваю карысьць рэформы парляманту, які служыў дагэтуль зброяй гарадзкой арыстакратыі і зямельнага дваранства. Для таго, каб ажыцьцявіць і дамагчыся гэтай рэформы, яна (г. зн. прамысловая буржуазія) заручылася падтрыманьнем рабочае клясы, абяцаўшы ёй пашырэньне яе політычных правоў і палепшаньне эканомічнага становішча; апошняя сваім актыўным выступленьнем вырвала рэформу ў парляманцкай олігархіі, даўшы буржуазіі патрэбную перамогу. Але рабочая кляса была нахабна ашукана: атрымаўшы ўладу прамысловая буржуазія ня выканала ніводнага з сваіх абяцаньняў і нават яшчэ больш пагоршыла жыцьцёвыя ўмовы рабочых. Рабочыя саюзы—трэд-юніёны, якія пасьля 1824 г. (закон аб свабодзе саюзаў) атрымалі вялікую сілу і значэньне, прасьледваліся і разганяліся; рабочыя дамы і новы закон аб бедных, які скасоўваў дапамогу пры беспрацоўі і непрацаздольнасьці, паставілі рабочых у нявольніцкія і катаржныя ўмовы жыцьця; з прычыны-ж прамысловых крызісаў, гэтым няўхільным спадарожнікам капіталістычнага спосабу вытворчасьці, беспрацоўе; беднасьць дасягнулі найвышэйшага пункту.

У эпоху крызісаў узьнімаліся хвалі рабочага руху, які выставіў патрабаваньні заваёў усеагульнага выбарчага права—рух, які ў гісторы атрымаў назву чартызму.

Другая проблема, якую мы павінны вырашыць,—проблема разьвіцьця чартызму, высьвятленьне тых унутраных зьмен, якія адбываліся ўнутры яго. Чартыскі рух можна разьбіць на тры няроўных пэрыоды на працягу якіх рух меў формальна адну і тую-ж мэту, але па сутнасьці зьмяніў свой соцыяльны характар.

У першы пэрыод чартызму рух насіў пэўны політычны характар—заваёва 6 пунктаў народнай хартыі, выпрацаванай Усеагульнай Лёнданскай Асоцыяцыяй рабочых, на чале з Ловетам і патрабаваўшай усеагульнага выбарчага права [1]).

На чале руху ішла рабочая арыстакратыя Лёндану, але наогул склад руху быў неаднолькавы; тут мы бачым рамесьнікаў, якія пролетарызуюцца, радыкальную дробную буржуазію, нездаволеную рэформай 1832 г. і нарэшце, невялікую групу сапраўдных пролетараў. „З самага

[1]) Ад імя гэтаі хартыі (па-ангельску „чартэр“) і атрымаў назву ўвесь рух. Па-ангельску хартыя (чартэр) наогул азначае конструкцыйны дакумант.

свайго ўзьнікненьня, кажа Энгельс, чартызм быў, праўда, пераважна рабочым рухам, але ён тады не адлучаўся рэзка ад радыкальнай дробнай буржуазіі. Апошняя расчаравалася каля гэтага ў выніках біллях аб рэформе і пацярпеўшы страты ў выніку ўдзелу ў справах 1837-1839 г.г. З гэтай прычыны яна была настроена ваяўніча і крывяжэрна, і таму ўзмоцненая агітацыя чартыстаў была ёй вельмі на руку. Але сярод гэтых рознастайных социяльных груповак не магло быць аднолькавых поглядаў, таму, калі быў склікаы чартыскі конвэнт для абмеркаваньня пытаньняў тактыкі і програмы, сход адразу раскалоўся. Выявіліся дзьве плыні—прыхільнікі маральнай сілы (група Ловета) і фізычнай сілы (група О'Коннора і О'Брайена). У той час, як першыя ў якасьці прадстаўнікоў рабочай арыстакраты і дробнай буржуазіі, прапанавалі абмежавацца мірнай пропагандай за хартыю, другія, выяўляючы погляды пролетарскай плыні руху, патрабавалі рашучых мер—дэмонстрацый, масавых мітынгаў і нават узброенага паўстаньня. Карыстаючыся гэтымі нялададамі, радыкальная буржуазія мела магчымасьць накіроўваць рух паводле свайго жаданьня і побач з патрабаваньнямі хартыі працягнуць такія чужыя руху патрабаваньні, як скасаваньне папяровых грошай, свабоды гандлю і г. д. У конвэнце, аднак, гэтыя разнагалосьсі дасягнулі найвышэйшага пункту, адбылася дыфэрэнцыяцыя руху, ад якога буржуазныя элемэнты былі прымушаны адыйсьці.

Новы пэрыод чартызму, які пачаўся ў 1842 г., пасьля рэзкага пагоршаньня жыцьця рабочае клясы, адрозьніваўся ад папярэдняга ня толькі паводле свайго характару, але і паводле социяльнага складу. Дробная буржуазія і рабочая арыстократыя адыйшлі ад чартыстаў і разам з буржуазнымі радыкаламі прынялі ўдзел у агітацыі за ўмераную выбарчую рэформу, заняліся прапагандай такіх скромных рэчаў, як змаганьне з п'янствам, школы для бедных і г. д. Большасьць чартыстых на чале з О' Канорам пачаў змагацца з гэтымі плынямі. Адкол правых элемэнтаў перадаў ініцыятыву ў рукі партыі фізычнай сілы, якая прадстаўляла інтарэсы рабочых мас Поўначы, у сувязі з гэтым у новых пэтыцыях парляманту чартысты высоўвалі ўжо і экономічныя патрабаваньні: падвышэньне заработнай платы, 10-гадзінны рабочы дзень і г. д. У пытаньні аб скасаваньні хлебных законаў чартысты занялі рэзка адмоўную пазыцыю, хутка зразумеўшы, што яны паслужаць толькі інтарэсам буржуазіі. Рабочыя павялі заўзятае змаганьне ў той самы час з прадпрыемцамі: хваля забастовак разьлілася па ўсёй Англіі. Але адсутнасьць цьвёрдага пляну дзеяньня толькі спрыяла паслабленьню руху, які пацярпеў яшчэ больш, у выніку рэпрэсій ураду, і спыніўся, як толькі ў прамысловасьці пачаўся ўздым.

Трэці пэрыод чартызму прадстаўляў далейшае разьвіцьцё руху. Ён пачаўся з прамысловага крызісу 1847 г. Па форме ён як бы аб'яднае абодвы папярэднія пэрыоды: з аднаго боку тут мы бачым тое самае змаганьне за хартыю шляхам чыста палітычным—дэмонстрацыі, мітынгі і г. д., з другога—агітацыя падмацоўвалася экономічнай зброяй—забастовачным рухам. Адначасова па сваім социяльным складзе чартызм

яшчэ больш выкрышталізаваўся як пролетарскі рух і адкінуў апошнія рэшткі буржуазных элемэнтаў, у гэты час, з мэтай умацаваньня сваёй базы, правадыры чартызму О' Канор і О' Брайен заняліся выпрацоўкай социяльнай програмы; але і той і другі выявілі толькі нясьпеласьць уяўляемай імі рабочае клясы, якая яшчэ нядаўна адарвалася ад зямлі і саматужнай майстэрні: яны бачылі ратунак не наперадзе— у социялізьме і комунізьме, а ззаду—у звароце на зямлю, у аднаўленьні старых патрыярхальных парадкаў дробных вытворчасьцяй. Натуральна, гэтыя проекты з прычыны сваёй утапічнасьці хутка пацярпелі няўдачу.

Пад уплывам рэволюцыі 1848 г. у Францыі, чартыстыя вырашылі далей ужыць самыя рашучыя захады для ажыцьцяўленьня хартыі і іншых сваіх патрабаваньняў. Меркавалася вялізарная дэмонстрацыя і новая масавая пэтыцыя парляманту, але спроба гэта скончылася нічым, і рух канчаткова заціх. Спробы паасобных чартыстаў аднавіць у далейшым рух ня сустрэлі падтрыманьня і хутка зусім спыніліся.

Тут мы надыходзім да вырашэньня трэцяй проблемы—аб прычынах слабасьці і руйнаваньня чартызму. Гібель руху абумовілася ў асноўным нясьпеласьцю ангельскага пролетарыяту ў той час; разнастайныя элемэнты, якія ўваходзілі ў яго, пазбаўлялі чартызм адзінага кіраўніцтва, тактыкі і програмы. Тая самая нясьпеласьць пролетарыяту перашкодзіла яму выразна выпрацаваць социяльныя задачы сваёй партыі, задачы, якія падмацавалі-б політычнае змаганьне супроць буржуазіі.

З 50-х г. г. XIX ст. пачаўся новы пэрыод прамысловага капіталізму ў Англіі, скончыўся прамысловы пераварот і ангельская вытворчасьць уступіла ў пэрыод росквіту. Пролетарызаваныя рамесьнікі і беспрацоўныя пролетары атрымалі работу, а частка іх, найбольш энэргічная і рэволюцыйная, накіравалася на залатыя капальні Амэрыкі, абяскровіўшы такім чынам рэволюцыйны асяродак ангельскае рабочае клясы. Усе гэтыя ўмовы зьявіліся прычынай таго, што чартызм канчаткова згінуў.

Пануючае становішча Англіі на сусьветным рынку дазволіла буржуазіі паставіць у прывілейныя ўмовы верхавінку рабочае клясы, якая адмаўляецца цяпер ад рэволюцыйнага змаганьня і ператварае трэд-юніёны ў рэфармісцкія організацыі.

Чартыскі рух зьявіўся самым вышэйшым пунктам рабочага руху ў Англіі, таму і цяпер ангельская комуністычная партыя імкнецца ажывіць традыцыі чартызму—змаганьня пролетарыяту, як клясы, за захоп політычнай улады—і выстаўляе патрабаваньні рабочай хартыі зноў, але папоўніўшы яе, вядома, новым зьместам.

### III. Мэты заданьня.

Мэтай гэтага заданьня зьяўляецца: 1) высьвятліць социяльна-політычныя абставіны, якія былі напярэдадні чартызму, і прычыны яго ўзьнікненьня.

2) Вызначыць характэрныя рысы кожнага пэрыоду чартыскага руху і іх розьніцу паміж сабою.

3) Вывучыць тактыку і праграму чартыстаў, яе адмоўныя і ўстаноўчыя бакі.

4) Устанавіць прычыны гібелі чартызму і яго гістарычнае значэньне.

## IV. Мэтады прапрацоўкі.

Прапрацоўку гэтага заданьня трэба пачаць з вывучэньня палітычнага ладу Англіі, але для лепшага разуменьня яго соцыяльных карэньняў успомніце ўсё, што вы чыталі пра прамысловы пераварот і яго вынікі. Аб палітычным ладзе пачатку XIX ст. трэба ўзяць з Монасава „История рев. движений" разьдзел III, стар. 78—80 (уключна), з Арк. А—ну „История Зап. Европы и САСШ" стар. 119—122 ці з Лукіна „Новейшая история Зап. Европы" стар. 292—305 да п. 59 (абедзьве апошнія кнігі паводле выбару, калі можна іх знайсьці). Усвоіўшы гэтыя пытаньні, трэба зьвярнуцца да змаганьня паміж пролетарыятам і буржуазіяй, якая адбывалася да 1830 г.: тут трэба спыніцца на радзе паасобных пытаньняў—вывучыць умовы жыцьця рабочае клясы, формы неразьвітага рабочага руху, як выступленьні луддытаў і змаганьне за рэформу (прачытаць з Монасава, пак. тв. стар. 81—84 да „Учения Роберта Оуэна", з Арк. А—на, пак. тв., ст. 251—260, а з Лукіна, пак. тв., стар. 327—344, апроч таго, з навучальна-дапаможнага матэрыялу да гэтага заданьня №№ 1 і 2, звыш таго, для тых, хто цікавіцца гэтым пытаньнем, можна прачытаць кнігу В. А. Васюцінскага „Разрушители машин в Англии").

Адносна парляманцкай рэформы 1832 г.—аднаго з важнейшых пытаньняў гэтай тэмы, трэба абавязкова прачытаць з Монасава пак. тв., стар. 83—84, калі ёсьць Арк. А—н, пак. тв., узяць стар. 258—264, ці Лукін, пак. тв., стар. 353—358, апрача таго, абавязкова прачытаць з навучальна-дапаможнага матар'ялу № 3; як максымум—Ротштэйн „Очерки по истории английского рабочего движения", ч. I, разьдз. II.

Адносна оуэнізму і рэволюцыйнага сындыкалізму прачытаць Монасава пак. тв., стар. 84—86 да наступнага параграфу, потым паводле выбару (што ёсьць) Арк. А—н, пак. тв., стар. 263—269 ці Лукін, пак. тв., ст. 348—353 і 450—457, з дакумантаў прачытаць № 4 з навучальна-дапаможнага матэрыялу да гэтага заданьня.

Далей можна перайсьці да разгляду самога чартыскага руху. Адносна непасрэдных прычын яго прачытаць з Монасава, пак. тв. стар. 86 87 да наступнага параграфу, калі ёсьць Арк. А—н, пак. тв. стар. 325—329, як максымум вазьмеце Ротштэйна, пак. тв. ч. I разьдз. III.

Адносна першага пэрыоду чартызму—яго характэрных рыс, узаемаадносін і змаганьня плыняй, а таксама іх праграм—прачытаць Монасава, пак. тв., стар. 86—92, калі ёсьць Арк. А—н, пак. тв., стар. 329—334 ці Лукін, пак. тв. стар. 457—467; з дакумантамі азнаёміцца па навучальна-дапаможнаму матэрыялу пры гэтым заданьні №№ 5—6; як максымум—Ротштэйн пак. тв. ч. I, разьдз. IV.

Для паглыбленьня ведаў аб чартыскім Конвэнце і асабліва аб Дэмократычнай Асоцыяцыі Гарні прачытайце Акр. А—на, пак. твор, стар. 334—338, ці Ротштэйна, пак. тв. разьдз. V—VI.

Адносна другога пэрыоду чартыскага руху і яго характэрных асаблівасьцяй прачытайце па Монасаву, пак. тв., стар. 93—94 да наступнага параграфу; калі ёсьць Арк. А—н, пак. тв. стар. 338—341 ці Лукін, пак. тв., стар. 465—472, з дакумантаў—па навучальна-дапаможным матэрыяле №№ 7—8, як максымум Ротштэйн, пак. тв. стар. 64—72.

З прычыны III пэрыоду чартызму аклічнасьцяй распаду ўсяго гэтага руху і яго агульна-гістарычнага значэньня прачытайце па Монасаву, пак. тв. з § „Движение 1847—8 г.“ (стар. 95) да разьдз. IV, калі знойдзеце Арк. А—на ці Лукіна, дык вазьмеце з першага стар. 341—348 да слоў „Эмансипация католиков“, з другога—стар. 472—477, апроч таго ўважліва вывучыце з навучальна-дапаможнага матар'ялу дакуманты №№ 9 і 10. Як максымум, раю Энгельса „Положение рабочего класса в Англии“ разьдзел „О чартизме“, (стар. 246—256).

## V. Пытаньні для самакантролю.

1. Які адбітак зрабіў прамысловы пераварот на палітычным жыцьці Англіі?
2. Інтарэсам якіх клясаў служыў палітычны лад Англіі да 1830 г.?
3. Якія партыі існавалі да 1830 г. у Англіі і чые інтарэсы яны абаранялі?
4. Якія былі прычыны луддыскага руху і ў чым яго значэньне?
5. Які характар меў рабочы рух пасьля разгрому луддытаў?
6. Якія былі палітычныя патрабаваньні буржуазіі ў 1830 г.
7. У чым значэньне рэформы 1832 г. і што дала яна буржуазіі і рабочай клясе?
8. Якія былі прадпасылкі і прычыны чартызму?
9. Які быў зьмест і значэньне хартыі.
10. Якія разнагалосьсі існавалі паміж партыямі маральнай і фізычнай сілы?
11. Чым адрозьніваўся паводле свайго соцыяльнага характару другі пэрыод чартызму ад першага?
12. Якія соцыяльныя рэформы выстаўлялі чартысты ў другім пэрыодзе руху?
13. Інтарэсам якое клясы служыла Ліга змаганьня супроць хлебных законаў?
14. Чаму чартысты выступалі супроць Лігі змаганьня з хлебнымі законамі?
15. У чым характэрныя рысы трэцяга пэрыоду чартызму?
16. Якія былі соцыяльныя ідэі чартыстаў?
17. Вызначце прычыны ўпадку чартызму.
18. У чым гістарычнае значэньне чартызму?

## VI. Тэма для пісьмовай работы.

Соцыяльны характар чартызму.

Плян работы.

1. Прычыны чартысткага руху.
2. Програма чартыстаў у першы пэрыод руху.
3. Інтарэсы якіх клясаў адбіваліся ў першы пэрыод чартызму.
4. Програма II пэрыоду чартызму,—на якія зьмены ў клясавым характары яна паказвала.
5. Чаму ў чартыскім руху ня было соцыяльнай програмы.
6. Які этап у рабочым руху адбівае чартыскі рух.

---

## ВУЧЭБНА-ДАПАМОЖНЫ МАТАР'ЯЛ (заданьне № 3).

### 1. Лудызкі рух.

... Бунты, што адбываліся раней у трыкатажнай, суконнай і папярова-баваўнянай прамысловасьці, і больш пазьнейшы рух людзістаў мелі аднолькавыя прычыны,—пасьлядоўнае зьнявольненьне дробных вытворцаў буйным капіталам. Прылады вытворчасьці ўсё больш пераходзілі ў рукі капіталістаў, незалежнасьць рамесьніка рабілася фантастычнай, і ледзь толькі машынізм і фабрычная сыстэма ўкараніліся ў вытворчасьці,—волі дробнага вытворца надышоў канец і яны не маглі ўжо разьлічваць выйсьці з залежнага становішча.

Чым былі фабрыка і машына, мы ведаем. Натуральна, рабочыя імкнуліся вярнуцца да старых вольных парадкаў, і калі ў 1811—1812 г.г. экономічнае становішчы краіны зрабілася асабліва нязносным, і экономічная дэпрэсія, што выклікала беспрацоўе, дарагоўлю і голад, кінула рабочых канчаткава ў абдымкі галечы, апошнія парашылі або памерці, або пазбавіцца ад нявольніцтва.

Яны добра ўлічвалі значэньне фабрыкі і машын для сваіх гаспадароў, разумелі іхнюю сілу і зрабілі таму вывад, магчыма і наіўны..., што зруйнаваўшы машыны і фабрыкі, яны пазбавяць сваіх эксплёататараў іхняй моцы. Адсюль не машыны, а політыка мэханізацыі і рацыяналізацыі працы, якая праводзілася ў мэтах нажываньня большага прыбытку капіталістамі (бо інакш нельга яе і назваць), зьяўлялася аб'ектам нянавісьці рабочых.

Так узьнік лудызм. Удзельнікі яго спадзяваліся на падтрымку рабочых усёй Англіі. Замеры іхнія зьявіліся памылковымі: рух лёкалізаваўся толькі ў аднэй частцы краіны, і хоць рабочыя сымпатыі былі на яго баку, да яго далучыліся некаторыя. Частка членаў рабочых саюзаў прыняла цяпер удзел у руху за парляманцкую рэформу, рэшта, прыдушаныя ўрадавай рэакцыяй і законамі аб коаліцыях, не адважыліся выступаць актыўна. Больш блізкія да лудыстаў рабочыя клюбы і таварыствы былі зруйнаваны і не маглі ім дапамагчы.

Раўнавальнікі машын засталіся адзінокі. Рух іхні да таго-ж пачаўся не адначасова,—заціхнуўшы ў адным графстве, ён выбухаў у другім. апошняе тлумачылася разьяднаньнем і раскіданасьцю саматужнікаў. Праўда, як апавядаў сьведка ў Камітэце пра рамесьнікаў і машыны (1824 г.) „ланкашырскія лудысты прапанавалі рабочым Глазго супольныя дзеяньні“, але ўсё гэта не прывяло ні да чаго, дый і цяжка ска-

заць, былі гэта лудысты ці поліцэйскія шпіёны, што арудвалі ў Ланкашыры [1]).

Другі выпадак нібыта падобнага аб'яднаньня лудыстаў. Присутнасьць „дэлегата" ноттынгенскіх лудыстаў на мітынгу ў вядомым нам шынку сьв. Крысьпіна ў Галіфаксе, калі ён меў месца ў сапраўднасьці, дык, мабыць, быў справай асабістай ініцыятывы гэтага дэлегата, ва ўсякім выпадку—ён бадай ці меў якія-небудзь паўнамоцтвы.

Усе гэтыя абставіны скарысталі кіруючыя клясы; аправіўшыся пасьля першага перапугу, яны хутка сабралі сілы і літаральна раздушылі рух.

З усяго сказанага можна сьмела зрабіць вывад, што лудысцкі рух быў толькі найбольш яркім эпізодам у доўгім процэсе пролетарызацыі незалежнага вытворца. Яно спрабавала спыніць кола гісторыі, зьвярнуцца да старых, аджыўшых форм соцыяльных адносін і таму нямінуча павінна было загінуць. Спроба гэта была бязумоўна рэакцыйнай, адсюль і самы рух, ня гледзячы на яго суб'ектыўную рэволюцыйнасьць, застаўся об'ектыўна рэакцыйным.

*В. А. Васюцінскі*—„Разрушители машин в Англии" стар. 139—140).

### 2. Англія ў першую палову XIX стагодзьдзя.

„...Парляманцкая рэформа 1832 г. была перамогай клясы капіталістаў над зямельнай арыстократыяй; адмена хлебных мыт зьявілася перамогай прамысловага капіталу ня толькі над буйнымі зямляўласьнікамі, але і над тымі прадстаўнікамі капіталу, інтарэсы якіх у большай або меншай ступені былі аднолькавымі і зьвязаны з інтарэсамі зямляўласьнікаў, г. зн. над банкірамі, біржавікамі, рант'е і г. д. Вольны гандаль выклікаў рэформу ўсяе ўнутраное і замежнае фінансавае і гандлёвае політыкі Англіі, адпаведна з інтарэсамі прамыслоўцаў і клясы, якая ў той час зьяўлялася прадстаўніцай нацыі, і гэтая кляса шчыра ўзялася за справу. Усялякая перашкода прамысловай вытворчасьці бязьлітасна ўхілялася. Уся сыстэма мыт і падаткаў перацярпела карэнную зьмену. Усё павінна было служыць адзінай мэце, якая мела, аднак, вялізарнае значэньне для фабрыкантаў, г. зн. патаненьню ўсялякага сырцу і асабліва сродкаў да жыцьця рабочае клясы, вырабу сырцу і ўтрыманьню заработнае платы на нізкім узроўні, аднак-жа, без паніжэньня яе. Англія павінна была зрабіцца „майстэрняю ўсяго сьвету". Усе іншыя краіны павінны былі зрабіцца для Англіі тым, чым ужо была для яе Ірляндыя, г. зн. рынкамі для прадуктаў яе прамысловасьці, дастаўнікамі сырцу і сродкаў да жыцьця. Якая цудоўная пэрспэктыва: Англія—вялізарны прамысловы цэнтр земляробства сьвету; прамысловае сонца, вакол якога круцяцца плянэты, якія бязупынна памнажаюцца ў ліку і вырабляюць збожжа і бавоўну"...

(Энгельс: „Становішча рабочае клясы ў Англіі").

Можна ўзяць з хрыстаматыі Фрыдлянда і Слуцкага, стар. 181, № 4, выд. 1923 г.).

[1]) Rep. Art Mach p., 71.

### 3. Замена дарослых рабочых на фабрыках жанчынамі і дзяцьмі.

*(Ліст ангельскага рабочага).*

У мяне ляжыць пад рукамі адрасаваны Сотлеру ліст ангельскага рабочага Робэрта Пундэра, які жыве ў Лідсе (даю яго дакладны адрас спэцыяльна для буржуазіі, няхай яна яго адшуквае). Ліст гэты надзвычайна наіўны, але ортографію яго і ёркшырскі дыялект немагчыма перадаць ні ў якай іншай мове. Аўтар яго апавядае, як адзін з знаёмых, таксама рабочы, шукаючы работы, трапіў у Сэнт-Гэлен у Ланкашыры і там знайшоў свайго старога сябра: „Ён знайшоў яго і калі прыйшоў да яго памяшканьня, уявеце сябе, што ён убачыў нізкае, сырое сутарэньне“... Потым ідзе апісаньне мэблі:“ два старыя крэслы, круглы стол на трох ножках, скрыня; пасьцелі ня было, але ў кутку ляжала куча старое саломы, накрытая бруднымі прасьцірадламі. Каля каміна ляжалі два палены. Калі мой бедны сябра ўвайшоў, ён убачыў, што няшчасны Джэк сядзіць на паленах ля агню і, што-б вы думалі, ён робіць? Ён цыраваў тоўстаю іголкаю панчохі свае жонкі. Калі ён убачыў свайго сябра ў дзьвярах, ён хацеў схаваць панчохі, але Джо,—так зваўся мой знаёмы,—ужо ўбачыў іх і сказаў: Што за ліха, Джэк, што ты робіш? Дзе твая жонка? Хіба гэта работа для цябе?—Бедны Джэк быў вельмі зьбянтэжаны і сказаў: Я ведаю, што гэта работа не для мяне, але мая бедная жонка на фабрыцы. Яна павінна выходзіць а $5^1/_2$ гадзіны раніцы і працаваць да 8 гадзін увечары. Увечары-ж, калі яна зварочваецца дадому, яна так зморана, што нічога ня можа рабіць, і я павінен усё, што магу, рабіць замест яе, бо ў мяне цяпер няма работы, і я ня меў яе ўжо тры гады і мусіць ніколі больш ня буду мець“. І ён заліўся горкімі сьлязьмі. „Не, Джо,—сказаў ён,—у гэтай мясцовасьці ёсьць досыць работы для жанчын і дзяцей, але для мужчын яе няма. Лягчэй знайсьці на вуліцы сто фунтаў, чым атрымаць тут работу. Аднак, я не спадзяваўся, што ты або хто-небудзь іншы ўбачыць, што я цырую маёй жонцы панчохі. Гэта вельмі брыдкая работа, але жонка мая чуць трымаецца цяпер на нагах; я баюся, што яна зусім захварэе і ня ведаю, што з намі тады будзе. Яна ўжо даўно ў нас галава ў доме, а я замяняю жонку. Дрэнная справа, Джо. Але-ж не заўсёды так было са мною“:—І ён горка плакаў.—Так, Джэк,—сказаў Джо,—але як-жа ты мог жыць, ня маючы ўвесь гэты час работы.— „Я табе скажу, Джо, я стараўся, як мог, але справы ішлі дрэнна. Ты ведаеш, калі я ажаніўся, у мяне было досыць многа работы і я ня быў гультаём“.—Гэта праўда. „У нас было добра мэбляванае памяшканьне, і Мэры ня трэба было працаваць: я мог зарабіць на нас дваіх. Але цяпер увесь сьвет перавярнуўся навыварат. Мэры павінна працаваць, а мне даводзіцца сядзець дома, няньчыць дзяцей, месьці падлогу, мыць бялізну, гатаваць яду, цыраваць, бо калі бедная жонка ўвечары прыходзіць дамоў, яна бывае вельмі зморана і зьняможана. Ведаеш, Джо, гэта жахліва для таго, хто прывык да іншага жыцьця“.—Так, хлопец, гэта цяжка,—сказаў Джо, і Джэк зноў пачаў плакаць. Ён

казаў, што *было-б лепш, калі-б ён не жаніўся зусім, было-б лепш, калі-б ён і на сьвет не радзіўся, але што ён ня думаў, калі жаніўся на Мэры, што яму будзе так кепска.* „Колькі я галасіў над гэтым“— сказаў Джэк.—І вот калі Джо ўсё гэта пачуў, ён пачаў праклінаць фабрыкі, фабрыкантаў і ўрад усімі праклёнамі, якіх ён навучыўся з малых гадоў на фабрыцы“.

(Цыт. у кнізе Энгельса: „Становішча рабочае клясы ў Англіі. Можна ўзяць з хрыстаматыі Фрыдляндаі Слуцкага, выд. 1923 г., стар. 179, № 2).

## 4. Робэрт Оўэн і яго вучэньне.

У той час, як у Францыі гураган рэволюцыі страсаў краіну, у Англіі адбываўся павольны, але ўсё-такі ня менш значны пераварот. Пара і новыя машыныператварылі мануфактуру ў сучасную буйную прамысловасьць і гэтым рэволюцыянізавалі ўсе асновы буржуазнага грамадзтва. Павольны ход разьвіцьця пэрыоду мануфактуры зьмяніўся пэрыодам сапраўдных бур і націску ў вытворчасьці. З усё ўзрастаючай шпаркасьцю адбыўся падзел грамадзтва на буйных капіталістаў і незаможных пролетараў, сярод якіх мадзелі, замест ранейшага ўстойлівага стану, што зьмянялася ў сваім складзе маса рамесьнікаў і дробных гандляроў, гэта найбольш цякучая частка насельніцтва. Новы спосаб вытворчасьці яшчэ знаходзіўся ў самым пачатку пэрыоду свайго ўздыму; яшчэ ён уяўляў сабою нармальны, толькі і магчымы пры даных умовах спосаб вытворчасьці. Але ўжо ў той час ён нараджаў абураючае соцыяльнае бязладзьдзе: згрупаваньне насельніцтва, адарванага ад родных месц, у брудных памяшканьнях вялікіх гарадоў, раскладаньне ўсіх традыцыйных вуз паходжаньня, патрыярхальных адносін падпарадкаванасьці і сям'і; непамерная праца, асабліва жанчын і дзяцей, у разьмерах, што выклікала жах; масавую дэморалізацыю працоўнае клясы, якая раптам кінута ў зусім новыя ўмовы. У гэты час выступіў рэформатарам адзін 29 гадовы фабрыкант, чалавек з дзіцячай, што даходзіла да высокасьці, прастатой характару, які разам з тым уладаў талентам выдатнага правадыра мас, якіх было мала ў гісторыі. Робэрт Оўэн засвоіў сабе вучэньне матэрыялістычных асьветнікаў аб тым, *што характар чалавека зьяўляецца прадуктам, з аднаго боку, уласнай яму прыроднай організацыі, а з другога—умоў, што знаходзяцца навакол чалавека на працягу яго жыцьця і асабліва ў пэрыод яго разьвіцьця.* У прамысловай рэволюцыі большасьць сяброў Оўэна па профэсіі, бачыла толькі замяшаньне і хаос, годныя для таго, каб лавіць рыбу ў мутнай вадзе і хутка ўзбагачвацца. Ён-жа бачыў у ей добры повад да таго, каб дапасаваць у жыцьці свае ўлюбёныя ідэі і тым самым унесьці ў гэты хаос пэўны парадак. Ён ужо зрабіў у гэтым напрамку пасьпяховую спробу ў Манчэстэры, у ролі кіраўнічага фабрыкай з больш чым 500 рабочымі; а з 1800 г. да 1829 г. ён кіраваў, як загадчык справай, пайшчык, буйной паперапрадзільнай у Нью-Ланарке, у Шотляндыі, карыстаючыся вялікай свабо-

дай дзейнічаньня, з посьпехам, які надаў яму эўропэйскую славу З насельніцтва гэтай фабрыкі, якое паступова пявялічылася да 2500 і складалася спачатку з самых зьмешаных, у большай частцы вельмі дэмаралізаваных элемэнтаў,—ён зрабіў зусім узорную колёнію, у якой п'янства, паліцыя, крымінальныя справы, цяжбы, ненавіджаньне бедных і патрэбы ў міластыні былі зусім невядомы. І гэтага ён дасягнуў толькі тым, што паставіў людзей у абставіны, годныя чалавека, і асабліва тым, што даў уважлівае выхаваньне падрастаючаму пакаленьню. Ён быў першым заснавальнікам школ для маленькіх дзяцей дашкольнага ўзросту. З другога году жыцьця дзеці пачыналі наведваць школу, дзе адчувалі сябе так добра, што іх цяжка было забраць адтуль дамоў. На іншых конкурэнтных фабрыках працавалі 13—14 гадзін, у Нью-Ланарку-ж праца працягвалася толькі 10½ гадзін. Калі баваўняны крызіс прымусіў Робэрта Оўэна да 4-х месячнага спыненьня вытворчасьці, ён ня спыняў выплачваць баставаўшым рабочым поўны заработак. Пры гэтым прадпрыемства падвоіла сваю каштоўнасьць і да канца давала сваім уласьнікам значны прыбытак.

Аднак, Оўэн быў нездаволены ўсім гэтым. Становішча, якое ён стварыў для сваіх рабочых, усё яшчэ было ў яго вачох нявартым чалавека: „Гэтыя людзі былі маімі нявольнікамі“, гаварыў ён; параўнальна спрыяючыя ўмовы, у якія ён іх паставіў, былі яшчэ зусім невыстарчальны для таго, каб дамагчыся рацыянальнага і разнастайнага разьвіцьця іх характару і разуменьняў, ужо ня кажучы аб вольнай жыцьцядзейнасьці. „А між тым, рабочыя з гэтых 2500 чалавек разам давалі столькі рэальнага багацьця для грамадзтва, колькі за поўстагодзьдзя да гэтага ледзь магло даць насельніцтва ў 600.000 чалавек. Я запытаў сябе: куды дзелася розьніца паміж багацьцем, спажытым гэтымі 2.500 асобамі, і тым, якія павінны былі спажываць тыя 600.000 чалавек?“ Адказ быў зразумелы. Гэта розьніца ішла на тое, каб выдаваць уласьнікам прадпрыемства 5 проц. на асноўны капітал і звыш таго, яшчэ больш 300000 ф. стэр. (600.000 марак) прыбытку. І тое, што мела моц для Нью-Ланарка, у яшчэ большай ступені можна было аднесьці да ўсіх фабрык у Англіі. „Бяз гэтага новага, створанага машынамі багацьця, нельга было-б перанесьці вайну супроць Напалеона і падтрымліваць арыстакратычны лад грамадзтва. Між тым гэтая новая сіла была створана працоўнай клясай“. А таму і плады ўжываньня новай сілы павінны належаць гэтай клясе. Новыя вялізарныя вытворчыя сілы, якія дагэтуль служылі толькі для ўзбагачэньня паасобных асоб і зьняволеньня мас, здаваліся ў вачох Оўэна асновай для ператварэньня грамадзтва і для таго, каб, у якасьці агульнай уласнасьці, служыць агульнай справе.

Такім вось чыста дзелавым шляхам узьнік оўэнаўскі комунізм, зьяўляючыся плодам гандлярскага разрахунку. Той самы практычны характар захаваў ён і пасьля. Так, у 1823 г. Оўэн прапанаваў зьнішчыць ірландзкую беднасьць пры дапамозе пабудовы комуністычных колёній, пры чым склаў падрабязны разьлік выдаткаў яе організацыі,

бягучых выдаткаў і мяркуемых прыбыткаў. Таксама і ў канчатковым яго „пляне будучага“ тэхнічная выпрацоўка дэталяй праведзена з такім веданьнем справы, што раз прызнаўшы Оўэнаў мэтад рэформаваньня грамадзтва, ужо зусім мала можна супярэчыць, з дзельнага пункту погляду, супроць паасобных прыватнасьцяй.

Пераход да комунізму быў паваротным пунктам у жыцьці Оўэна. Да тэй пары, пакуль ён выступаў, як просты філянтроп, ён атрымаў толькі адно багацьце, ухвалу, пашану і славу. Ён быў папулярнейшым чалавекам у Эўропе. Ня толькі яго таварышы фабрыканты, але і дзяржаўныя людзі і манархі спачуваюча прыслухоўваліся да яго голасу. Але, калі ён выступіў з сваімі комуністычнымі тэорыямі, усё зьмянілася. Тры вялікіх перашкоды, здавалася яму, стаялі на шляху да рэформаваньня грамадзтва: прыватная ўласнасьць, рэлігія і сучасная форма шлюбу. Нападаючы на гэтыя ўстановы, ён ведаў, што яго чакае зьнявага афіцыяльнага грамадзтва, страта соцыяльнага становішча. Але яго нельга было ўтрымаць ад рэзкага выступленьня, і здарылася тое, што ён прадбачыў. Выгнаны з афіцыяльнага грамадзтва, маўчаньне аб ім друку, зруйнаваны, у выніку няўдачы комуністычных спроб у Амэрыцы, якія паглынулі ўсю яго маемасьць,—ён зьвярнуўся непасрэдна да рабочае клясы і ў яе асяродзьдзі дзейнічаў яшчэ 30 год. Усе грамадзкія рухі, увесь сапраўдны прогрэс, які ажыцьцявіўся ў Англіі ў інтарэсах рабочае клясы, зьвязаны з імем Оўэна. Так у 1819 г., пасьля пяцігадовых спроб ён правёў першы закон аб абмежаваньні дзіцячае і жаночае працы на фабрыках. Ён-жа быў старшынёю на першым Конгрэсе, які аб'яднаў трэд-юніёны усёй Англіі ў адзін вялізарны саюз. Нарэшце, ён арганізаваў у якасьці пераходнай стадыі да поўнага комуністычнага ладу грамадзтва: з аднаго боку, коопэрацыйныя таварыствы (вытворчыя і спажывецкія таварыствы), якія з гэтага часу далі, прынамсі, практычны доказ таму, што можна абыйсьціся як без гандляра, так і без фабрыкантаў; з другога боку, рынкі працы як установы, што прызначаны для абмену прадуктаў працы пры дапамозе працоўных папяровых грошай, прымаючы за адзінку вымярэньня кошту—рабочую гадзіну. Гэтыя апошнія ўстановы павінны былі няўхільна пацярпець няўдачу, але яны папярэдзілі ідэю абменнага банку Прудона, і адрозьніваліся ад яго толькі тым, што зьяўляліся не унівэрсальнай панацыяй ад усіх грамадзкіх няшчасьцяў, але толькі першы крок да значна больш радыкальнагаператварэньня грамадзтва.

(Ф. Энгельс. „Философия. Политическая экономия. Социализм“. (Анти-Дюринг). Изд. „Московский Рабочий“, Москва, 1922 г.).

### 5. Першая нацыянальная пэтыцыя.

„Высокашаноўным Абшчынам Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Ірландыі, што сабраліся ў Парлямант, пэтыцыя ад гаротных іхніх адназемцаў, якія ніжэй падпісаліся.

Пачціва тлумачальная: Што мы Вашы просьбіты, жывём у краіне, гандляры якое адрозьніваюцца нажываю, фабрыканты—знаўцы свае

справы, здатнасьць рабочых увашла ў прыказку. Сама сабою краіна прыгожая, глеба яе ўрадлівая, клімат здаровы; яна ў дастатку забясьпечана матар' яламі для гандлю і прамысловасьці; у ёй ёсьць шмат выгодных гаваняй; па лёгкасьці ўнутраных зносін яна пераважае ўсе іншыя краіны.

На працягу 23 гадоў мы цешыліся глыбокім спакоем.

І вось, пры ўсіх гэтых спрыячых для нацыянальнага дабрабыту ўмовах і ня гледзячы на ўсё імкненьне і ўменьне з выгадаю карыстацца імі, мы абцяжараны пакутамі і ў грамадзкім і ў прыватным жыцьці. Мы зьнемагаем пад цяжарам падаткаў, якія, ня гледзячы на гэта, зьяўляюцца далёка невыстарчальнымі для патрэб нашых кіраўнікоў; нашы прамыслоўцы трапечуць на краю банкроцтва: нашы рабочыя паміраюць з голаду, капітал не дае прыбытку, а крама ліхвяра поўнюсенькая; „работны“ дом перапоўнены, а фабрыка абязьлюднена.

Мы аглядваліся ва ўсе бакі, мы старанна шукалі прычын нястачы, такой цяжкай і такой працяжнай.

Мы ня можам знайсьці ніводнае з іх у прыродзе, ні ў лесе.

Неба было ласкавае да народу, але вар'яціва нашых кіраўнікоў зьвярнула ў нішто ласку боскую.

Энэргія магутнейшага каралеўства трацілася на стварэньне ўлады самалюбных і адукаваных людзей, і яго багацьці марнаваліся для іх узбагачэньня.

Дабрабыту аднае партыі быў прынесен у ахвяру дабрабыт нацыі; нямногія кіравалі ў інтарэсах нямногіх, паміж тым, як інтарэсы большасьці заставаліся ў зьневазе або нахальна і тыранічна тапталіся.

Адданым лятуценьнем народу было, што сродкі адзначнай часткі, калі не ад усіх сваіх крыўд і пакут ён знойдзе ў білі аб рэформе 1832 году.

Народ прывык глядзець на гэты ўчынак, як на мудры сродак да паважанай мэты, як мэханізм палепшанага законадаўства, калі воля мас, нарэшце, будзе мець сілу.

Але народ быў горка і нізка ашуканы.

Плады, якія здаваліся такімі прывабнымі на погляд, ператвараліся ў пыл і прах, калі іх сабралі.

Акт аб рэформе перадаў уладу ад аднае пануючае партыі другой, пакінуўшы народ таксама-ж бездапаможным, як і раней. Наша няволь-ніцтва зьмянілася тым, што мы зрабіліся толькі як бы цэхавымі вучнямі свабоды, што яшчэ ўзмацніла балючае пачуцьцё нашага сацыяльнага прыніжэньня, дадаўшы да яго горач ад новай нязьдзейсьненай надзеі.

Мы зьвяртаемся да вашай высока шаноўнай Палаты з тым, каб сказаць вам з ўсёю пашанаю, што нельга дапусьціць, каб такое становішча рэчаў працягвалася, што яно ня можа цягнуцца далей, не пагражаючы сур'ёзнаю небясьпекаю, моцнасьці трону і згодзе ўсяго каралеўства, і што калі з боскаю дапамогаю і пры ўжываньні ўсіх

законных і канстытуцыйных сродкаў можна зрабіць яму канец, то мы цьвёрда пастанавілі ў самым хуткім часе дамагчыся гэтага канца.

Мы кажам Вашай высокашаноўнай Палаце, што гаспадароў капітал павінен даваць яму належны прыбытак; што як законы, якія падымаюць цану на хлеб, так і тыя з іх, якія, ператвараючы грошы ў рэдкасьць робяць працу таннай, павінны быць зьнішчаны; што падаткі павінны прыпадаць на ўласьнікаў, а не на працу; што дабрабыт большасьці насельніцтва, як адзіная законная мэта, павінен быць адзіным прадметам клопатаў ураду.

Як папярэднюю меру для гэтых і для іншых неабходных перамен, як адзін сродак, з дапамогаю якога інтарэсы народу могуць быць абаронены і забясьпечаны, мы патрабуем, каб ахова гэтых інтарэсаў была даручана самому народу.

Калі дзяржава заклікае абаронцаў, калі яна патрабуе грошай, дык ні адмовіцца, ні прасіць аб адтэрміноўцы нельга, спасылаючыся на беднасьць і няведаньне.

Паколькі ад усіх нас патрабуюць падтрымкі і падпарадкаваньня законам, дык прырода і розум даюць нам права патрабаваць, у сваю чаргу, каб пры выданьні закону быў выслуханы голас усіх.

Мы выконваем абавязкі вольных людзей; мы павінны мець прывілеі вольных людзей.

**Мы патрабуем усеагульнага галасаваньня.**

Галасаваньне, каб быць забясьпечаным ад падкупу з боку багатых і гвалтаў з боку маючых уладу, павінна быць патаемным. Прызнаньне нашых правоў мае на мэце свабоду бескантролнага карыстаньня імі.

**Мы патрабуем тайнага галасаваньня.**

Сувязь паміж прадстаўнікамі і народам, каб быць добрачыннай, павінна быць шчыльнай.

Заканадаўчая ўлада і ўлада ўстаноўчая павінны часта мець дачыненьне і зносіны адна з аднэй, каб можна было наглядаць за іхнімі дзеяньнямі і ўдзельнічаць на іх.

Памылкі, параўнаўча лёгкія, калі народ хутка іх можа паправіць, могуць павесьці да самых згубных вынікаў, калі ім дазволіць пусьціць карэньні на працягу доўгіх гадоў гвалтоўнай зацяжкі.

Для грамадзкай небясьпекі, як і для грамадзкага давер'я, пільна патрэбны частыя выбары.

**Мы патрабуем штогодных выбараў у парлямант.**

Калі нам дадзена ўлада выбіраць і свабода ў час выбараў, межы нашага выбару не павінны быць абмежаваны.

Існуючыя законы прымушаюць нас выбіраць сваімі прадстаўнікамі людзей, якія ня здольны ацаніць нашага цяжкага становішча, або мала спачуваюць яму: купцоў, якія адыйшлі ад гандлю і больш

не адчуваюць на сабе яго цяжар; зямляўласнікаў, якія ня маюць ні патрэб у зямлі, ні сродкаў іхняга задаваленьня; адвакатаў, якія шукаюць гонару засядаць у Парляманце, толькі як сродкі, каб вылучыцца ў судох.

Працы прадстаўніка, стараннага ў выкананьні сваіх абавязкаў, шматлікія і цяжкія.

Несправядліва бязгрунтоўна і небясьпечна дапускаць, каб прадстаўнікі працягвалі іх несьці дарма.

Мы патрабуем, каб пры будучых выбарах у члены Вашае высокашаноўнае Палаты згода выбаршчыкаў была адзіным цэнзам; каб кожнаму прадстаўніку, які абраны такім чынам, была назначана з грамадзкіх прыбыткаў прыстойная і адпаведная ўзнагарода на ўвесь час, на які яго паклікалі аддаць сябе грамадзкай службе.

Нарэшце, мы самым сур'ёзным чынам хацелі-б запэўніць Вашу высокашаноўную Палату, што гэтая пэтыцыя прадыктована ня пустым замілаваньнем, што яна вынікае не з лёгкадумнай староннасьці да фактычных тэорый, але што яна зьяўляецца вынікам шмат якіх і доўгіх абмеркаваньняў і пераконаньняў, якія замацоўваліся падзеямі кожнага наступнага году.

Кіраўніцтва гэтымі магутнымі каралеўствамі да гэтага часу зьяўлялася повадам для варожых партый вытвараць над ім свае самалюбныя экспэрымэнты.

Іхнія вынікі мы спазнавалі на ўласнай горкай практыцы, калі кароткія праблёскі ненадзейнага дабрабыту танулі бяз сьледу ў доўгіх і змрочных пэрыядах пакут.

Калі самакіраўніцтва народу ня можа зьнішчыць яго няшчасьцяў, яно зьнішчыць яго нездаволенасьць.

Усеагульнае выбарчае права адно толькі прынясе і можа прынесьці праўдзівую і доўгачасную згоду нацыі; мы цьвёрда верым, што яно прынясе таксама дабрабыт.

Няхай жа будзе ласкава Ваша высокашаноўная Палата самым сур'ёзным чынам разглядзець гэтую пэтыцыю і зрабіць самыя рашучыя захады, пры дапамозе ўсіх канстытуцыйных сродкаў, каб правесьці закон, які-б гарантаваў за кожным мужчынай устаноўленага ўзросту, які мае здаровыя разумовыя здольнасьці і не асуджаны за злачынства, права выбіраць членаў парляманту; які-б вызначаў, каб усе будучыя выбары членаў парляманту адбываліся пры дапамозе тайнага галасаваньня; які выбраны такім чынам, ні ў якім выпадку не павінен быць больш за адзін год; які-б зьнішчаў усякі маёмасны цэнз для яго членаў і забясьпечваў бы за імі належную ўзнагароду на час выкананьня імі парляманцкіх абавязкаў.

І вашы просьбіты будуць вечна дзякаваць богу".

(Цыт. Фрыдлянд і А. Слуцкі. Гісторыя рэвалюцыйнага руху Заходняй Эўропы, стар. 289—292 выд. 1925 г., або стар. 186—188, № 10 выд. 1923 г.)

### 6. З прамовы Атвуда 15 студзеня 1838 г. у Біргмінгаме.

А.

„... З дапамогаю згоды, закону парадку, лаяльнасьці і яднаньня народ наймацнейшы *для дабра. У капатні і непарадках ён робіцца* слабым як дзіцё, яшчэ ніколі ня меў уладаў, але абражаны і абураны народ наймацнейшы... Мы добра ведаем і вас і сваю краіну, і мы ведаем, што сярод тых вялізарных мас людзей, якія мы павінны прыцягнуць да палітычнай дзейнасьці, у кожным горадзе Англі, Шотляндыі і Ірляндыі, ня выключаючы самога Лёндану, вар'яцтва адных і нясумленнасьць другіх лёгка могуць уцягнуць масы на памылковы шлях. За адну гадзіну памылка або злачынства могуць учыніць нашай справе і нашай краіне вялізарнае зло. Калі толькі народ дапусьціць запляміць сваю справу крывёю, дык супроць яго ўзброіцца закон і раздушыць яго...“

(Цыт. Фрыдлянд і А. Слуцкі. „Гісторыя рэвалюцыйнага руху Эўропы (1789—1914), выд. 1925 г., стар. 293, або стар.189 № 11, выд. 1923 г.)

### З прамовы О'Канора на мітынгу ў Лёндоне.

Б.

„... Беднякоў абзываюць кішэннымі зладзеямі. Але ён запытае: Якая розьніца паміж багатымі кішэннымі зладзеямі і беднымі? Розьніца вось у чым: бедны чалавек абкрадае кішэню багатага, каб напоўніць сабе бруха, а багаты абкрадвае бруха бедняка, каб набіць сваю кішэню. Народ вельмі доўга і вельмі пакорна выносіў уціск; ён ніколі ня раіў народу ўжываць фізычную сілу: таму што ён лічыць, што на гэта могуць адважыцца толькі вар'яты, але трэба ўсё-ж сказаць, што тыя, якія крычаць супроць гвалту, падтрымліваюць сваю ўладу выключна фізычнаю сілаю.

Народ павінен толькі паказаць Палаце Абшчын, што пастанова яго цьвёрдая, і рэформа будзе дадзена.

Кажуць, што рабочая кляса складаецца з брудных абарванцаў, і што сярод іх нельга знайсьці чалавека, якія годны засядаць у Палаце Абшчын. На самай справе? Але ён лёгка можа дапамагчы гэтай бядзе. Ён набярэ гэты лік з прысутных на мітынгу і адправіцца з імі спачатку *на фабрыку Гаўэса па вырабе мыла, потым пойдзе з ім да* краўца, адтуль да цырульніка і да парфумара, дзе іх акропяць модным смуродам, і пасьля ўсіх гэтых падрыхтовак пойдзе з імі ў Палату Абшчын, і, напэўна, яны будуць лепшымі з шасьцісот пяцідзесяці васьмі, якія калі-небудзь засядалі ў яе сьценах. Ён раіць ім не рабіць ні паўстаньня, ні грамадзянскай вайны, але ён усё-ж скажа, і няхай чуе гэта Палата Абшчын, што калі народ будуць прыгнятаць, калі канстытуцыя будзе парушацца, калі народ будзе жыць заўсёды ў нястачы, тады калі ніхто іншы не адважыцца на гэта—ён сам павядзе народ да сьмерці або да славы.

На поўначы ўжо паспрабавалі, што значыць фізычная сіла. Ня так даўно некаторыя з прадстаўнікоў гарадзкое паліцыі былі пасланы ў Д'юсбэры, але хлопцы гэтага шляхетнага гораду адаслалі іх назад. Ён будзе карыстацца маральным уплывам датуль, пакуль гэта магчыма, да апошніх граніц, але ён хоча таксама замацаваць у іх памяці, што лепш памерці вольным, чымся жыць нявольнікам. Кожная пачэсная перамога дасягалася фізычнаю сілаю, але ім ня трэба гэтага, бо яны даб'юцца ўсеагульнага выбарчага права, яны хутка разбураць аснову падкупу; ён спадзяецца і нават упэўнены, што народ будзе дзейнічаць на падставе цьвярозага розуму, якім заўсёды была так выключна багата рабочая кляса; няхай узьнікае саюз, і з гэтага саюзу вырасьце маральны ўплыў патрэбны для таго, каб заваяваць правы беднякам, але калі гэта ня ўдасца, дык няхай кожны чалавек падыме зброю на абарону таго, у чым яго цьвярозы розум бачыць справядлівасьць...“

(Цыт. Фрыдлянд і А. Слуцкі. „Гісторыя рэволюцыйнага руху Заходняй Эўропы“ (1789—1914), стар. 293—294, выд. 1925 г., або стар. 189—190, № 12 выд. 1923 г.).

### 7. Рэзолюцыя чартыстаў, якая заклікае да забастоўкі.

*(Рэзолюцыя, прынятая дэлегатамі трэд'юнёнаў і інш. у Манчэсьцеры, 12 жніўня 1842 г.).*

Мы, дэлегаты, розных галін прамысловасьці Манчэсьцера і яго ваколіц, разам з дэлегатамі розных часьцей Ланкашыра і Іоркшыра ўрачыста заяўляем, што паводле нашага глыбокага і непахіснага перакананьня ўсё зло, якое разьядае грамадзтва і якое паралізуе энэргію вялізарнай часткі вытворчых кляс, адбываецца толькі з прычыны клясавага законадаўства. Мы заяўляем, што адзіным сродкам супроць жахлівага народнага няшчасьця і шырока пашыранай галечы зьяўляецца неадкладная і без усялякіх урэзак прыняцьце і правядзеньне ў якасьці закону дакуманту, вядомага пад назвай Народнай хартыі.

Гэты мітынг заклікае рабочых усіх галін прамысловасьці і ўсіх прафэсій неадкладна спыніць работу, пакуль вышэйпаказаны дакумант ня зьявіцца законам для краіны.

( Г. Гардон „Чартизм“, стар. 36).

### 8. О'Канор пра комунізм, прыватную ўласнасьць і самакантроль.

Я быў, і думаю, на заўсёды застануся ворагам комунізму ў тым выглядзе, у якім ён агалашаецца рознымі тыорэтыкамі. Аднак я гарачы прыхільнік супрацоўніцтва, якое азначае законны абмен.

Супрацоўніцтва стварае ўмовы, якія, спрыяючы аб'яднаньню людзей, могуць, шырока пашырыўшыся, зрабіць комунізм дабрадзейным.

Я заўважыў, што наогул самыя гарачыя прапаведнікі комунізму зьяўляюцца самымі гультайнымі членамі грамады. Яны хацелі-б стварыць такі падзел працы, каб на долю больш пакорных прыпала ільвіная доля работы, імкнучыся, каб іх натуральным прызначэньнем была разумовая работа і даючы магчымасьць больш даверлівым працаваць рыдлёўкаю, матыкаю, молатам і ломам. Комунізм або разбурае здаровае спаборніцтва, або надае надта вялікае значэньне адзнакам і, нарэшце, павінен выразіцца ў дэспатызм самага горшага гатунку—дэспатызм самаахвяраваньня і няпэўненасьці ў сябе. У той-жа час прыватная ўласнасьць і працоўнае супрацоўніцтва стварае здаровую сувязь паміж усімі клясамі грамадзтва, якую, аднак, ніхто ня можа працягнуць далей, чым гэта патрабуецца або чым гэтага хоча яго сусед.

У комунізьме пераважная меншасьць можа быць і, вельмі магчыма, будзе заўсёды нездаволена; у той-жа час у грамадзтве прыватных уласьнікаў, усё роўна наколькі вялікім, кожны чалавек можа скардзіцца толькі на самога сябе. З гэтых прычын я зьяўляюся абаронцам прыватнае ўласнасьці і самакантролю.

. Калі мы будзем разглядаць кожнага чалавека пераважна з боку яго індывідуальных здольнасьцяў, а не як члена тае ўсеагульнае сыстэмы комунізму, супроць якой я змагаюся, мы прыдзем да перакананьня, што ня толькі яго карыснасьць для грамадзтва, але і яго шчасьце павінна быць устаноўлена законадаўчым актам. А для таго, каб дасягнуць падвойнае мэты і зрабіць яго карысным для грамадзтва і шчасьлівым, я сьцвярджаю, што няма ніякага іншага сапраўднага і нават магчымага сродку, як забясьпечыць яго такою дзялянкаю, якую ён сваёю ўласнаю працаю ці апіраючыся на прынцып супрацоўніцтва змог бы досыць добра апрацаваць.

Вось што я разумею пад супрацоўніцтвам: А. В. С. Д, або якія-небудзь іншыя чатыры чалавекі—суседзі. „А“ рыхтуецца сеяць або жаць, пры чым аднадзенная работа чатырох чалавек абыходзіцца столькі-ж, колькі работа аднаго чалавека на працягу 6-ці дзён. Жніво і сяўба павінны адбывацца толькі ў пэўны час году. „А“ падрыхтаваў усё для сяўбы, або жніва. „В“, С, Д“, магчыма, няма і паколькі яны таму не асабліва заняты, іх час не ўяўляе сабою асаблівай каштоўнасьці. Прапрацаваўшы дзень у „А“, які ў сваю чаргу, зьверне ім гэту працу, калі яны будуць падрыхтаваны, яны ператвораць час, параўнаўча бескарысны, у высокай ступені каштоўны. Вось гэта і ёсьць працоўнае супрацоўніцтва, якое нашы фэрмэры ніколі ня ўжываюць у вялікім разьмеры. Далей для ўласьніка чатырох акраў зямлі было-б надта неразумна купляць малатарню або трымаць каня, паколькі вопыт нараджае прапанову, дык для аднаго чалавека можа зрабіцца выгадным трымаць некалькі коняй, для таго, каб аддаваць іх у наймы дробным фэрмэрам, або для таго, каб дастаўляць значныя грузы на рынак, або для таго, каб вывозіць угнаеньне. Другі можа мець прыбытак з малатарні, таксама аддаючы яе ў наём. Наадварот, калі-б коні і машыны былі агульнай уласнасьцю, дык такая ўжо сапсаванасьць чала-

вечае натуры, што ўсе сталі-б старацца карыстацца і машынамі, і коньмі якраз у адзін і той-жа час.

Я нават супроць агульных кухань, агульных пякарань і агульных пралень. Я стаю за прынцып: „маё і тваё“.

(Цыт. Фрыдлянд і А. Слуцкі. „Гісторыя рэвалюцыйнага руху Заходняй Эўропы“, стар. 30—302, выд. 1925 г., або выд. 1923 г. стар. 193-194, № 17).

### 9. З прамоў дэпутатаў конвэнту 1848 году.

Дэлегат Бастону. „Працоўныя клясы Ланкашыру загінуць назаўсёды, калі добры ўзмах мятлы не ўнясе радыкальнай зьмены ў кіраўніцтва краінай (слухайце). Няма чаго навучаць супакою масы, якія паміраюць з голаду (слухайце, слухайце). Я хачу перадаць ураду праз прэсу, што ён можа быць упэўнены, што працоўныя Ланкашыру не пакорацца неабходнасьці паміраць тысячамі ў краіне, дзе пануе вялікае багацьце (слухайце, слухайце, слухайце). Сцэны, сьведкаю якіх я зьяўляюся ў сябе, сапраўды жахлівыя. Гэта маса істот, якія загаладаліся і змарнелі, падобна да зданяў, туліцца вакол майго дому, каб прасіць падачкі, яна здольна крануць каменнае сэрца. Настаў час, каб урад ужыў што-небудзь, каб палепшыць гэтае становішча мас. Калі ўрад нічога ня зробіць, ніхто ня можа ручацца за спакой у краіне“.

Дэлегат з Галіфаксу: „Мае выбаршчыкі думаюць, што пажадана дзейнічаць у духу прынцыпаў „маральнай сілы“, але яны мне далі інструкцыю ня ўпірацца на мерах бескарыснай пакорлівасьці і зьвярнуць ім іхнія правы. Да апошняга яны згодны змагацца (воплескі). Калі гэта неабходна яны гатовы сыйсьці з узгоркаў Еркшыру, каб прыйсьці на дапамогу сваім братом-грамадзянам Лёндону (слухайце, слухайце). Яны хочуць ужыць мэтады моральнае сілы, калі яны сумяшчальны з развагаю. Яны думаюць, што Конвэнт павінен зьвярнуцца да палаты абшчын і калі апошняя адхіліць нашы патрабаваньні з пагардаю або здаволіць іх напалову, трэба зьвярнуцца да Каралевы з патрабаваньнем адстаўкі яе міністраў. У выпадку, калі яе Вялікасьць адмовіцца выканаць гэты загад (я ўжываю слова „загад“ наўмысьле, бо Каралева толькі служанка народу), тады яны гатовы даручыць Конвэнту абвясьціць сябе сталым соймам і пачнецца вайна паміж двума парлямантамі, і пытаньне будзе ў тым, каму з іх будзе належыць пажаваньне“ (воплескі).

Дэлегат Вагана: „Ніякі другі народ у гэтакай ступені ня прыгнечаны і ня зносіць нястачы, як народ Вагану; ніякае другое насельніцтва ня зносіць гэтага жахлівага становішча рэчаў больш спакойна, чымся яны. Амаль усе майстэрні зачынены, рэчка прасякла ў вугальныя капальні, і работа спынілася; народ Вагану пакутуе так доўга, што ён уважае за лепшае зьвярнуцца да фізычнай сілы, чым заставацца ў сучасным становішчы (слухайце, слухайце). Рабочыя мне сказалі, што згодны падаць яшчэ адну пэтыцыю, але, калі і яна будзе

адкінута, тады яны возьмуцца за справу. Яны спадзяюцца на простую дзейнасьць, якія-б ня былі вынікі. Я ведаю, што рабочыя Вагану маюць намер адважна падтрымліваць Конвэнт да таго моманту, пакуль хартыя ня зробіцца законам краіны: рабочыя гатовы дамагчыся хартыі, калі будзе гэта магчыма „сілаю моральнаю“ або „сілаю фізычнаю“.

Дэлегат Манчэсьтэра: „10.000 рабочых у сучасны момант без работы; яны хочуць хартыі пры ўсякіх умовах, але яны лічаць за лепшае дамагчыся мэты без праліцьця крыві (слухайце, слухайце). Крамнікі адчуваюць таксама неабходнасьць перамены; іхнія прыбыткі зьменшыліся больш, чымся напалову ў той час, як плата за наём памяшканьня і іх выдаткі засталіся тыя самыя“...

Дэлегат Лівэрпулю: „Лівэрпуль, дзе жывуць найбольш багатыя купцы ў сьвеце, якія адносіліся да другіх клясаў з абыякасьцю або пагардаю, раней красаваў, але ў сучасны момант усё зьмянілася; 10.000 чалавек беспрацоўных грузчыкаў і перавозьнікаў запаўняюць вуліцы. Вось ужо дваццаць тыдняў, як яны без работы. Лівэрпуль знаходзіцца паміж банкруцтвам і рэвалюцыяй“.

Ф. Мірфільд: „Мае выбаршчыкі з Барнсэлею далі мне мандат на вялікім мітынгу перадаць вам, што калі ўрад выпусьціць армію на Ірляндыю,—нейкая іншая рэч будзе выпушчана тут (воплескі). Яны спадзяюцца, што, калі пэтыцыя будзе адхілена, Конвэнт не распусьціць сябе, але возьме ў свае рукі цуглі кіраўніцтва дзяржаваю (бурная ўхвала галярэі). Яны спадзяюцца, што Конвэнт падзеліць зямлю на маленькія фэрмы і дасьць кожнаму чалавеку магчымасьць здабываць сабе сродкі ў поце абліччa свайго“...

Дэлегат Нортгэмптону: „Рабочыя Нортгэмптону ў надзвычай паганым становішчы, і дзякуючы гэтаму яны прышлі да заключэньня, што толькі народная хартыя дасьць магчымасьць аднавіць парадак рэчаў, які здольны пацягнуць за сабою карысныя добрыя соцыяльныя перабудовы. Гэтыя рабочыя—рабочыя шаўцы, і яны залежаць ад замежнага гандлю. Яны адважыліся дамагчыся хартыі пры ўсіх умовах. Народ думае, што той, хто не жадае змагацца за яе, нягодны чалавек“ (слухайце, слухайце, воплескі).

Дэлегат Стокпорту: „Рабочыя жывуць, хутчэй за ўсё паміраюць з голаду, з прычыны малавіннай заработнай платы. Яны хочуць гарантый для жыцьця і ўласнасьці, але пры ўмове, калі гэта будзе гарантавана ўсім, але калі гэта ня можа быць дасягнута, тады яны ня бачаць другога шляху, апроч вайны. Народ Стокпорту вырашыў, што гэта пэтыцыя павінна быць апошняй. Я супроць сьпешнасьці, але і супроць баязьлівасьці“...

Рэйнольд: „У Дэрбі і ў акрузе праяўлены лепшыя пачуцьці насельніцтвам... Я мяркую, што пэтыцыя павінна быць апошняй, і я згодзен з дэпутатам, які ўчора сказаў, што адмова згадзіцца з нашымі патрабаваньнямі будзе абвяшчэньнем вайны супроць працы. Я згодзен таксама з Лафайэтам: „для таго, каб нацыя атрымала свабоду, яна павінна хацець яе“, некалькі капель крыві нічога ня значаць у балянсе,

і калі маральныя сродкі не дапамогуць, народ гатовы да ўсяго. Гэтакія пачуцьці насельніцтва Дэрбі, і я спадзяюся, што неўзабаве яно будзе ўладаць свабодаю“ (воплескі).

(Цыт. Фрыдлянд і А. Слуцкі. „Гісторыя рэволюцыйнага руху Заходняй Эўропы, стар. 305—306, выд. 1925 г., або выд. 1923 г., стар. 196—197, № 19).

## 10. Значэньне чартыскага руху.

„... Так прышоў да канца вялікі чартыскі рух,—першы політычны рух пролетарыяту ў змаганьні за сваё вызваленьне. Хто вінаваты ў сумным канцы яго? Ня сваркі правадыроў, як гавораць адны, і не злачынствы ворагаў, як кажуць другія. Вінавата ў першым і апошнім выпадку тая нясьпеласьць экономічнага разьвіцьця, дзякуючы якой і клясавая сьвядомасьць пролетарыяту ня была яшчэ поўнай, і ён сам быў яшчэ разлучаны розьніцаю ва ўмовах жыцьця і ў інтарэсах.

Але ці значыць гэта, што яно прайшло бяз сьледу? Той, хто меў шчасьлівую магчымасьць перакапаць яго літаратуру, лёгка можа прасачыць глыбокія сьляды таго ўплыву, які практыка і тэорыя чартызму павінны былі мець на політычнае выхаваньне заснавальнікаў сучаснага рабочага руху—Маркса і Энгельса. У чартыстаў яны ўпяршыню ўбачылі, як пролетарыят організуецца ў клясавую партыю, і ў іх яны ўпяршыню сустрэлі ясную і да зьдзіўленьня падрабязную распрацаваную тэорыю клясавага змаганьня. Няма сумленьня, што і вучэньне пра заваёвы політычнай улады, як неабходнай прадпасылкі да соцыяльнага перабудаваньня, было ў значнай ступені падказана Марксу і Энгельсу чартыскім рухам, які цалкам і зусім сьвядома спачываў на ім. Нарэшце, і рэволюцыйнае значэньне ўсеагульнага выбарчага права было ўпяршыню ацэнена чартыстамі, а пасьля і Марксам і Энгельсам, ад гэтага часу ён на доўгі пэрыяд робіцца лёзунгам пролетарыяту ўсіх краін. Такім чынам, чартызм не прайшоў бяз сьледу; наадварот, яго магутны дух застаўся жыць і ў процэсе гісторыі, якая вечна абнаўляецца, ня спыніў тварыць, пакуль самі ўмовы, што стварылі яго, заставаліся ў аснове сваёй усё-ж тымі самымі. Калі-ж гэтыя ўмовы зьніклі, тады памёр і ён, але гэта сьмерць была яго найвялікшай урачыстасьцю“.

(Ф. А. Ротштэйн—„Очерки по истории рабочего движения в Англии“ стар. 90—91).



# ГЕОГРАФІЯ.

*Курс вядуць: ЕЗАВІТ Т. А., ЛОЙКА М. Т.*

## ЗАДАНЬНЕ ПЯТАЕ.

(Разьлічана на 12 гадзін).

*(з прадстаўленьнем пісьмовае працы).*

## ТЭМА: ПРЫРОДНА-ГЕОГРАФІЧНЫЯ ЎМОВЫ СССР І ПАЛІТЫЧНЫ ПАДЗЕЛ [1]).

### УСТУП.

Распрацоўкаю чацьвертага заданьня мы скончылі першы аддзел нашае праграмы—„Фізыка-географічны агляд зямное кулі“. Пятым заданьнем мы пачынаем распрацоўку другога аддзелу праграмы—Політыка-географічны агляд зямлі. У гэтым аддзеле мы коратка азнаёмімся з фізыка-географічнымі асаблівасьцямі нашага Саюзу і найбольш буйных капіталістычных дзяржаў.

Усе мы памятаем лёзунг, які высунуты быў У. І. Леніным аб тым што мы ў кароткі гістарычны адрэзак часу павінны дагнаць і перагнаць у тэхнічна-экономічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны. Што азначае выкананьне гэтага лёзунгу? А гэта азначае, што мы ў кароткі адрэзак часу павінны будзем здабываць вугалю, нафты, выплаўляць чыгуну, сталі больш за самыя перадавыя капіталістычныя краіны, гэта азначае, што наша соцыялістычная сельская гаспадарка павінна забясьпечыць нас збожжам, прадуктамі жывёлагадоўлі, сырцом для прамысловасьці так, як не забясьпечвае капіталістычная сельская гаспадарка найбольш перадавых капіталістычных дзяржаў. Наш політычны парадак—дыктатура пролетарыяту забесьпечвае найбольш высокія тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва. Паўстае пытаньне, наколькі прыродна-географічныя ўмовы, гэта значыцца, наколькі такія фактары, як географічнае палажэньне, велічыня нашай тэрыторыі, клімат гэтай тэрыторыі, глеба, выкапныя багацьці спрыяюць гэтаму, наколькі яны дапамагаюць ці перашкаджаюць выкананьню лёзунгу: дагнаць і перагнаць у тэхнічна-экономічных адносінах перадавыя капіталістыч-

[1]) Падрабязны разгляд гаспадаркі СССР будзе дадзен у наступных заданьнях па эканамічнай географіі СССР.

ныя краіны. У выніку распрацоўкі тэмы мы ўпэўнімся, якія вялізарныя прыродныя багацьці ў нас маюцца і як глыбока меў рацыю т. Сталін у сваёй прамове на Ўсесаюзнай конфэрэнцыі работнікаў прамысловасьці, гаворачы пра тое, ці ёсьць у нас усе магчымасьці для выкананьня кантрольных лічбаў гаспадаркі на 1931 год, адносна нашых прыродных багацьцяў заявіў: „У нас ёсьць усё, апрача хіба каучуку. Але праз год-два і каучук мы будзем меці у сваім распараджэньні. З другога боку, з боку прыродных багацьцяў, мы забясьпечаны поўнасьцю. Іх у нас нават больш, чым трэба"...

Такім чынам выяўленьне прыродна-геаграфічных асаблівасьцяй нашага Саюзу і зьяўляецца асноўнаю мэтаю нашага заданьня. Разам з гэтым, пры распрацоўцы геаграфічнага палажэньня нашага Саюзу нам давядзецца зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на межы нашы з капіталістычнымі дзяржавамі. Нам давядзецца высьветліць з боку якіх межаў нам пагражае найбольшая небясьпека, наколькі прыродныя ўмовы, як горы, рэкі і інш. дапамагаюць нам у абароне межаў. Пры распрацоўцы заданьня нам давядзецца вывучаць карту мораў, якія абмываюць наш Саюз, карту горных хрыбтоў, узвышшаў, нізін, рэк і г. д. Зрабіць гэта лёгка, бо з большасьцю гэтых мораў, горных хрыбтоў, рэк мы сустракаліся ў заданьнях першага аддзелу нашае праграмы. Заданьне мы раім распрацаваць паводле наступнага пляну:

**Плян тэмы:**

1. Геаграфічнае палажэньне, абшары і межы СССР.
2. Рэльеф і выкапныя багацьці.
3. Клімат, абвадненьне, глеба і расьліннасьць.
4. Насельніцтва і палітычны падзел СССР.

## ЛІТАРАТУРА І ДАПАМОЖНІКІ.

1. Вучэбна-дапаможны матар'ял у канцы заданьня.
2. „Итоги Об'единенного пленума ЦК и ЦКК ВКП(б) 17—21 декабря"—стар. 75—86.
3. „Географический атлас в 16 таблицах под редакцией Шакальского"—карты на стар.: 2, 3, 5, 7, 12, 13, 14, 15, 16.

## Мэтадычныя парады да самастойнай распрацоўкі.

### Да разьдзелу I пляну—Геаграфічнае палажэньне, абшары і межы СССР.

Асноўнымі пытаньнямі, якія паўстаюць у першым разьдзеле заданьня, зьяўляюцца наступныя:

1. У якім месцы зямное кулі знаходзіцца СССР?
2. Якія абшары займае СССР у параўнаньні з найбольш буйнымі капіталістычнымі дзяржавамі?
3. З якімі дзяржавамі праходзяць межы СССР і якое эканамічнае і стратэгічнае значэньне яны маюць?

Для распрацоўкі пастаўленых пытаньняў неабходна па вучэбна-дапаможным матар'яле прачытаць артыкулы: 1) Географічнае палажэньне і абшары СССР. 2) Морскія межы СССР. 3) Сухаземныя межы СССР. Пры гэтым патрэбна скарыстаць па атласу Шакальскага карты: 1) „Полушария"—стар. 2, 3; 2) „Европа—политическая" стар. 5; 3) „Азия—политическая", стар. 7; 4) „Европейская часть СССР"—стар. 15; 5) „Карта Азиатской части СССР"—стар. 16.

У сувязі з тым, што капіталісты рыхтуюць супроць нас напад, на пытаньне аб межах нашага Саюзу і аб іхнім стратэгічным значэньні патрэбна зьвярнуць асаблівую ўвагу.

## ПЫТАНЬНІ ДЛЯ САМАПРАВЕРКІ.

На падставе прачытанага матар'ялу зрабеце наступнае:

1. Разгледзеўшы карту паўкульляў паводле атлясу Шакальскага (стар. 2, 3) дайце адказы на пытаньні:
   а) У якім паўкульлі (паўночным ці паўднёвым, заходнім ці ўсходнім) знаходзіцца СССР?
   б) Якую частку Эўропы і якую частку Азіі (лічачы па краёх гарызонту) займае СССР? Якую прыблізна частку плошчы Эўропы і Азіі займае СССР? (Мяжою паміж Эўропай і Азіяй ўмоўна лічаць Уральскі хрыбет, раку Урал, Каўкаскі хрыбет).
2. Разгледзеўшы паводле атлясу Шакальскага карту „Азия—Политическая"—стар. 7 адшукайце:
   а) Самае паўночнае месца СССР (мыс Чалюскін), самае паўднёвае месца (Кушкінскі пост—на карце не адзначан. Знаходзіцца на мяжы з Аўганістанам на паўдні ад паселішча Мерв), самае ўсходняе месца (мыс Дэжнеў) і самае заходняе месца на мяжы з Польшчаю, на паўдня ад 50 паралелі.
   б) Знайшоўшы азначаныя пункты вылічце, паміж якімі градусамі паўночнае шырыні і ўсходняе даўжыні знаходзіцца тэрыторыя СССР.
3. Якое месца займае СССР сярод іншых дзяржаў па сваіх абшарах?
4. Якое экономічнае значэньне мае велічыня абшараў СССР?
5. Разгледзьце карты па атлясу Шакальскага „Европейская часть СССР"—стар. 15, „Азия—политическая"—стар. 7 і дайце адказы на пытаньні:
   а) З якімі дзяржавамі ідзе *мяжа СССР на захадзе, поўдні, усходзе?*
   б) Якімі морамі абмываецца СССР на поўначы, усходзе, поўдні, захадзе?
   в) З якімі дзяржавамі межы СССР зьяўляюцца найбольш доўгімі?
6. Разгледзьце карты „Европа—Политическая"—стар. 5 і Азия—Политическая"—стар. 7 і скажэце:
   а) Па якіх морах, пратоках трэба ехаць, каб трапіць з г. Ленінград (порт на беразе Фінскае затокі) у Атлянтычны акіян?

б) Па якіх морах, пратоках трэба ехаць, каб трапіць з г. Растоў (порт на беразе Азоўскага мора) у г. Уладывасток (партавы горад на беразе Японскага мора—(глядзі карту „Азия—политическая").

7. Пералічэце галоўныя паўвастравы і вастравы ля берагоў нашага Саюзу.
8. Якія моры і чаму маюць для нас найбольшае экономічнае значэньне?
9. Якія межы асабліва важны для нас у экономічных адносінах і чаму?
10. Якія сухаземныя, морскія межы нашага Саюзу і чаму патрабуюць асабліва пільнай абароны?
11. Што вамі асабіста робіцца па пытаньні ваенізацыі?

### Да разьдзелу II пляну—Рэльеф і выкапныя багацьці.

У папярэдніх заданьнях мы ўжо пазнаёміліся (гл. заданьне № 3) з тым, што такое рэльеф, як утварыліся горы, нізіны, вывучылі карту галоўных горных хрыбтоў зямное кулі. Пазнаёміліся мы таксама з галоўнымі выкапнымі багацьцямі, якія ёсьць на зямлі. У азначаным разьдзеле нам давядзецца вывучыць карту рэльефу нашага Саюзу і пазнаёміцца з тымі выкапнымі багацьцямі, якія знаходзяцца на неабсяжных прасторах нашае краіны. Ва ўступе да заданьня мы зазначылі, што ў нас ёсьць у здавальняючай колькасьці самыя разнастайныя выкапні. Пасьля распрацоўкі гэтага разьдзелу мы ўбачым, што па залежах шмат якіх выкапняў, як, напрыклад, па нафце, плятыне, марганцовай рудзе мы займаем першае месца сярод іншых дзяржаў. Залежы каменнага вугалю ў адным Кузьнецкім басэйне большыя, чымся ў самых багатых па вугалю краінах Эўропы—Англіі, Германіі. Да гэтага трэба дадаць, што выкапныя багацьці нашага Саюзу мала яшчэ дасьледваны, што кожны год мы знаходзім усё новыя і новыя раёны выкапных багацьцяў, аб чым даведаемся распрацоўваючы вучэбна-дапаможны матар'ял. Словам, у нас ёсьць усе падставы, каб нашу цяжкую прамысловасьць паставіць на адно з першых месц у сьвеце, каб хутчэй вызваліцца ад залежнасьцяй у гэтых адносінах ад капіталістычных краін, у якіх мы ўсё яшчэ прымушаны купляць машыны і некаторыя прылады. Асноўнымі пытаньнямі, якія паўстаюць у азначаным разьдзеле, зьяўляюцца:

1. Які выгляд мае рэльеф СССР і як разьмешчаны па тэрыторыі нашага Саюзу галоўныя горныя хрыбты?
2. Якія выкапні знаходзяцца на тэрыторыі СССР, дзе яны знаходзяцца і іхняе гаспадарчае значэньне?

На вывучэньне карты выкапных багацьцяў неабходна зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу, бо, ня ведаючы як разьмешчаны па тэрыторыі нашага Саюзу выкапныя багацьці, для нас незразумела будзе, чаму,

напрыклад, тое ці іншае прадпрыемства будуецца ў такім та, а ня ў іншым месцы.

Для распрацоўкі пастаўленых пытаньняў неабходна прачытаць па вучэбна-дапаможным матар'яле артыкулы: 1) Будова паверхні СССР, 2) Выкапныя багацьці СССР. Пры гэтым уважліва разгледзьце фізычную карту СССР паводле атлясу Шакальскага—стар. 12 і экономічную карту Саюза стар. 14. Разам з гэтым прапрацуйце карту карысных выкапняў СССР, якую мы дадаем да вучэбна-дапаможнага матар'ялу, дзе адзначаны самыя разнастайныя выкапні, з якіх некаторыя адсутнічаюць у экономічнай карце атлясу Шакальскага. Дайце адказы на пытаньні, пастаўленыя для самаправеркі.

## ПЫТАНЬНІ ДЛЯ САМАПРАВЕРКІ.

1. Разгледзьце паводле атлясу Шакальскага фізычную карту СССР (стар. 12) і скажэце:
а) Што пераважвае, калі глядзець на карту, узвышшы ці нізіны на паверхні СССР?
б) У якіх мясцох СССР разьмешчаны высокія горныя хрыбты?
в) Чаму вада Касьпійскага мора не залівае Прыкасьпійскай нізіны?
2. Разгледзьце ў вучэбна-дапаможным матар'яле карту абляданеньня Эўропы і скажэце:
а) Чаму на поўначы і ў сярodку Эўрапэйскай часткі СССР ёсьць шмат валуноў (каменьні) і гравія (пясок)?
б) Чаму на паўдні Эўрапэйскай часткі СССР няма валуноў і гравія і як гэта адбіваецца на пабудове шляхоў зносін?
3. Дзякуючы чаму на рацэ Дняпры на поўнач ад Днепрабуду ўтварыліся парогі?
4. Якое значэньне для СССР мае пояс акрайных гор у адносінах абароны?
5. Разгледзьце карту выкапных багацьцяў СССР у вучэбна-дапаможным матар'яле і экономічную карту Саюзу паводле атлясу Шакальскага і адкажэце на пытаньні:
а) Дзе ў СССР і чаму ёсьць больш выкапняў у нізінах ці ўзгорыстых мясцовасьцях?
б) Дзе больш выкапняў—у цэнтры ці на ўскрайнах тэрыторыі СССР?
в) На поўнач ад якога мора знаходзіцца Данецкі каменна-вугальны раён?
г) У басэйне якое ракі знаходзіцца Падмаскоўны вугальны раён?
д) Паміж вярхоўем якіх двух вялікіх рэк Сібіры знаходзіцца Кузьнецкі вугальны раён?
е) На захад ад якога возера знаходзіцца Чарамхоўскі вугальны раён
ж) У якіх мясцох СССР яшчэ ёсьць вугаль?
з) Пералічэце, дзе знаходзяцца ў нас залежы нафты?
і) У які час выканана пяцігодка па нафце?

к) У загібе якое ракі знаходзіцца Крывароскі жалезарудны раён?
л) У якіх мясцох СССР ёсьць яшчэ жалезная руда?
м) У якіх мясцох СССР ёсьць залежы марганцавае руды, медзі, срэбра-сьвінцова-цынкавых руд, плятыны, золата, фасфарытаў, каменнай і самасадачнай солі?
н) У якіх мясцох СССР недаўна знойдзены апатыты, калійныя солі, нафта?
о) Аб якіх зноў вынайдзеных выкапнях вы чыталі ў газэтах?
6. Якіх выкапных багацьцяў мае шмат БССР (на карце не адзначана).
7. Выкапныя багацьці якое часткі нашага Саюзу мала дасьледваны і чаму?
6. Якое месца мы займаем сярод іншых дзяржаў па запасах каменнага вугалю, нафты?
9. Колькі каменнага вугалю, нафты мы павінны будзем здабыць паводле кантрольных лічбаў у канцы 1931 г. і колькі мы іх здабылі ў гэтым 1929/30 г. (гл. вынікі сьнежаньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) стар. 75 і 78).
10. Што вы ведаеце пра Урала-Кузьнецкі камбінат?
11. Аб чым гаворыць пастанова ЦК УсеКП(б) адносна Донбасу і і Кузбасу? (гл. вынікі сьнежаньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б) стар. 76, 77).
12. Якое значэньне для сельскае гаспадаркі маюць нядаўна знойдзеныя (каля г. Салікамску) паклады калійных соляў і апатытаў у Хібінскіх гарах?

### Да разьдзелу III пляну—Клімат, абваднеНьне, глебы і расьліннасьць СССР.

У папярэдніх заданьнях нашае праграмы мы ўжо пазнаёміліся з тым, што такое клімат, ад чаго залежыць клімат, як утвараюцца рэкі, вы вывучылі карту галоўных рэк, вазёр, карту кліматычных, глебавых, расьлінных паясоў зямное кулі. У азначаным разьдзеле нам патрэбна вывучыць клімат, а таксама карту рэк, вазёр і карту глебавых, расьлінных паясоў СССР.

Асноўнымі пытаньнямі гэтага разьдзелу зьяўляюцца наступныя:

1. Ад якіх прычын залежыць клімат і які выгляд мае кліматычная карта СССР?

2. Як разьмешчаны па тэрыторыі СССР рэкі, вазёры і якое іх гаспадарчае значэньне?

3. Як разьмешчаны па тэрыторыі СССР глебы, расьліннасьць і іх гаспадарчае значэньне?

Для прапрацоўкі пастаўленых пытаньняў неабходна прачытаць па вучэбна-дапаможнаму матар'ялу артыкулы: 1) Клімат СССР, 2) Воды СССР, 3) Глебава-расьлінныя паясы СССР і іх жывёлінны сьвет. Пры гэтым неабходна скарыстаць наступныя карты, якія зьмешчаны ў ву-

чэбна-дапаможным матар'яле: 1) Карта кліматычных паясоў СССР, 2) Карта глебаў СССР, 3) Карта расьлінных паясоў СССР, а таксама патрэбна скарыстаць па атлясу Шакальскага фізычную карту СССР (стар. 12), дзе абазначаны рэкі і вазёры СССР.

*Пасьля азнаямленьня з ўсімі трыма пытаньнямі*, прапрацуйце наступныя пытаньні, якія мы падзяляем на тры групы, згодна тром асноўным пытаньням гэтага разьдзелу.

## ПЫТАНЬНІ ДЛЯ САМАПРАВЕРКІ.

### *А. Клімат і кліматычныя паясы СССР.*

1. Які клімат завецца кантынэнтальным?

2. Які ўплыў мае на клімат СССР Антлянтычны акіян і чым тлумачыцца гэты уплыў?

3. Чаму Палярнае мора, Вялікі акіян, Чорнае, Касьпійскае мора ня маюць значнага ўплыву на зьмягчэньне клімату СССР?

4. Чаму ў г. Сталінградзе, які ляжыць далёка на поўдні ў параўнаньні з Ленінградам (Сталінград ляжыць пад 48 градусам паўночнае шырыні, а Ленінград пад 60° паўночнай шыр.—глядзі карту Эўрапэйскай часткі СССР па атлясу Шакальскага), студзень будзе такі-ж халодны, як у Ленінградзе?

5. Якія вятры пераважна дзьмуць у паўночнай і ў паўднёвай палове СССР і які ўплыў яны робяць на клімат?

6. Разгледзьце карту ападкаў СССР (вучэбна-дапаможны матар'ял) і скажэце:

а) Як мяняецца колькасьць ападкаў у напрамку з захаду на ўсход СССР?

б) Як мяняецца колькасьць ападкаў з поўначы на поўдня, калі глядзець по 60 мерыдыяну ад Грынвіча?

в) Чым тлумачыцца, што колькасьць ападкаў мяняецца ў напрамках з захаду на ўсход і з поўначы на паўдня СССР?

г) У якіх мясцох СССР ападкаў не хапае для земляробства, у якіх ападкаў лішак і ў якіх дастатковая колькасьць?

7. У якую пару году ападкі вельмі каштоўны для земляробства і чаму?

8. Ці дастаткова для земляробства ападкаў выпадае ў БССР?

9. Разгледзьце ў вучэбна-дапаможным матар'яле карту кліматычных паясоў СССР і скажэце, як разьмяшчаюцца кліматычныя паясы СССР у напрамку з паўночы на паўдня?

10. Якімі спосабамі вядзецца барацьба ў засушлівых і балотлівых мясцовасьцях?

11. Як павялічваецца інтэнсыўнасьць гэтае барацьбы ў сувязі з калектывізацыяй с.-г.?

12. Наколькі працантаў выканана ў вашым районе дырэктыва партыі аб калектывізацыі сельскай гаспадаркі?

*Б. Воды СССР.*

1. Якія воды завуцца глебавымі і які ўплыў яны маюць на расьліны?

2. Ад якіх прычын залежыць разьмеркаваньне глебавых вод на тэрыторыі СССР?

3. Якім спосабам зьберагчы і накапіць глебавыя воды ў засушлівых мясцох?

4. Дзе ў СССР вялікую ролю могуць мець артэзіянскія калодзежы і чаму?

5. Як утвараюцца мінэральныя крыніцы і дзе яны маюцца ў СССР?

6. Якога паходжаньня большасьць рэк СССР?

7. Па табліцах галоўнейшых рэк і вазёр СССР з дапамогаю фізычнай карты СССР атлясу Шакальскага прарабеце наступную працу:

а) Знайдзеце на карце ўсе рэкі і вазёры, якія прыведзены ў табліцы (табліца зьмешчана ў вучэбна-дапаможным матар'яле).

б) Якія даданыя і адмоўныя бакі маюць нашы рэкі, вазёры для гаспадарчага разьвіцьця? (пералічэце і паясьнеце прыкладамі).

в) Якія рэкі нашага Саюзу маюць шмат парогаў і вадаспадаў і якое гэта мае значэньне для электрыфікацыі СССР?

(Пакажэце, на якіх рэках у нас пабудаваны і будуюцца электрычныя гідрастанцыі).

г) Якія рэкі СССР і чаму маюць вялікае значэньне для штучнага абвадненьня палей?

д) Якія рэкі СССР і чаму маюць найвялікшае значэньне, як шляхі зносін?

е) Пакажэце, дзе праэктуецца пабудова Волга-Донскае канавы?

ж) З якіх вазёр СССР здабываецца шмат солі?

**Глебава-расьлінныя паясы СССР і жывёлы.**

1. Разгледзьце карту расьлінных паясоў СССР і адкажэце на наступныя пытаньні:

а) Пералічэце расьлінныя паясы СССР у напрамку з поўначы на поўдня.

б) Які расьлінны пояс зьяўляецца найбольш шырокім?

в) Па якіх расьлінных паясох цякуць рэкі: Об, Янісей, Лена, Днепр, Сыр-Дар'я?

г) Якія расьлінныя паясы найбольш бедны расьліннасьцю і чаму?

2. Разгледзьце карту глебавых паясоў і скажэце:

а) Якія і ў якім парадку, лічачы з поўначы на поўдня, ідуць па СССР глебавыя паясы?

б) Па якіх глебавых паясох цячэ рака Волга?

в) Якія глебы характэрны для паясоў тундр, лесу, стэпу?

3. У якіх лясных паясох і чаму найбольш сустракаецца балот?

4. Якія расьліны і жывёлы характэрны для паясоў тундр, стэпу, пустынь?

5. Як разьмяркоўваюцца расьлінныя паясы ў горных мясцовасьцях і чаму яны там так разьмяркоўваюцца?

6. Чаму ў поясе стэпу не растуць лясы?

7. Дзякуючы якой прычыне ў лясным поясе ўтвараюцца падзольныя глебы?

8. У якіх глебавых і расьлінных паясох знаходзіцца БССР?

9. Якіх глебавых і расьлінных паясоў няма на заходняй і ўсходняй мяжы СССР?

10. Пералічэце, якім галінам сельскае гаспадаркі (земляробству, жывёлагадоўлі, паляўніцтву) найбольш спрыяюць пояс тундраў, пояс лесу, стэпаў, паясы пустынь і гор?

### Да разьдзелу IV пляну—Насельніцтва СССР.

У папярэдніх разьдзелах мы разглядзелі геаграфічнае палажэньне, рэльеф, выкапныя багацьці, рэкі, клімат, глебу і расьліннасьць. Мы бачылі, якія вялізарныя прыродныя багацьці мае СССР на сваіх абшарах. Але ўсе гэтыя прыродныя багацьці, ці, як іх завуць, вытворчыя сілы прыроды, могуць толькі тагды мець значэньне для гаспадарчага разьвіцьця, калі к ім прыкладзены праца і тэхніка чалавека ці, як кажуць, вытворчыя сілы людзей. Вось чаму нам неабходна ведаць ня толькі прыродныя ўмовы нашае гаспадаркі, а трэба ведаць, як забясьпечана наша краіна працоўным насельніцтвам, трэба ведаць колькасьць і разьмеркаваньне (гушчыню) насельніцтва па тэрыторыі СССР.

Пры гэтым трэба добра памятаць, што прыродныя багацьці і наліччa густога насельніцтва не забясьпечвае яшчэ гаспадарчага разьвіцьця краіны. Былая царская Расія мела прыродныя багацьці ня меншыя, чым зараз мае СССР, працоўнага насельніцтва таксама хапала і насельніцтва гэта высялялася нават у іншыя краіны, аднак гаспадарчае разьвіцьцё былое Расіі ішло вельмі павольна, вялізарныя прыродныя багацьці ня былі скарыстаны. Зусім адваротнае мы бачым зараз у нашым Саюзе. На тэрыторыі меншай, чым былая Расія, пролетарыят нябачнымі ў гісторыі тэмпамі разьвівае гаспадарку. Па програме 1931 г. мы каменнага вуглю здабываем амаль у 3 разы больш, чым здабывалася ў былой Расіі. Па сельска-гаспадарчаму машына-будаўніцтву мы пераганяем перадавую капіталістычную краіну Паўн.-Ам. Злуч. Штаты. Растуць гіганты фабрыкі, заводы, будуюцца электрычныя станцыі. На сухіх паўднёвых стэпох, дзе вольна гуляў вецер, гудуць трактары, камбайны калгасаў, саўгасаў—і усё гэта робіцца на руінах імпэрыялістычнае вайны і інтэрвэнтаў і робіцца ўласнымі сіламі працоўных. У чым справа, дзе прычыны гэтага? Прычына для кожнага працоўнага ясная. Пролетарыят СССР скінуў уладу буржуазіі і ўзяў уладу ў свае рукі.

Капіталістычныя грамадзкія адносіны былое Расіі, пабудаваныя на эксплёатацыі працоўных, замяніліся сацыялістычнымі грамадзкімі адносінамі, пабудаванымі па зьнішчэньні эксплёатацыі. Рабочы, які пры капіталістычных грамадзкіх адносінах ня быў зацікаўлен у разьвіцьці гаспадаркі, у разьвіцьці тэхнікі, калі капіталістычныя грамадзкія адносіны былі заменены сацыялістычнымі, зацікаўлен у найхутчэйшым разьвіцьці гаспадаркі, бо ўся яго праца, усе яго вытворчыя сілы ідуць на яго-ж самаго.

Прыведзены прыклад яскрава паказвае, што для разьвіцьця гаспадаркі адных прыродных багацьцяў мала, мала і наліча густога насельніцтва, а трэба каб былі пэўныя грамадзкія адносіны ці як кажуць соцыяльна-экономічныя ўмовы, якія зьяўляюцца асноўнымі фактарамі разьвіцьця гаспадаркі.

Для гаспадарчага разьвіцьця вялікае значэньне мае правільнае ленінскае правядзеньне нацыянальнай політыкі. Соцыялістычныя грамадзкія адносіны, пабудаваныя не на эксплёатацыі, а на экономічным і культурным разьвіцьці працоўных усіх нацыяў, забясьпечваюць актыўны ўдзел гэтых працоўных у гаспадарчым разьвіцьці СССР. У гэтым разьдзеле мы пазнаёміліся з тымі нацыянальнымі рэспублікамі, вобласьцямі, якія зьявіліся вынікам ленінскай нацыянальнай політыкі і якія ўтвараюць брацкі Соцыялістычны Саюз. Усіх вышэйадзначаных момантаў ня трэба забываць, вывучаючы насельніцтва СССР. Асноўнымі пытаньнямі гэтага разьдзелу зьяўляюцца:

1. Якая колькасьць і гушчыня насельніцтва ў паасобных частках СССР?

2. Якія народы і нацыянальныя Савецкія рэспублікі ўваходзяць у склад СССР і іх месца на карце?

Для прапрацоўкі пастаўленых пытаньняў прачытайце па вучэбна-дапаможнаму матар'ялу артыкул—Насельніцтва СССР. Пры гэтым скарыстайце наступныя карты па вучэбна-дапаможнаму матар'ялу: 1) карта гушчыні сельскага насельніцтва СССР, 2) Схэма нацыянальна-політычнай структуры СССР. Па атлясу Шакальскага карты: „Европейская часть СССР"—стр. 15, 2) „Карта Азиатской части СССР"—стар. 16.

На падставе азнаямленьня з вызначаным матар'ялам адкажэце на пытаньні.

## ПЫТАНЬНІ ДЛЯ САМАПРАВЕРКІ.

1. Якое месца займае СССР па колькасьці насельніцтва сярод іншых дзяржаў?

2. Разьгледзьце карту гушчыні сельскага насельніцтва СССР, параўнайце яе з картамі рэльефу, клімату, глебаў, расьліннасьці і адкажэце на пытаньні:

а) У якім глебавым і расьлінным поясе Эўрапэйскай часткі СССР гушчыня насельніцтва ніжэй 15—чалавек на кв. клм.?

б) Дзе ў Азіяцкай частцы СССР гушчыня насельніцтва самая невялікая і якімі прыроднымі ўмовамі можна гэта растлумачыць.

в) У якіх частках СССР насельніцтва вышэй 50 ч. на 1 кв. км?

3. Па картах Эўрапэйскай і Азіяцкай часткі СССР (атляс Шакальскага стар. 15, 16) пакажэце:

а) Найбольш буйныя і партовыя гарады: Масква, Ленінград, Менск, Харкаў, Кіеў, Днепрапятроўск, Адэса, Растоў, Тыфліс, Баку, Астрахань, Сталінград, Казань, Архангельск, Мурманск, Сьвярдлоўск, Омск, Нова-Сібірск, Іркуцк, Хабараўск, Уладывасток.

б) Якія з паказаных гарадоў зьяўляюцца партовымі?

в) Як разьмешчаны гарады Сібіры і чаму яны так разьмешчаны?

4. Як зжываецца зямельная цесната ў СССР і як зжывалася яна ў былой Расіі?

5. Разглядзеце схэму нацыянальна-палітычнай структуры СССР і прарабеце наступную працу:

а) Знайдзеце на картах Эўрапэйскай і Азіяцкай часткі СССР атлясу Шакальскага (ст. 15, 16) усе названыя ў схэме саюзныя і аўтаномныя рэспублікі, а таксама аўтаномныя вобласьці.

б) Якія саюзныя рэспублікі знаходзяцца на мяжы з Польшчаю, Румыніяй, Турцыяй, Пэрсіяй, Аўганістанам?

6. Скажэце канкрэтна, чым нацыянальная палітыка пролетарыяту адрозьніваецца ад нацыянальнай палітыкі буржуазіі?

7. У чым клясавая сутнасьць нацыянальнай тэорыі беларускіх нацдэмаў?

## ПІСЬМОВАЯ ПРАЦА.

## ТЭМА: „ПРЫРОДНЫЯ ГЕОГРАФІЧНЫЯ ЎМОВЫ СССР“.

### Плян тэмы:

1. У якіх частках сьвету знаходзіцца СССР, і якімі марамі ён абмываецца?

2. Якія моры і чаму маюць найбольшае значэньне для гаспадаркі СССР?

3. Наколькі забясьпечан СССР у параўнаньні з капіталістычнымі краінамі такімі выкапнямі, як каменны вугаль, нафта і жалезная руда?

4. У якіх раёнах (указаць галоўныя раёны) СССР ёсьць шмат каменнага вугалю, нафты, жалезнае руды і дзе знаходзяцца гэтыя раёны. (Указаць па цячэньню такой-та ракі, на захад, поўнач, усход ад ракі, па такіх та горах і т. д.).

5. Якія рэкі СССР і чаму маюць найвялікшае гаспадарчае значэньне?

6. Якія з пералічаных рэк плывуць па тэрыторыі БССР і ў чым іх гаспадарчае значэньне?

7. Якія кліматычныя ўмовы разьвіцьця сельскае гаспадаркі ў розных частках СССР?

8. Якім галінам сельскае гаспадаркі (жывёлагадоўлі, збожжавай гаспадаркі, разьвядзеньню тэхнічных расьлін) найбольш спрыяе клімат БССР і чаму?

9. Якія вывады з усяго вышэйсказанага трэба зрабіць адносна прыродных умоў разьвіцьця гаспадаркі СССР?

Увага: Просьба адказы на пытаньні тэмы збудаваць так, каб між імі была сувязь, каб атрымаўся адзіны расказ пра прыродныя ўмовы разьвіцьця гаспадаркі СССР.

---

## ВУЧЭБНА-ДАПАМОЖНЫ МАТЭРЫЯЛ.

### 1. Геаграфічнае палажэньне і абшары СССР.

СССР займае ўсходнюю палову Эўропы і ўсю паўночную і часткова сярэднюю палову Азіі. Займаючы 21,2 мільёны квадратовых кілёмэтраў, што складае 1/7 частку сухазем'я, СССР зьяўляецца аднэй з самых буйных краін сьвету. Толькі адна Брытанская імпэрыя з усімі сваімі каленіямі па тэрыторыі (36 кв. кілём.) большая за СССР, але тэрыторыя гэтае імпэрыялістычнай дзяржавы раскідана па ўсіх частках сьвету. Суцэльнай-жа тэрыторыі такой вялікай, якую займае СССР, ня мае ні адна дзяржава сьвету. Аб велічыні тэрыторыі СССР гаворыць тое, што каб на скорым цягніку з Менску праехаць у Ўладзівасток (горад на далёкім Усходзе, на беразе Японскага мора), дык патрэбна патраціць амаль 10 сутак. З поўначы да поўдня СССР раскінулася на 3½ тысячы кілёмэтраў. Займаючы такую вялікую тэрыторыю СССР, як мы ўгледзім ніжэй, мае самыя разнастайныя прыродныя ўмовы для разьвіцьця гаспадаркі. На тэрыторыі СССР ёсьць мейсцы, дзе амаль ня бывае зімы, дзе растуць такія далікатныя расьліны, як чай, бавоўна і ёсьць мейсцы, дзе круглы год цягнецца зіма. Амаль усе выкапні, пачынаючы ад торфу, каменнага вугалю і канчаючы такімі рэдкімі мінэраламі і мэталямі, як калійныя солі, плаціна можна знайсьці на тэрыторыі СССР.

### 2. Морскія межы СССР.

*Паўночнае Палярнае мора.*

Паўночную мяжу СССР складае Паўночнае Палярнае мора, усе землі якога паміж мэрыдыянамі Рыбачага паўвострова і мыса Дзежнева Саўнаркомам СССР (у 1926 г.) абвешчаны ўладаньнем СССР. Воды цёплае плыні Гольфштрома далёка пранікаюць у Паўночнае Палярнае мора да Шпіцбергена (Свальбарда) і Новай Зямлі.

Месцы, дзе цёплыя воды Гольфштрома сустракаюцца з халоднымі водамі Палярнага мора, асабліва многа маюць дробных расьлінных і жывёлінных арганізмаў (так званых планктонаў), а таму і рыбай

і морскім зьверам гэтыя месцы вельмі багаты. Гэта лепшыя месцы для морскага промысла. Да такіх месцаў належаць узьбярэжжы Мурмана, Шпіцбергена і Новай Зямлі.

У другую палову лета судны могуць далёка забірацца на поўнач, як гэта даводзяць паездкі кіталоўных суднаў і слаўная экспэдыцыя нашага ледаколу „Красін“ для выратаваньня экіпажу дырыжабля „Італіі“, які пацярпеў аварыю ў 1928 г. „Красін“ дасягнуў 82° паўн. ш. на поўнач ад Шпіцбергена. Улетку 1929 г. савецкая экспэдыцыя на ледаколе „Седоў“ таксама без асаблівых цяжкасьцяй дабралася да архіпэлягу Франца Іосіфа, узьняла на ім сьцяг Саюзу і ўстанавіла там мэтэоролёгічную, магнэсавую і радыё-станцыі.

У Палярным моры самымі выгоднымі для суднаходзтва часткамі зьяўляюцца заходняя частка (Барэнцава мора) і ўсходняя частка (Усходня-Сібірскае мора). Значна больш цяжкім зьяўляецца плаваньне ў сярэдзіне (у Карскім моры і моры Лапцёвых). Гэтыя моры знаходзяцца больш на поўнач, і ўвесь час бываюць запоўнены ільдом (праверце па карце).

Цяжкасьць абыходу Таймырскага паўвострава такая вялікая, што толькі нямногім, спэцыяльна для гэтага наладжаным экспэдыцыям удалося прайсьці з Барэнцава мора ў Ціхі акіян. Першая экспэдыцыя, якая прайшла гэтым шляхам (так званым Паўночна-Ўсходнім праходам) была экспэдыцыя Нордэншэльда на караблі Вега ў 1878-79 г. г. У зваротным напрамку, г. зн. ад Бэрынгавае пратокі ў Архангельск, прайшла экспэдыцыя Вількіцкага малодшага ў 1813-14 г. У пошуках праходу на поўнач ад Таймырскага паўвострава, ад якога ў той год лёдавы „припай“ да канца восені не адыходзіў, Вількіцкі наткнуўся на два дагэтуль невядомых вастравы: Паўночная Зямля і Малы Таймыр. Абрысы гэтых вастравоў у іх заходняй частцы дагэтуль нядобра вядомы. Для іх дасьледваньня ў 1930 г. накіравалася спэцыяльная савецкая экспэдыцыя. Як морскі суцэльны шлях зносін Паўночнае Палярнае мора ня мае вялікага значэньня. Але яно надзвычайна важна як шлях да вусьцяў сібірскіх рэк Обі і Янісея. Дзеля палягчэньня гэтага шляху савецкім урадам пабудаваны пастаянныя радыё-станцыі на пратоках, якія вядуць у Карскае мора, на „Матачкином Шаре“ і Карскіх Варотах, а таксама на востраве Дыксана пры ўтоку Янісея. Станцыі паведамляюць суднам аб стане ільдоў і надвор'і. Дзеля палягчэньня суднаходзтва да ўтокаў усходня-сібірскіх рэк пабудована радыё-станцыя на востраве Ўрангеля.

У апошні час спрабуюць скарыстаць Паўночнае Палярнае мора, як самы кароткі шлях дзеля паветровых палётаў, бо, напрыклад, шлях праз Палярнае мора з Лёндану ў Японію ўдвойчы карацейшы, чым праз Суэцкую і Панамскую канавы.

З паасобных частак Паўночнага Палярнага мора для Саюзу ССР асабліва каштоўны заходняя частка Мурманскага ўзьбярэжжа, дзе навігацыя магчыма цэлы год, хоць ёй і перашкаджае палярная ноч, і Белае мора, дзе навігацыя працягваецца каля паўгода.

На ўзьбярэжжах Паўночнага Палярнога мора ёсьць толькі два значных парты—Мурманск і Архангельск.

*Бэрынгава, Ахоцкае і Японскае моры.*

Паўночнае Палярнае мора злучаецца з Ціхім акіянам пры дапамозе Бэрынгавай пратокі, праз якую праходзіць савецка-амэрыканская мяжа.

На поўдзень ад Бэрынгавай пратокі мяжа СССР ідзе па Бэрынгаваму мору, уздоўж берагоў Камчаткі. Камандорскія выстравы, славутыя сваімі лежбішчамі морскіх коцікаў і маржоў, належаць СССР. Курыльскія вастравы належаць Японіі.

Халодныя плыні і халодныя вятры з Усходняга Сібіру робяць Бэрынгава і Ахоцкае моры палярнымі морамі: улетку ільды і туманы перашкаджаюць тут суднаходзтву.

Японскае мора крыху цяплейшае. Але на стромкіх узьбярэжжах яго няма выгодных апорных гаваняў, апрач Уладывастоку.

Вялікая адлегласьць гэтых узьбярэжжаў ад галоўнейшых экономічных цэнтраў СССР, іхняя малалюднасьць і блізкасьць гор да берагавой паласы ствараюць цяжкасьці ў іх скарыстаньні. Гэтыя ўзьбярэжжы павінны ажывіцца з разьвіцьцём на нашым Далёкім Усходзе больш дзейнага экономічнага жыцьця. Экспорт леса і скарыстаньне рыбных і іншых морскіх багацьцяў (водарастаў, крабаў і г. д.) будуць грунтам таго ажыўленьня, якое ўжо распачалося.

*Касьпійскае мора.*

Касьпійскае мора, ці праўдзівей возера, ёсьць самае вялікае возера на зямной кулі.

Узровень Касьпійскага мора на 27 м. ніжэй ўзроўня Чорнага мора і акіяну. Прылівы і адлівы ў ім амаль адсутнічаюць. Але затое ўзровень яго пэрыодычна то ўзьнімаецца, то паніжаецца, у выніку зьмены колькасьці вады, якую нясе ў яго Волга і іншыя рэкі ў пэрыяды больш дажджлівых і больш сухіх гадоў. Памяленьне ўзьбярэжжаў Касьпійскага мора, асабліва ў паўночнай яго частцы, выклікае цяжкасьці пры суднаходзтве і патрабуе паглыбленьня.

Салонасьць вады ў Касьпійскім моры параўнаўча невялікая (каля 1,5 проц.), а бліжэй да ўтоку Волгі вада амаль прэсная. Невялікая салонасьць Касьпійскага мора тлумачыцца часткова тым, што яго затока Карабугаз зьяўляецца свайго роду апрасьніцелем. У ім адбываецца асабліва моцнае выпарэньне, і ўвесь час адкладаюцца солі. Слабая салонасьць паўночнай часткі Касьпійскага мора дае магчымасьць загатаўляць узімку амаль прэсны лёд, што вельмі важна для паўночных яго ўзьбярэжжаў, якія адчуваюць недахоп вады.

Касьпійскае мора моцна награваецца і цэлы год бывае вольным ад лёду, апрача паўночных узьбярэжжаў. Цёплая вада, вялікая колькасьць узьбярэжнага чароту і багацьце планктонам, які зьяўляецца стравай для рыб, робіць Касьпійскае мора асабліва багатым рыбаю.

У рыбных багацьцях зьмяшчаецца галоўнае экономічнае значэньне гэтага мора. Апроч таго, яно адыгрывае пэўную ролю як шлях зносін, асабліва для вывазу нафты і яе прадуктаў з Баку і Грознага, а таксама для гандлю з Пэрсіяй.

### *Чорнае і Азоўскае мора.*

Чорнае мора аддзяляе СССР ад трох дзяржаў: Румыніі, Баўгарыі і Турцыі. Пасьля імпэрыялістычнай вайны 1914—18 г. г. умацаваньні пратокаў Басфору і Дарданел былі зрыты, і гэтыя пратокі абвешчаны нэйтральнымі і адчыненымі для ваенных і гандлёвых суднаў усяго сьвету.

Чорнае мора—вельмі глыбокае мора. Глыбіня ў яго сярэдняй частцы дасягае 2½ км. Па паходжаньню гэта правал. Апусканьне дна яго яшчэ ня зусім спынілася, што выяўляецца ў землятрасеньнях на Крымскім і Каўкаскім узьбярэжжах.

Салонасьць вады Чорнага мора каля 2 проц. З прычыны таго, што сплыў вады з Чорнага мора ў Мрамарнае павярхнёвы, дык у глыбокіх, больш цяжкіх водах яго атрымліваецца застойнасьць, якая выклікае прасяканьне вады, пачынаючы з глыбіні 200 *м*, серавадародам. Серавадарод вылучаецца пры гніцьці органічных рэчаў, якія трапляюць зьверху, і ў выніку прысутнасьці серавадароду, ніжэйшыя пласты Чорнага мора зусім пазбаўлены жыцьця.

Рыбныя багацьці Чорнага мора невялікія, асабліва ў параўнаньні з Касьпійскім морам. (Чаму?).

Чорнае мора мае вельмі вялікае значэньне для нашага вывазу і ўвозу. Яно адчынена для суднаходзтва цэлы год. Толькі паўночнае ўзьбярэжжа яго замярзае на кароткі час (некалькі тыдняў). Ня менш важнае значэньне Чорнага мора для абароны СССР. (Растлумачце чаму і параўнайце з Паўночным Палярным морам).

Азоўскае мора—мелкая (найбольшая глыбіня 17 м.) затока Чорнага мора, злучаная з ім Керчанскай пратокай. Яно паступова мялее і заносіцца рачнымі наносамі, асабліва ракі Дона. З вусьця Дона ў Азоўскае мора для палягчэньня суднаходзтва ў 1929 г. праведзена морская канава. У заходняй сваёй частцы Азоўскае мора стварае салоную высыхаючую затоку Сіваш, ці Гнілое мора. Затока гэтая аддзяляецца ад мора намыўнаю Арабацкаю касою. Азоўскае мора багацей на рыбу, чым Чорнае.

### *Фінская затока.*

Фінская затока толькі сваім усходнім канцом уваходзіць у межы СССР. Яна лічыцца адчыненым нэйтральным морам. Хоць Фінская затока—толькі задні двор Балтыцкага мора, а апошняе—толькі двор Нямецкага мора, тым ня менш Фінская затока мае вельмі вялікае значэньне для нашага замежнага гандлю. Крыху перашкаджае зносінам замярзаньне ўсходняга кавалку гэтае затокі амаль на чатыры ме-

сяцы, а таксама і тое, што яна падупадае моцным бурам. Прыліваў і адліваў у Фінскай затоцы няма, але пры заходніх бурах у канец Фінскае затокі, г. зн. Маркізаву лужу, наганяецца столькі вады, што ўзровень яе падымаецца мэтры на чатыры і больш, чым выклікаюцца паводкі ў Ленінградзе. Уваход у Маркізаву лужу абараняецца морскай цытадэляй Кранштатам.

### 3. Сухаземныя межы СССР.

*Мяжа з Фінляндыяй, Эстоніяй і Латвіяй.*

Варожы нам капіталістычны сьвет асаблівую ўвагу зьвяртае на нашы межы, як лініі магчымага будучага нападу на нашу краіну. Найбольш важнай у гэтых адносінах зьяўляецца заходняя мяжа. З аднаго боку, яна бліжэй за ўсё падыходзіць да важнейшых імпэрыялістычных дзяржаў Эўропы і аддзяляецца ад іх толькі вузкай палосай невялікіх дзяржаў—лімітрофаў. (Назавеце іх). Буйныя імпэрыялістычныя дзяржавы падтрымліваюць Эстонію, Латвію і Фінляндыю і імкнуцца скарыстаць іх для нападу на Савецкі Саюз. Польшча, якая знаходзіцца ў ваенным саюзе з Румыніяй, збліжаецца на поўначы з гэтымі-ж краінамі. Такім чынам уздоўж заходняй мяжы СССР стварaецца суцэльная лінія капіталістычнага абкружэньня.

Імпэрыялістычныя дзяржавы імкнуцца прадоўжыць гэтае абкружэньне і па нашай азіяцкай мяжы, ужываючы ўціск, подкуп і інтрыгі ў мяжуючых з намі азіяцкіх дзяржавах—Турцыі, Пэрсіі, Афганістане, Кітаі. Аднак, у гэтых краінах, якія доўгі час прыгняталіся імпэрыялістамі, ідзе нацыянальна-вызваленчы рух працоўных мас супроць эўрапэйска-амэрыканскага капіталізму, і народы гэтых краін бачаць у СССР свайго натуральнага і шчырага сябра і саюзьніка. Скалачваньню антысавецкага блёку ўздоўж азіяцкай мяжы перашкаджае яшчэ вялізарны працяг гэтае мяжы, вялікая яе адлегласьць ад галоўных імпэрыялістычных краін і слабае разьвіцьцё шляхоў зносін.

Сухаземная мяжа СССР на паўночным захадзе пачынаецца мяжой з Фінляндыяй пасярэдзіне Рыбацкага паўвострава. Тут Савецкая ўлада ўступіла Фінляндыі палосу зямлі. Тым самым Фінляндыя атрымала доступ да акіяну (Пячэнгскі порт) і магчымасьць сплава лесу з возера Энарэ. Потым мяжа ідзе на поўдзень па горах і больш ці менш па вадападзелу паміж рэкамі Белага і Балтыцкага мораў. Ладаскае возера мяжа расьсякае папалам. Далей яна ідзе па ўмоўнай лініі, прычым падыходзіць на 30 км. да Ленінграду. Экономічнае значэньне гэтай мяжы невялікае, асабліва на поўначы: наш гандаль з Фінляндыяй складае менш 1 проц. усяго нашага замежнага гандлю. Мы перадаем у Фінляндыю па чыгунцы хлеб, яйца, скуры, атрымліваем паперу і некаторыя іншыя прамысловыя тавары.

Каля ўтоку ракі Наровы пачынаецца Эстонская мяжа. Яна ідзе на поўдзень праз Чудскае і Пскоўскае вазёры. Далей на поўдзень аж да

Заходняй Дзьвіны яе працягам зьяўляецца латвійска-савецкая мяжа. Экономічна гэтыя межы вельмі важныя, бо праз іх ідуць нашы чыгуначныя лініі да амаль незамярзаючых партоў Балтыцкага мора: Рэвелю (Талін), Рыгі, Віндавы (Вентсьпільс) і Лібавы (Льепях). Гандлёвы памен на гэтай мяжы даволі значны, асабліва ў зімнія месяцы. (Чаму?).

### *Мяжа з Польшчай і Румыніяй.*

Мяжа з Польшчай пракладзена ад Заходняй Дзьвіны да Днястра з поўначы на поўдзень, зусім без натуральных рубяжоў і пры гэтым так, што ў складзе Польшчы засталіся значныя землі з пераважна беларускім і украінскім насельніцтвам. Імпэрыялістычныя імкненьні польскай буржуазіі, накіраваныя да захопу і Савецкай Беларусі і Украіны, патрабуюць з нашага боку асаблівай пільнасьці іменна на польскім вучастку нашай мяжы. (Памерайце прыблізна па карце па маштабу працяг гэтай мяжы).

Ад Камянец-Падольска на поўдзень па Днястру да яго ўтоку праходзіць наша фактычная мяжа з Румыніяй. Такім чынам, Бесарабія, якая ляжыць паміж Днястром, Прутом і рукавом Дуная і якая ўваходзіла раней у склад Расійскае дзяржавы, засталася па-за межамі Саюзу. Бесарабія была захоплена Румыніяй пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі (у студзені 1918 г.) супроць волі працоўных мас яе насельніцтва. Ня гледзячы на прапанову СССР вырашыць пытаньне аб уваходзе Бесарабіі ў СССР ці ў Румынію народным галасаваньнем жыхароў Бесарабіі, Румынія пры падтрыманьні імпэрыялістычных дзяржаў Эўропы дагэтуль трымае Бесарабію ў сваіх руках і заключыла нават ваенны саюз з Польшчай, накіраваны супроць СССР. СССР не падтрымлівае дыплёматычных зносін з Румыніяй і не вядзе з ёю гандлю.

### *Мяжа з Турцыяй, Пэрсіяй і Афганістанам.*

Наша сухаземная мяжа з Турцыяй па горах Закаўказьзя праведзена пасьля сусьветнай вайны, пры чым Савецкі ўрад аддаў Турцыі тры акругі, дзе пераважна жыве турэцкае насельніцтва.

Сухаземная мяжа з Пэрсіяй у Закаўказьзі праходзіць па рацэ Араксу і горах, у Закасьпіі—па рацэ Атрэку і хрыбту Копет-даг. Гандлёвае значэньне гэтых межаў дагэтуль было невялікае.

Далей на Ўсход ідзе мяжа з Афганістанам. Пракладзена яна па высокіх пустынных горах. Афганістан аддзяляе СССР ад Брытанскай Індыі. Да Кастрычнікавай рэволюцыі Афганістан знаходзіўся ў паўколёніяльнай залежнасьці ад Вялікабрытаніі, якая была вельмі зацікаўлена ў панаваньні над цяжка-праходнымі горнымі праходамі, якія злучаюць Туркестан з Індыяй. Пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі ў Афганістане ўзмацніўся нацыянальна-вызваленчы рух супроць брытанскага імпэрыялізму, і паміж Афганістанам і СССР устанавіліся сяброўскія адносіны. Аднак, Вялікабрытанія ўвесь час спрабуе запаліць грамадзян-

скую вайну ў Афганістане, каб аднавіць свой ранейшы ўплыў у гэтай краіне, апіраючыся на рэакцыйнае духавенства і на правадыроў пляменьняў.

*Мяжа з Кітаем, Танну-Тувінскаю і Мангольскаю рэспублікамі і з Манчжурыяй.*

На Ўсход ад Паміра па высокіх горах Цянь-Шаня і Алтая цягнецца наша мяжа з бясплодным і малалюдным Кітайскім Туркестанам (Сі-Цзян).

Далей, ідзе наша мяжа з Мангольскай і Танну-Тувінскай народнымі рэспублікамі. Абедзьве гэтыя народныя рэспублікі зьвязаны шчыльнымі сяброўскімі адносінамі з СССР.

Далей на Ўсход СССР па рэках Аргуні, Амуру і Усуры зноў датыкаецца з Кітаем, іменна з Кітайскай правінцыяй Манчжурыяй. Тут мяжа не абаронена горнымі хрыбтамі і прылягае да густа заселенай краіны, якая экономічна разьвіваецца. Праз Манчжурыю царскі ўрад пабудаваў простую чыгуначную лінію ва Ўладывасток. Паводле дагавору паміж СССР і Кітаем, які заключаны ў 1924 г., кіраўніцтва чыгункаю павінна быць агульнае.

Значэньне Ўсходня-Кітайскай чыгункі для СССР заключаецца ў тым, што яна вельмі скарочвае шлях з Уладывастоку ў Сібір. Для Манчжурыі гэта дарога зьяўляецца адным з галоўных шляхоў для вывазу яе тавараў. Савецка-манчжурская мяжа патрабуе ад нас заўсёднай пільнасьці і асобных мер абароны, бо імпэрыялістычныя дзяржавы імкнуцца ўцягнуць Кітай у канфлікт з СССР.

*Мяжа з Японіяй.*

З Японіяй СССР на сухазем'і мяжуецца толькі на востраве Сахаліне. Японская буржуазія імкнецца да пашырэньня збыту сваіх тавараў і да захопу крыніц сыравіны (вугалю, нафты, лесу, рыбы) на Азіяцкім матэрыку. Японія мае моцны ваенны і вялікі гандлёвы флёт. Усё гэта робіць наша Ціхаакеянскае ўзьбярэжжа адным з адказнейшых вучасткаў нашай мяжы.

Наш гандаль з Японіяй нязначны (каля 1 проц. усяго нашага замежнага гандлю).

## 4. Будова паверхні СССР.

Паводле пабудовы паверхні СССР груба можна падзяліць на тры часткі: Расійскую нізіну, Усходня-Сібірскае ўзвышша і Паўднёвы пояс гор.

*Расійская нізіна.*

Расійская нізіна, паступова звужваючыся, працягваецца на захад за межы СССР, а на Ўсход—да берагоў Усходня-Сібірскага мора. Толькі пасярэдзіне яна прарываецца Уральскім хрыбтом. Нізіна гэта

ў большай сваёй частцы мае раўнінны характар. Раўніннасьць нізіны ёсьць вынік гарызантальнага, мала парушанага заляганьня яе карэнных парод, у пераважнасьці асадкавага паходжаньня.

Нізіна месцамі ўзьнімаецца да 300 і больш мэтраў, ствараючы плоскія ўзвышшы, якія звычайна зьяўляюцца вадападзеламі. Самае вялікае з такіх узвышшаў, Сярэднярускае, якое цягнецца па сярэдзіне Эўрапэйскай часткі СССР з поўначы на поўдзень, прыблізна ад верхняй Волгі да Данца. З яго сьцякаюць Заходняя Дзьвіна, Волга, Ока, Дняпро, Дон і іх прытокі. Яно зьяўляецца такім чынам цэнтральным вадападзелам для Эўрапэйскай часткі СССР.

Паралельна яму на Ўсходзе цягнецца таксама з поўначы на поўдзень Прыволскае ўзвышша, якое зьяўляецца вадападзелам паміж Волгай і Донам. Яно на поўдзень ад Самарскай лукі дасягае вышыні 385 м. Паміж Сярэднярускім і Прыволскім узвышшамі цягнецца Окска-Волская нізіна.

У грунце Сярэднярускага і Прыволскага ўзвышшаў ляжаць уздымы карэнных парод (вапнякоў і пяшчанікаў).

Зусім іншага паходжаньня ўзвышшы, якія ў выглядзе двух узгоркавых град цягнуцца дугамі з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад. Больш паўночная града цягнецца ў выглядзе шырокай палосы на паўночны ўсход і на захад ад Валдайскага ўзвышша, дзе яна выяўляецца асабліва яскрава. На гэтай градзе бяруць пачатак Волга, Дняпро, і Заходняя Дзьвіна. Другая града цягнецца ад Менску праз Смаленск і Маскву да вадападзелу паміж Волгаю і Камаю, з аднаго боку, і Паўночнай Дзьвіной і Пячораю—з другога. Усходняя частка яе мае назву Паўночных Увалаў.

Гэтыя дзьве грады зьяўляюцца канечнымі марэнамі Вялікага Скандынаўскага ледавіка, які каля 100 тысяч год таму назад пакрываў усю паўночную і сярэднюю Эўропу.

Ледавік пакінуў пасьля сябе магутны пласт ледавіковых адкладаў, так званую паддонную марэну. Гэтыя адклады складаюцца з вынесеных ледавіком з Скандынавіі і паўночнай часткі СССР буйных малаадкочаных валуноў, неадкочанага жвіру і пяску і марэнных глін. Гэтыя адклады пакрываюць пластом ад некалькіх мэтраў да сотні і больш мэтраў старадаўнія карэнныя пароды ўсёй паўночнай і сярэдняй часткі краіны. Толькі па далінах рэк агаляюцца карэнныя пароды і разьмяшчаюцца перамытыя і рассартаваныя ракою адклады.

Паддонная марэна ўтварылася пры паступовым адступаньні ледавіка, а памянёныя дзьве шырокія грады (канечныя марэны) адпавядаюць двум даўгім астаноўкам ледавіка пры яго адступаньні. Марэнныя адклады далі матэрыял для малаўраджайных пескавых і глiністых глебаў (падзолаў), пясок-жа, жвір і валуны зьявіліся вельмі прыгоднымі дзеля будаўнічай прамысловасьці (цэгла, камень) і пракладкі шляхоў зносін.

Паўднёвая ледавіковая града зьяўляецца мяжой паміж няправільна ўзгорыстым абрысам поўначы Эўрапэйскай часткі СССР і больш роўным хвалістым рэльефам поўдня. Першы ўтвораны ледавіком і можа быць названы ледавіковым ці марэнным рэльефам; другі ўтвораны дзейнасьцю вады і ветра і можа быць названы раўчаста-лёсавым рэльефам па тэй аснаўнай пародзе (пад глебавым пласту), які пакрывае тут старадаўнія карэнныя пароды. Лёсс—жаўтаватая гліна, якая стварылася пад уплывам вады і ветра з дробненькіх частачак вымытых вадою, а таксама пылу. Такім паходжаньнем тлумачацца яго ха-

Карта аляднення Эўропы.




Карта № 1.

рактэрныя рысы: адсутнасьць буйных каменьняў, порыстасьць і пылаватасьць пабудовы. Лёсс даў асноўны матэрыял для ўтварэньня чарназёму, як марэны—для падзолу.

Але на рэльефе Эўрапэйскай часткі СССР, асабліва на ўскрайках, мелі адбітак і іншыя ўплывы. На паўночным захадзе СССР, у Карэліі, з-пад ледавіковых адкладаў выступаюць зглажаныя ледавіком скалы Фінляндска-Скандынаўскіх гор (Фенно-Скандыі). На поўнач, паступова ўзьнімаючыся, яны на Кольскім паўвостраве пераходзяць ужо ў сапраўдныя горы—Хібіны,—якія дасягаюць звыш 1200 м. вышыні. Верхавіны Хібін пакрыты сьнегам амаль цэлы год.

На паўднёвым захадзе Эўрапэйскай часткі СССР, ад Днястра да Дняпра і, пераходзячы праз яго, да Азоўскага мора, цягнецца шырокай палосаю Дняпроўская крышталічная града. Гэта града амаль на ўсім працягу схована пад павярхнёвымі адкладамі і выступае толькі па берагох рэк. Яна прымусіла Дняпро зрабіць выгіб на ўсход і ўтварыла славутыя Дняпроўскія парогі. Тут узровень Дняпра на працягу 65 км. апушчаецца на 34 м. У канцы парогаў будуецца цяпер самая магутная ў Эўропе гідраэлектрычная станцыя—Дняпробуд.

Да Дняпроўскай крышталёвай грады блізка ад Данца прымыкае Данецкі вал, старадаўні разбураны горны хрыбет вышынёю да 350 м., таксама амаль увесь пакрыты пухкімі наносамі. На яго паўночным схіле зьмяшчаецца вядомы Данецкі каменнавугальны басэйн.

На пабудове паўночна-ўсходняй і паўднёва-ўсходняй часткі нізіны сказалася пад канец ледавіковай эпохі наступленьне Паўночнага Палярнага і Касьпійскага мораў (так званыя Борэальная і Арала-Касьпійская трансгрэсіі), якія пакрылі занятыя імі мясцовасьці роўным слоем морскіх глін і пяскоў. Гэта самыя роўныя мясцовасьці СССР. Значная частка Арала-Касьпійскай трансгрэсіі ляжыць нават ніжэй узроўня акіяну.

Заходня-Сібірская ці Обская нізіна, якая ляжыць ужо за Уралам, павольна паніжаецца да Паўночнага Палярнага мора. На поўдзень яе аддзяляе ад Арала-Касьпійскай нізіны прыгожая, багатая выкапнямі Казакская града, ці так званы Казакскі дробнасопачнік. Апошні, паступова падвышаючыся на ўсход, зьліваецца з Алтайскімі горамі.

### *Усходня-Сібірскае ўзвышша.*

На Ўсход ад Янісея ляжыць горная краіна, яшчэ параўнаўча мала вывучаная. Моцна разбураныя старадаўнія хрыбты тут чаргуюцца з вялікімі ўзвышшамі. Горныя хрыбты ў большасьці ня вельмі высокія (ад 1 да 2 км.). Іх голыя верхавіны называюць гольцамі. Толькі хрыбет Чэрскага, нядаўна выкрыты ў верхняй плыні Індыгіркі, вышынёю да 3 км., дасягае лініі вечных сьнягоў. Агульны нахіл Усходня-Сібірскага ўзвышша накіраваны да Паўночна-Палярнага мора, дзе н березе цягнецца ў шмат якіх мясцох палоса нізін. На поўдзень-ж Усходня-Сібірскае ўзвышша пераходзіць няпрыкметна ў пояс паўднёвых ускраіных гор. Ля ціха-акіянскіх мораў яно абрываецца стромкім уступам.

Асобнаю дугою ўзьнімаецца на паўвостраве Камчатцы Камчацкія горы. На Камчатцы знаходзяцца адзіныя ў СССР дзейнічаючыя вулканы, якія належаць ужо да Ціхаакіянскага вульканічнага колца. Вулькан Ключэўская сопка (каля 5 км. вышыні)—самы высокі дзейнічаючы вулькан Старога Сьвету.

*Пояс паўднёвых ускраінных гор.*

На поўдні СССР прымыкае да сыстэмы высокіх горных хрыбтоў, вядомых пад назваю Каменнага поясу Старога Сьвету. Пояс гэты з невялікімі перарывамі цягнецца ад Пірынэяў на Атлянтычным акіяне да Карэйскіх гор на Ціхім акіяне. Складаецца ён з параўнаўча маладых складчатых гор і ўтворан галоўным чынам вапняковымі пародамі.

Пачынаецца пояс паўднёвых ускраінных гор у СССР Крымскімі горамі, якія зьяўляюцца, напэўна, працягам Балкан. Няглыбокая Керчанская пратока аддзяляе Крымскія горы ад прадгор'яў Каўказу. Падводны хрыбет у Каспійскім моры злучае Каўказ з Копет-Дагам, які ўваходзіць ужо ў складаную сыстэму Туркестанскіх гор. Гэта самыя высокія горы СССР. Верхавіны іх—найвышэйшыя пункты СССР. Пік Леніна і Пік Гармо (у Заалтайскім хрыбце, найвышэйшая верхавіна СССР) узьнімаюцца вышэй 7 км.

Далей невялікае зьніжэньне, так званыя Джунгарскія вароты народаў, аддзяляе сыстэму Цянь-Шаню ад Алтайскіх гор. Праз гэты праход у сярэдзнія вякі ішлі манголы на Русь.

Далей на ўсход цягнуцца Саянскія горы, якія пераходзяць у сыстэму Забайкальскіх гор. За Байкалам пояс ускраінных гор траціць сзае пэўныя абрысы, часткаю пераходзячы ва ўсходня-сібірскія горы, а часткова зьліваецца з Мангольскімі і Манчжурскімі горамі.

## 5. Выкапнёвыя багацьці СССР.

Вялікая прастора СССР, шматлікасьць гор і рознастайнасьць іх па ўзросту і карэнных пародах прымушае чакаць шмат выкапнёвых багацьцяў у нашым Саюзе. І сапраўды, па багацьцю на выкапні СССР займае адно з першых месц у сьвеце і можа забясьпечыць сябе ўласнымі залежамі на шмат вякоў. Пры гэтым СССР далёка яшчэ ня вывучаны ў адносінах яго выкапнёвых багацьцяў, і ў апошні час рад навукова-дасьледчых экспэдыцый накіраваны на пошукі каштоўных залежаў у розныя месцы Саюзу.

Галоўныя нашы месцараджэньні выкапняў знаходзяцца на рэдка заселеных і далёкіх ад прамысловых цэнтраў ускраінах. Апроч таго, залежы руд і паліва, патрэбнага для іх скарыстаньня, часта разьмяшчаюцца далёка адны ад другіх; так, напрыклад, для руд Урала няма блізка дастатковай колькасьці адпавядаючага вугалю. Разьведка залежаў у цэнтральных частках СССР у выніку іх раўніннасьці і адсутнасьці дастатковай колькасьці натуральных агаленьняў горных парод павінна вытварацца пры дапамозе бурэньня.

Усе гэтыя прыродныя ўмовы здабычы выкапняў патрабуюць ад нас узмоцненага будаваньня шляхоў зносін і аўтатранспарта, пабудовы заводаў на новых мясцох і вытворчасьці машын для горных работ, інакш кажучы, патрабуюць узмоцненай індустрыялізацыі нашае гаспадаркі.

Карысныя выкапні СССР.




Карта № 2.

Па запасах каменнага вугалю СССР уступае толькі Злучаным Штатам і Канадзе. Але залежы каменнага вугалю ў СССР далёка яшчэ ня ўсе вышуканы і вылічаны. Ва ўсякім выпадку, наш Саюз вугалем цалкам забясьпечаны, і пытаньне толькі ў забесьпячэньні яго здабычы і асабліва перавозак. Самы багаты наш каменнавугольны басэйн—Кузьнецкі.

Па залежах і па здабычы торфу наш Саюз займае першае месца ў сьвеце. Вялікія таксама залежы гаручых сланцоў, якія пакуль што мала скарыстоўваецца.

Запасы жалезных руд у СССР вельмі вялікія і чакаюць далейшага дасьледваньня і эксплёатацыі. Перашкаджала іх эксплёатацыі вялікая адлегласьць залежаў руды ад залежаў каксуючага вугалю.

*Запасаў каляровых мэталяў* (медзь, цынк і *інш.*) у нас таксама дастаткова, але здабычы іх перашкаджае адлегласьць іх месцараджэньняў ад цэнтру і нявывучанасьцю.

*Па багацьцю выкапнёвых соляў СССР займае таксама адно з першых месц у сьвеце.*

У апошні час у СССР вынайдзены ў заходніх прадгор'ях Уралу невычарпальныя залежы калійных соляў, якія так неабходны для сельскай гаспадаркі (у якасьці ўгнаеньня) і для хэмічнай вытворчасьці. Вельмі вялікія ў СССР залежы глаўбэравай солі (у затоцы Касьпійскага мора—Карабугазе), самасадачнай соды і інш. соляй у бяссточнай Арала-Касьпійскай нізіне.

Вельмі каштоўныя для СССР таксама багацьці яго на фасфарыты, якія вельмі важны дзеля ўгнаеньня палёў. Пры гэтым залежы фасфарытаў разьмешчаны як раз у земляробчай частцы СССР, якая адчувае асаблівую патрэбу ў іх. Нядаўна вынайдзены ў Хібінскіх горах вялізарныя залежы апатыту (мінэраля, які багаты на фосфар). Залежы гэтыя ўзмоцнена распрацоўваюцца ня толькі для патрэб нашай прамысловасьці, але і для вывазу за межы.

Нязьлічоную каштоўнасьць для СССР маюць таксама залежы розных будаўнічых каменьняў, зямель і глін, як-та: граніта, дыабаза вапняка для пабудоў, жвіра і пяску для дарог, крэйды і вапняку для вапны і цэмэнту, розных глін для керамічнай і цаглянай вытворчасьці і боксытаў для вытворчасьці алюмінія.

Залежаў золата (рассыпнога і жыльнага) у СССР вельмі многа. Па здабычы яго СССР займае чацьвертае месца ў сьвеце. Здабыча золата ў нас патрабуе асаблівых натуг з прычыны вялікай адлегласьці і цяжкага доступу да яго месцараджэньняў.

Менш у СССР срэбных руд, але затое СССР займае першае месца ў сьвеце па здабычы плятыны, якая перавышае па каштоўнасьці ў некалькі разоў золата.

З каштоўных каменьняў СССР багаты асабліва на ізумруды, бэрылі, амэтысты, але бедны на рубіны і алмазы.

**Залежы каменнага вугалю і нафты СССР па раёнах на 1929 г.**

| Назва раёнаў | Каменны вугаль | | Назва раёнаў | Нафта | |
|---|---|---|---|---|---|
| | У мільярдах тон натуральнае вагі | У процантах да ўсяе ўмоўнае вагі | | Мільёнаў тон натуральнае вагі | У процантах да ўсяго |
| 1. Кузьнецкі . . | 400,0 | 74,5 | 1. Баку . . . . | 1.442,6 | 50,1 |
| 2. Данецкі . . . | 66,5 | 12,2 | 2. Грозны . . . | 900,0 | 31,3 |
| 3. Іркуцкі. . . . | 52,0 | 8,6 | 3. Урала-Эмбінскі. | 262,4 | 9,1 |
| 4. Мінусінскі . . | 14,0 | 2,3 | 4. Сахалін . . . | 98,4 | 3,4 |
| 5. Падмаскоўны . | 8,3 | 0,7 | 5. Кубана-Чарноморскі . . . | 65,6 | 2,3 |
| 6. Казакстан (Караганда Эніба-стус і інш.) . | 5,0 | 0,8 | Увага: Адзначаны толькі галоўныя раёны нафты. | | |
| 7. Урал . . . . | 2,2 | 0,3 | | | |
| 8. Іншыя раёны . | 4,0 | 0,6 | | | |
| Усяго . | 552,0 | 100,0 | | | |

## 6. Клімат СССР.

Клімат мае ўплыў ня толькі на жыцьцё прыроды, здароўе і быт людзей, але і на ўсё іхняе гаспадарчае жыцьцё. Хоць з разьвіцьцём культуры і тэхнікі памяншаецца непасрэдная залежнасьць чалавека ад клімату, аднак і пры сучасным узроўні тэхнікі і культуры ўсё яшчэ даводзіцца прыстасоўвацца да клімату, скарыстоўваць яго добрыя бакі і змагацца з шкоднымі яго ўплывамі. Таму веданьне і разуменьне клімату, як аднэй з найскладаных натуральных вытворчых сіл кожнай краіны надзвычайна важна.

Клімат СССР у параўнаньні з кліматам Заходняй Эўропы—контынэнтальны (сухаземны). Гэта значыць, што зіма ў СССР халаднейшая, лета больш гарачае, а вільготнасьць і колькасьць ападкаў меншая, чым у адпаведных шырынях Заходняй Эўропы. Прычына контынэнтальнага клімату СССР у тым, што СССР зьмяшчаецца ў самай шырокай частцы Эўразіі і мала падпадае ўплыву мора. Паўночнае Палярнае мора ня можа значна зьмякчыць клімат СССР, бо яно большую частку году пакрыта лёдам. Апрача таго, яно мала выпарвае вады ў выніку сваёй нізкай тэмпэратуры. Ціхаакіянскія моры таксама маюць малы ўплыў на клімат СССР, бо вятры большую частку году дзьмуць тут з сухазем'я.

Ізотэрмы студзеня і ліпеня.




Карта № 3.

Значна большы ўплыў на клімат СССР мае Атлянтычны акіян, бо з яго дзьмуць на СССР пануючыя паміж 45 і 70° паўн. ш. заходнія вятры. Узмацняецца ўплыў заходніх вятроў тым, што яны праносяцца над цёплай морскай плыняй Гольфштром. Сам Гольфштром прыганяецца да берагоў Эўропы гэтымі заходнімі і паўднёва-заходнімі вятрамі.

Контынэнтальнасьць выклікае таксама вялікія ваганьні між тэмпэратурай дню і ночы. Гэтым тлумачацца такія частыя ў СССР увесну і ўвосень замаразкі. *Замаразкі маюць вельмі шкодны ўплыў на нашу сельскую гаспадарку.* У Заходняй Эўропе замаразкі бываюць значна радзей.

Самае халоднае месца ў СССР і ва ўсім Паўночным паўкульлі, так званы полюс холаду, знаходзіцца ў Верхаянску, ва Ўсходнім Сібіру. Сярэдняя тэмпэратура студзеня тут 49°, а наглядаліся нават марозы ў—69°. Але сібірскія марозы пераносяцца параўнаўча лёгка, бо паветра ў часе іх вельмі сухое і нярухомае.

Самыя высокія тэмпэратуры ў СССР наглядаліся на поўдні туркестанскіх пустынь. Тут сярэдняя тэмпэратура ліпеня даходзіць да 30,5° (вышэй ліпнёўскай сярэдняй на экватары), а наглядаліся ў поўдзень у цяні тэмпэратуры ў 45° і нават крыху вышэйшыя. Гарачыня ў пустынях крыху зьмяншаецца сухасьцю паветра і ветрыкамі каля поўдня. Амаль ва ўсім Саюзе, за выключэньнем паўночных ускраін, летняй цяплыні дастаткава для земляробства, тым больш, што разьвіцьцё расьліннасьці на поўначы паскараецца палярным днём і белымі ночамі.

## *Вецер, вільготнасьць* і *ападкі.*

У паўночнай палове СССР пануюць вятры заходняй паловы гарызонту. Яны прыносяць нам вільгаць і ападкі з Атлянтычнага акіяну. Але перш чым прайсьці ў глыбіню СССР, вільгаць, прынесеная з акіяну, ня раз выпадае на зямлю. Выпаўшы, яна зноў выпарваецца з паверхні зямлі, пераходзіць у атмосфэру і, ахаладзіўшыся там, зноў выпадвае ў выглядзе дажджу ці сьнегу. Вялікую ролю пры ўзбагачэньні атмосфэры вільгацьцю адыгрываюць лясы і балоты.

У паўднёвай палове СССР, у адзнаку ад паўночнай, вельмі распаўсюджаны паўночна-ўсходнія і паўночныя вятры, асабліва ўвесну і ўлетку. Яны і зьяўляюцца аднэй з галоўных прычын засушлівасьці нашага поўдня.

Сіла ветра тэхнікай скарыстоўваецца ў нас яшчэ занадта мала і галоўным чынам на поўдні СССР, для ветракоў. Паруснае суднаходзтва на нашых морах і вазёрах разьвіта таксама недастаткова.

Колькасьць выпадаючых ападкаў за год у сярэднім у СССР невялікая, каля 40 см. На захадзе СССР яна ўзьнімаецца да 60 см., але затое на паўднёвым усходзе і паўночным усходзе падае да 20 см. Толькі на схілах гор, якія павернуты да вільготных вятроў (напрыклад, на Чарнаморскім узьбярэжжы Каўказа) і на Далёкім Усходзе, пад

уплывам вільготных вятроў (мусонаў), якія дзьмуць з мора, колькасьць ападкаў перавышае 100 см.

Ацэньваючы колькасьць ападкаў у пэўнай краіне, трэба мець на ўвазе, што ў розных кліматах адна і тая-ж самая колькасьць ападкаў няроўнакаштоўна. 20—30 см. ападку на крайняй поўначы, пры нізкай тэмпэратуры і высокай вільготнасьці, якія памяншаюць выпарэньне, зьяўляюцца лішкавымі і выклікаюць забалочваньне. Пры тых самых 20—30 см. на паўднёвым усходзе, пры вельмі высокай тэмпэратуры і сухім сонечным надвор'і ўтвараюцца пустыні. 50 см. ападкаў на паўночным захадзе пры морскім клімаце зьяўляюцца лішкавымі для сельскай гаспадаркі, а тыя самыя 50 см. далей на паўднёвы ўсход, пры больш цёплым і сухім клімаце, зьяўляюцца ўжо недастатковымі.

Большая частка ападкаў у СССР выпадае ў выглядзе дажджу, толькі $^1/_3$, на поўдні і таго менш, выпадае ў выглядзе сьнегу. Калі да канца зімы ў СССР нават і зьбіраюцца вялікія тоўшчы сьнегу (іншы раз да 80 см. і больш), дык трэба мець на ўвазе, што сьнег, растаючы, дае мала вады. Сьвежы, пухкі сьнег, які толькі што выпаў, дае пласт вады ў 10 разоў меншы за пласт сьнегу, а сьнег шчыльны, які зьляжаўся, дае пласт вады разоў у шэсьць меншы за пласт сьнегу. Але затое сьнег глыбока прамочвае зямлю, аддаючы адразу ўсю сабраную за зіму вільгаць. Апроч таго, ён абараняе расьліны ад вымярзаньня ўзімку. Таму значэньне сьнежнага насьцілу для сельскае гаспадаркі СССР надзвычайна вялікае. На ўсходзе СССР ёсьць простая залежнасьць паміж колькасьцю сьнега да канца зімы і ўраджаем азімых. Таму на ўсходзе імкнуцца затрымаць як мага больш сьнегу на палёх. (Падумайце, якім чынам можна затрымаць сьнег на палёх і ў садох).

Сьнег пакрывае большую частку СССР у сярэднім 3 месяцы. На захадзе ён дасягае таўшчыні 70—80 см., а на ўсход паступова зьмяншаецца, дасягаючы за Уралам таўшчыні толькі ад 30 да 10 см. і менш.

Вялікае значэньне сьнежны насьціл мае і як санны шлях зносін, што асабліва важна на нашай забалочанай поўначы.

З характэрных для СССР кліматычных зьяў неабходна памянуць яшчэ пра сьнегавыя завеі ўзімку і пылавыя буры. Першыя заносяць дарогі. Часта ў час тэтых завей замярзаюць падарожнікі, якія заблудзіліся. Другія на паўднёвым усходзе іншы раз зусім выдзьмухваюць засевы. Пылавыя буры ствараюць пылавыя туманы (імглу ці памоху), якія выклікаюць сваёй сухасьцю і высокай тэмпэратурай засыханьне расьлін, так званы „захват“.

## *Кліматычныя паясы СССР.*

Па клімату СССР можна падзяліць на наступныя 7 кліматычных паясоў, якія ня зусім супадаюць з шырынямі.

1) *Пояс арктычнага клімату* на самых паўночных астравох СССР (Зямля Франца Іосіфа, паўночны востраў Новай Зямлі, Паўночная Зямля).

Ападкі СССР.




Карта № 4.

У гэтым поясе і ўлетку тэмпэратура хістаецца каля нуля, лёд і сьнег ня зусім выходзяць.

2) Пояс палярнага клімату (тундравы). Улетку тут сярэдняя тэмпэратура не дасягае 10°. Зіма лютая, ветраная. Колькасьць ападкаў невялікая, але тым ня менш ападкаў бывае лішак у выніку слабага выпарэньня. Каля васьмі месяцаў і больш зямля заслана сьнегам, а вада—лёдам.

3) Пояс мерна-халоднага клімату (лясныя вобласьці). У гэтым поясе зіма халодная, даўгая, лета мерана-цёплае. Ападкаў бывае дастаткова за ўсе пары году.

4) Пояс мерна-цёплага клімату (стэпы). Зіма ў гэтым поясе па тэмпэратуры мала адрозьніваецца ад клімату мерна-халоднага поясу, але лета больш гарачае і восень больш сухая. Ападкаў улетку, і асабліва ўвосень, выпадвае мала.

5) Пояс сухога (пустыннага) клімату з зусім невялікай колькасьцю ападкаў, з гарачым летам, і кароткаю, але лютаю зімою.

6) Пояс цёплага клімату з дастатковай, іншы раз з лішкаваю колькасьцю ападкаў, з тэмпэратурай вышэй 10° на працягу чатырох ці больш летніх месяцаў. Зіма тут менш лютая, чым у поясе сухога клімату.

7) Пояс горнага клімату. У гэтым клімаце паўтараюцца ў агульных рысах папярэднія паясы, пачынаючы з пояса вечнага холаду на самых высокіх верхавінах.

## 7. Воды СССР.

### *Падземныя воды.*

Падземныя воды (глебавыя, грунтовыя і артэзіянскія) адыгрываюць вялікую ролю ў жыцьці краіны. З кожным годам чалавецтва ўсё больш, замест адкрытай павярхнёвай вады, скарыстоўвае падземную. (Чаму)? Акрамя таго, падземная вада ў значнай ступені зьяўляецца крыніцаю павярхнёвай вады.

Глебавая вада (глебавая вільготнасьць), якая паглынаецца расьлінамі і адыгрывае вельмі каштоўную ролю ў сельскай гаспадарцы, ствараецца з ападкаў. У СССР яна разьмяркоўваецца ў залежнасьці ад клімату (галоўным чынам, ападкаў і выпарэньня) і моцна хістаецца па порах году. Вялікую ролю ў разьмеркаваньні глебавае вады ў СССР адыгрывае сьнегавы насьціл, іменна яго магутнасьць і ўмовы раставаньня, а таксама ўласьцівасьці грунту (сітаватасьць і прапускальнасьць для вады).

Глебавая вада насычвае грунтавую і непасрэдна пераходзіць у яе. Толькі ў паўднёвай, засушлівай частцы СССР, паміж глебавай вадою і грунтавою ляжыць месцамі непрамакальны, так званы „мертвы гарызонт“. Сувязь з грунтавою вадою атрымліваецца тут толькі месцамі, у паглыбленьнях рэльефу, па стэпавых блюдцах, балках, ярах і рэках.

Грунтовае вады, якая выступае ў звычайных студнях і крыніцах, у СССР наогул даволі многа, і скарыстаньне яе не сустракае асаблівых цяжкасьцяй. Толькі на далёкай поўначы, у вобласьці адвечнай мярзлоты, маецца недахват крыніц і студняў. (Чаму?) А ў паўднёвай сухой частцы СССР у многіх мясцох капаньне студняў сустракае перашкоды ў надта глыбокім заляганьні грунтавое вады, якое да гэтаго-ж часта бывае недастатковым і яна зьяўляецца крыху салоннай. У такіх мясцох вада праводзіцца да заселеных пунктаў з далёку (з рэк, вазёр ці крыніц). Значная частка грунтовае воды СССР багата на вапнякі („жосткая“), што іншы раз шкодна адбіваецца на працы паравых машын і хэмічных вытворчасьцяў.

Артэзіянская вода, г. зн. вода, якая аддзяляецца ад грунтовае воданепрапускальнымі пластамі, скарыстоўваецца праз артэзіаянскія студні, галоўным чынам у гарадох, пры буйных прамысловых прадпрыемствах. Артэзіянскія студні могуць адыграць вялікую ролю на нашым пустынным паўднёвым усходзе.

Крыніцы раскіданы па няроўнасьцях рэльефу ўсяго нашага Саюзу. Некаторыя з іх маюць лекавае значэньне. Лекавыя крыніцы звычайна бяруць пачатак з вялікіх глыбінь і багаты расчыненымі ў іх солямі ці газамі. Вельмі часта яны маюць высокую тэмпэратуру. Крыніцы, якія выцякаюць не з асабліва вялікіх глыбінь, маюць тэмпэратуру блізкую да мясцовай сярэдняй гадавой тэмпэратуры. Звычайна тэмпэратура іх на 1—2° вышэй сярэдняй гадавой, бо зімні холад горш перадаецца ў зямлю, чымся летняя цяплыня. (Чаму?) Большасьць крыніц СССР належыць да апошняга тыпу. Вада іх улетку здаецца студзёнай, а ў зімку цёплай. (Чаму?)

Крыніцы, якія бяруць пачатак у вульканічных вобласьцёх, звычайна бываюць моцна нагрэты і мінэралізаваны. У СССР такія крыніцы асабліва распаўсюджаны ў вульканічнай вобласьці Перадкаўказьзя. Тут крыніцы Гарачаводзку на поўнач ад Грознага маюць тэмпэратуру каля 90°. Крыніцы каля вульканаў Камчаткі дасягаюць нават тэмпэратуры 98°.

Самыя вядомыя мінэральныя лекавыя крыніцы СССР наступныя: вуглякіслы Нарзан у Перадкаўказьзі, серкава-вадародныя ў Пяцігорску і Мацэсьце (на Каўказе), салоныя крыніцы Старой Русы (у Ленінградзкай вобласьці) і Славянску (на Украіне), жалезаватыя крыніцы ў Жалезнаводзку (на Каўказе) і інш.

## *Рэкі.*

Вада большай часткі рэк СССР грунтовага паходжаньня. Толькі ўвесну пасьля раставаньня сьнегавога насьцілу ці пасьля моцных навальніц яны нясуць каламутную сточную ваду. Рэкі, якія бяруць пачатак у горах, маюць і ўлетку каламутную ваду ад раставаньня ледавікоў і сьнягоў і вялікіх летніх дажджоў.

На поўначы СССР, дзе многія рэкі бяруць пачатак з балот і балотных лясоў, яны маюць звычайна ваду, крыху афарбаваную ў жаўтавата-буры колер ад дамешкі тарфяных і перагнойных кісласьцяў. Гэта так званыя „чорныя" рэкі. Вада іх „мяккая", прэсная.

На поўдзень колькасьць рашчыненых соляй у рачной вадзе павялічваецца, і на паўднёвым усходзе, дзе грунтовая вада часта бывае салоная, рэкі маюць іншы раз нават салонаватую ваду ўлетку і ўвосень. Да такіх салоных рэк, вада якіх улетку няпрыгодна для піцьця, адносіцца, напрыклад, Эмба, якая ўпадае ў Касьпійскае мора, і Вялікі і Малы Узень, якія канчаюцца, не даходзячы да Касьпійскага мора.

**Рэкі СССР**[1])

| | |
|---|---|
| 1. Басэйн Балтыцкага мора: | 1. Нява, 2. Заходняя Дзьвіна, 3. Нёман. |
| 2. Ладажскае возера: | 1. Сьвір, 2. Волхаў. |
| 3. Возера Ільмень: | 1. Лаваць, 2. Мста. |
| 4. Басэйн Чорнага мора: | 1. Днестр, 2. Днепр з прытокамі: Бярэзіна, Прыпяць, Сож і Дзясна, 3. Кубань. |
| 5. Басэйн Азоўскага мора: | 1. Дон з прытокамі і Паўночны Данец, Хапёр, Мядзьведзіца. |
| 6. Басэйн Касьпійскага мора: | 1. Волга з прытокамі: Шаксна, Вятлуга, Кама, Ака, Сура, 2. Урал, 3. Эмба, 4. Кура з прытокам—Аракс, 5. Церак. |
| 7. Басэйн Паўночнага Палярнага мора: | 1. Анега, 2. Паўночная Дзьвіна, якая зьліваецца з рэк—Сухоны, Юга і мае прыток Вычагду; 3. Мезень, 4. Пячора, 5. Об з прытокам Іртышом; 6. Янісей з прытокамі: Ангара (Верхняя Тунгузка), Сярэдняя Тунгузка, Ніжняя Тунгузка; 7. Лена з прытокамі: Вілюй, Алдан. |
| 8. Басэйн Ахоцкага мора: | 1. Амур з прытокамі—Зэя, Бурэя і Усуры. |
| 9. Басэйн Аральского мора: | 1. Сыр-Дар'я і Аму-Дар'я. |

Колькасьць вады ў нашых рэках вельмі зьмяняецца ў залежнасьці ад кліматычных умоў. Большасьць нашых рэк мае пэрыяд паводкі ўвесну ад раставаньня сьнегавога насьцілу. Але многія горныя рэкі разьліваюцца ўлетку ад раставаньня ледавікоў у горах (напрыклад, Аму-Дар'я), а рака Амур разьліваецца ад летніх мусонных дажджоў. У часы паводкі ўзровень вады ў рэках вельмі падвышаецца, напрыклад, на Волзе і Амуры да 12 м. над сярэднім узроўнем. У гэты час шмат якія рэкі разьліваюцца на некалькі кілёмэтраў у шырыню, затапляючы ўсю даліну і робячы іншы раз вялікія разбурэньні. Волга ў час паводкі разьліваецца іншы раз да 20—30 км., а каля Астрахані нават да 65 км. У пэрыяд вясновай паводкі некаторыя рэкі, напрыклад, Волга, Дон, Дняпро, за 1—2 месяцы выносяць у мора столькі-ж вады, колькі за ўвесь астатні год.

[1]) Табліца рэкаў складзена намі.

Паводкі рэк карысны тым, што яны ствараюць у даліне ракі вельмі добрыя заліўныя сенажаці. Але з другога боку, у выніку разводзьдзя, надзвычайна зьмяняюцца берагі, зьмяняецца рэчышча ракі і часта ў рэчышчах застаюцца пасьля разводзьдзя мелі і перакаты. Шырокія даліны, сярод якіх павольна між пескавымі мелямі і поймамі ўецца параўнаўча вузкая рака—характэрная асаблівасьць нашых рэк.

Другой асаблівасьцю рэк Саюзу зьяўляецца асымэтрыя іх далін. Правы бераг іх звычайна высокі, стромкі. Левы—нізінны і складаецца з двух тэрас: ніжэйшая лугавая, якая заліваецца, і вышэйшая, надлугавая, на якой звычайна разьмешчаны сёлы, сады і гароды.

Цячэньне нашых рэк павольнае, спакойнае. Яно ўзмацняецца толькі ў часы паводак. Павольнасьць цячэньня зьяўляецца вынікам слабога нахілу мясцовасьці. Большасьць рэк расійскай нізіны бярэ пачатак з балот і лясоў нявысокіх над узроўнем мора. Волга, напрыклад, на вышыні каля 230 м., іншыя рэкі яшчэ ніжэй. Таму паданьне гэтых рэк хістаецца паміж 6 і 12 см. на кілёмэтр цячэньня, а хуткасьць роўна ўсяго каля 3 км. у гадзіну. Павольнасьць цячэньня важна асабліва для Волгі, па якой нафта і збожжа адпраўляюцца з поўдня на поўнач, супроць цячэньня. Толькі горныя рэкі, якія маюць значна большае паданьне, цякуць з хуткасьцю каля 10 км. у гадзіну і больш. Так, Аму-Дар'я самая хуткая рака ў СССР, цячэ з хуткасьцю 15 км. у гадзіну.

Вадаспады і парогі на рэках расійскай раўніны параўнаўча рэдкія. Самы вядомы вадаспад Ківач на рацэ Суне, якая ўпадае ў Анежскае возера (вышыня паданьня 10 м.); самыя вядомыя парогі — Дняпроўскія, а таксама на раце Волхаве. Але ў гарыстых мясцовасьцях СССР, напрыклад, на Кольскім паўвостраве, і ў горах, напрыклад, на Каўказе, Алтаі і іншых, парогі і вадаспады самая звычайная зьява.

Парогі і вадаспады, якія раней толькі шкодзілі суднаходзтву і сплаву, цяпер скарыстоўваюцца дзеля электрыфікацыі.

Роўнае спакойнае цячэньне рэк СССР вельмі выгодна для суднаходзтва, але вялікай перашкодай для яго зьяўляецца іх замярзаньне на доўгі час. Рэкі СССР скованы лёдам у сярэднім ад 4 да 6 месяцаў, Ледаходы яшчэ скарочваюць навігацыю.

1) Галоўнейшыя вазёры СССР [1]).

| Назва | Месцазнаходжаньне |
|---|---|
| а) Эўропэйская частка СССР | |
| 1. Ладаскае . . . . . . . | У басэйне ракі Нявы. |
| 2. Анескае . . . . . . . | У басэйне ракі Сьвіры. |
| 3. Чудскае . . . . . . . | На мяжы з Эстоніяй. |
| 4. Ільмень . . . . . . . . | У басэйне ракі Волхава. |
| 5. Эльтонскае . . . . . . | На ўсход ад ніжэйшага цячэньня ракі Волгі. |
| 6. Баскунчакскае . . . . . | На ўсход ад ніжэйшага цячэньня ракі Волгі. |

[1]) Табліца вазёр складзена намі.

| Назва | Месцазнаходжаньне. |
|---|---|
| **б) Азіяцкая частка СССР** | |
| 1. Касьпійскае м. . . . . . | |
| 2. Аральскае м. . . . . . . | |
| 3. Балхаш . . . . . . . . | На поўнач ад гор. Цянь-Шаня. |
| 4. Байкал . . . . . . . . | У басэйне ракі Ангары. |
| 5. Ханка . . . . . . . . | На Савецка-Манчжурскай мяжы. |

Вазёры СССР паводле сваіх уласьцівасьцяй і паходжаньня могуць быць падзелены на тры тыпы: ледавіковыя вазёры ў вобласьцях былога абледзяненьня, стэповыя вазёры бясссточных вобласьцяй і горныя вазёры. Першыя разьмешчаны ў паглыбленьнях, пакінутых у свой час ледавіком сярод марэнных узгоркаў. Другія разьмяшчаюцца ў стэповых ці пустынных абласьцёх з малым лікам ападкаў. Яны звычайна ня глыбокія, абкружаны роўным стэпам, часта бясссточныя і багаты сольлю. Трэція, нарэшце, зьявіліся ў горах пад уплывам працэсаў горастваарэньня.

## 8. Глебава-расьлінныя паясы СССР і іх жывёльны сьвет.

У СССР з поўначы на поўдзень могуць быць выдзелены некалькі палос, ці ляндшафтных паясоў, якія адрозьніваюцца адзін ад аднаго сваім кліматам, глебамі, расьліннасьцю і жывёламі, якія жывуць у іх. Уласьцівыя гэтым паясом прыродныя зьявы калісьці вызначылі характар гаспадарчай дзейнасьці насельніцтва. Гэтыя самыя прыродныя зьявы ў наш час у кожным з гэтых паясоў складаюць тую суму натуральных вытворчых сіл, на падставе якой, пры дапамозе новай соцыялістычнай арганізацыі працы і з дапамогай найноўшай тэхнікі, кожны з поясоў атрымлівае асаблівае гаспадарчае прызначэньне.

### *Прырода арктычнага поясу.*

У арктычным поясе (поясе адвечнага лёду і сьнегу) знаходзяцца толькі самыя паўночныя астравы СССР. (Успамянеце якія). На іх агаляюцца ад сьнегу і лёду толькі невялікія прасторы (паўднёвыя схілы ўзьбярэжжа і стромкія скалы, на якіх сьнег ня трымаецца). Глебы тут няма, бо нізкія тэмпэратуры кароткага лета і мярзлота не дапушчаюць стварэньня глебаў. Расьліннасьць вельмі бедная: дробныя вадаросты на сьнезе і ў вадзе, лішайнікі, невялікая колькасьць імхоў і кветкавых расьлін. Жывёлінны сьвет таксама бедны. Пераважаюць морскія жывёлы: рыбы, цюлені і маржы. На сухазем'і сустракаюцца белыя мядзьведзі і птушкі, якія харчуюцца за кошт мора.

Па паўночнай ускраіне СССР уздоўж палярнага круга цягнецца бязьлесная мясцовасьць, якая завецца тундрай. У выніку халоднай і маласьнежнай зімы і кароткага лета з недахопам цёплых дажджоў

глеба тут растае ўлетку няглыбока, а далей у глыбіню ідзе заўсёды мёрзлая зямля, іншы раз з праслойкамі чыстага лёду, так званая вечная мярзлота. На вечнай мярзлоце, якая не прапушчае вады, ствараюцца ў тундры галоўным чынам кіслыя тарпяныя і лугавыя глебы.

У выніку мярзлоты і занадта нізкай тэмпэратуры лета (сярэдняя ліпеня не перавышае 10°) лес у тундры не расьце. Толькі на далінах рэк і на ўзвышшах, дзе лепшы сьцёк і меншае забалочаньне, дзе-ні-дзе расьце даволі рэдкі лес з нізкарослай елкі, хмызьняковай бярозы і ядлоўцу. У Сібіры да іх далучаецца і лісцьвеньніца.

У тыповай тундры з хмызьнякоў растуць толькі карлікавая бяроза, ці ернік, дробная вярба і алешына. Галоўную расьліннасьць тундры складаюць розныя імхі і лішайнікі, ад'якіх тундра набывае аднастайны шэры выгляд. Вельмі многа ў тундры таксама ягадных расьлін: журавіны, брусьніцы, марошкі, галубікі і г. д.

Існуе і сухая тундра, дзе на паверхню выступае голы камень, напрыклад, на Кольскім паўвостраве, ці нават пясок, як каля ўтоку Пячоры. Сухія тундры пакрыты лішайнікамі, асабліва ягелем, які зьяўляецца галоўнай стравай дзеля паўночнага аленя.

Жывёлінны сьвет тундры таксама мізэрны, хоць і даволі рознастайны. Тундра асабліва ажывае ў летні час, калі прылятае шмат птушак (дзікіх гусей, качак, лебядзей, кулікоў), якія тут робяць гнёзды і харчуюцца рыбай, ягадамі і шматлікімі казяўкамі, што расплоджваюцца ў часе кароткага лета. У шматлікіх лужах тундры разьвіваецца вельмі многа камароў і мошкары, якія надта надаядаюць улетку і людзям і жывёлінам. Для абароны ад камароў і мошак людзі прымушаны ахоўваць галаву сеткамі, рукі—рукавіцамі, алені ўцякаюць на самы бераг мора, дзе мацней дзьмуць вятры і таму менш камароў.

Заўсёды ў тундры жывуць таксама песец (палярная лісіца), пяструшкі ці лемінгі (род мышэй) і паўночны олень, які вырывае ўзімку з-пад сьнегу капытамі ягель, імхі і траву. Па берагох мора вандруе белы мядзьведзь, які ловіць цюленяў і рыбу.

Тундра, відаць, павольна сунецца на поўдзень, насоўваючыся на лес. Гэта відаць з таго, што ў торфе паўднёвай часткі тундры знаходзяцца часта драўляныя пні, а на мяжы з лесам трапляецца шмат гінучых і загінуўшых ад забалочваньня дрэў.

Тундра ня можа быць скарыстана для земляробства (чаму?), хоць месцамі і ўдаюцца пасадкі бульбы, рэпы і іншай гародніны. Ва ўдачлівыя гады ў ахованых мясцох пры добрым угнаеньні пасьпявае нават ячмень і жыта. Але звычайна іх прыходзіцца касіць на сена недасьпелымі. Па далінах рэк, дзе месцамі сустракаюцца добрыя сенажаці, магчыма жывёлагадоўля. Тундра павінна быць скарыстана ў першую чаргу для гадоўлі аленяў, разьвядзеньня мускуснага быка, песца і іншых пушных жывёлін, а таксама для рыбных промыслаў, паляваньня і для распрацоўкі выкапнёвых багацьцяў, у тым ліку вялізарных залежаў торфу.

Расьлінныя паясы СССР.




Карта № 7.

## *Прырода лясного поясу.*

Лясны пояс ад тундравага аддзелены пераходнай палосаю леса-тундры ці крывалесься. Тут вастраўкі тундры чаргуюцца з астраўкамі нізкарослага крывога лесу.

Для прарастаньня лесу ў лясным поясе ёсьць спрыючыя ўмовы: даволі глыбокае раставаньне глебы, больш цёплае, чым у тундры лета (сярэдняя ліпнёўская тэмпэратура звыш 10°) і дастатковая для леса колькасьць ападкаў, якія выпадаюць даволі раўнамерна на працягу ўсяго году. Пры такіх умовах лес, які больш поўна скарыстоўвае глебу і сьвятло, выціскае нізкарослыя расьліны.

Для ляснога поясу характэрны падзольныя глебы. Ападзольваньне карэнных парод (пяскоў, супяскоў, суглінкаў) адбываецца таму, што раскладваньне арганічных матэрый дзернавога пласту глебы пры лішкі вільгаці і нізкай тэмпэратуры дае арганічныя кісласьці. Гэтыя кісласьці вымываюць з-пад дзернавога пласту глебы закісі мэталаў, пакідаючы ў ім чысты крамнязём у выглядзе белаватага, падобнага да попелу, падзолу. Вымытыя закісі, галоўным чынам, закісі жалеза, зноў адкладаюцца ў больш глыбокім пласту глебы. Гэты пласт, рыжаватага колеру, часта даволі шчыльны, носіць назву рудзяка ці орштэйна. Такім чынам падзольная глеба складаецца з трох пластоў: дзернавога, падзолу і рудзяка. Лягчэй за ўсё ападзольваюцца пяскі, больш цяжка—суглінкі. Дзе клімат больш вільготны, там ападзольваньне ідзе хутчэй і глыбей. Таму самыя ападзоленыя глебы ў нас на захадзе СССР. У Сібіры-ж глебы толькі слаба ападзолены. Пласт рудзяка, які стварыўся ў ападзоленай глебе, не прапушчае вады і часта зьяўляецца прычынай забалочваньня, выклікаючы балоты нават на пяскох.

Падзольныя глебы пазбаўлены спажыўных солей, бедны перагноем, мала ўраджайныя. Яны патрабуюць угнаеньня арганічнымі (гной) і неарганічнымі матэрыямі, пры чым вялікімі дажджамі ўгнаеньні лёгка з іх вымываюцца.

У нізінных мясцох гэтае палосы зьяўляюцца кіслыя дзернавыя глебы (кіслы лугавы чарназём), а ў мясцох застойных вод пасяляюцца імхі і асокі і ствараюцца тарфянікі. Кіслыя чарназёмы пры асушцы, вапнаваньні і добрай апрацоўцы могуць даць добрыя лугі і ўраджайныя палі.

Лясны пояс паводле складу лясных парод можа быць падзелены на дзьве палосы, якія паступова пераходзяць адна ў другую. На паўночным усходзе цягнуцца хваёвыя лясы з дамешкай бярозы, асіны, алешыны і іншых дробналістовых парод. Сярод гэтых лясоў маецца шмат тарфянікаў. На поўдзень ад іх разьмяшчаюцца мешаныя лясы з дамешкай шыракалістовых дрэў, як дубу, ліпы, клёну, арэшніку, ясеню, а на захадзе—грабу. У Сібіры палоса хваёвых лясоў носіць назву тайгі, адкуль і ўсю гэтую палосу часта завуць таежнаю.

Для ляснога пояса, асабліва яго таежнай часткі, вельмі характэрны балоты. Ствараюцца яны ці ад зарастваньня вазёр, асабліва ў марэннай

частцы, ці ад веснавых разводзьдзяў рэк (напрыклад, у Палесьсі), ці ад забалочваньня лясных лугоў пад уплывам вільготнага клімату. Галоўныя тыпы балот СССР—гэта балоты мохавыя, лугавыя (травяныя) і лясныя.

**Імшары** звычайна разьмяшчаюцца на роўных вадападзелах з слабым сьцёкам. Яны часта выпучваюцца шапкай над акаляючай мясцовасьцю. Яны даюць лепшы торф. Пасьля асушкі яны могуць быць ператвораны ў лугі, лясы і нават палі. Штогод асушваюцца многія тысячы гектараў такіх балот.

**Травяныя балоты** разьмяшчаюцца звычайна ўздоўж рэк і вазёр на нізінах. Яны пакрыты галоўным чынам асокамі, чаротам і вербалозінай. Пасьля асушкі яны даюць вельмі добрыя лугі.

**Лясныя балоты** пакрыты звычайна рэдкім малакаштоўным лесам з хвої, бярозы, алешыны і асіны. Панізе ў такім лесе на купінах растуць розныя лясныя імхі і ягадавыя расьліны (чарніцы, галубіка, марошка). Асушка лясных балот значна паляпшае якасьць лесу.

З сысуноў для ляснога пояса характэрны: буры мядзьведзь, лось, розныя куніцы, вавёрка і заяц-бяляк. Колькасьць пушных жывёлін і ў лясох хутка памяншаецца: зубр ужо зьнішчаны, хутка зьнікнуць і расамаха, бабёр (сустракаецца яшчэ ў Палесьсі і Сібіру), алень. Птушак у лясох шмат. З іх характэрны для лясной паласы: глушэц, рабец і цецярук, а таксама шмат дробных мошкаедных, як сініцы, дзятлы. Паляваньне на пушных жывёл, асабліва вавёрак, і на птушку (рабец, цецярук) адыгрывае вялікую ролю ў гаспадарцы шмат якіх лясных мясцовасьцяў. Лясная паласа дае спрыяючыя ўмовы для штучнага разьвядзеньня пушных жывёл (лісіцы, бабра, собаля і інш.).

У сярэдняй паласе, асабліва ў мясцох, якія ляжаць каля сплаўных і суднаходных рэк, ужо шмат лясоў зьнішчана. Толькі на поўначы лясной паласы і ў Сібіры цягнецца яшчэ на сотні кілёмэтраў глухая тайга.

Паводле лясных запасаў СССР першая краіна ў сьвеце, але лясы СССР вельмі запушчаны і патрабуюць правільнага лесаўпарадкаваньня, а таксама аховы ад драпежніцкай рубкі, ад шкоднікаў і пажараў. У паўночнай частцы лясной палосы лясныя промыслы зьяўляюцца амаль выключным заняткам насельніцтва. Але ў сярэдняй і, асабліва, паўднёвай частцы яе, вялікае, часам нават пераважнае значэньне набывае земляробства, ня гледзячы на даволі неўраджайныя падзольныя глебы. Земляробства тут накіравана галоўным чынам на так званы шэры хлеб (жыта, авёс, ячмень) і дзякуючы добраму росту травы (чаму?) выгодна чаргуецца з засевам травы і малочнай гаспадаркай. Вялікая колькасьць сьвежае зямлі ад распрацоўкі лесу дае спрыяючыя ўмовы дзеля засеву лёну.

### *Прырода стэповага поясу.*

Лясны пояс паступова пераходзіць у стэповы, а паміж імі зьмяшчаецца пераходная палоса лесастэпу ці прадстэпу, якая ў іншых мясцох дасягае некалькіх сот кілёмэтраў шырынёю. У гэтай палосе

вучасткі лесу чаргуюцца з вучасткамі стэпу. Тут побач з дубовымі гаямі, а ў іншых мясцох нават з хваёвым і бярозавым лесам можна сустрэць чарназёмны кавыльны стэп. Лес тут быццам змагаецца са стэпам і ў цяперашні час, відавочна, насоўваецца на стэп. Доказам гэтага могуць быць шэрыя лясныя глебы з рэшткамі стэповых расьлін і жывёл (сусьлікі, тушканчыкі), якія знаходзяцца пад лясамі прадстэпу. Глебы гэтыя зьяўляюцца чарназемам, але выгляд іх зьменен лесам, і яны маглі ўтварыцца толькі ў стэпу.

Насоўваньне лесу на стэп можна тлумачыць некаторым павялічэньнем колькасьці ападкаў у сучасную эпоху. Вялікая вільготнасьць глебы і паветры дае лесу магчымасьць выціскаць стэповыя травы. Але ўзмоцненая высечка лесу, наадварот, адсоўвае межы лесу на поўнач. Палоса гэта скарыстоўваецца ў сучасны момант галоўным чынам для земляробства. Лясы ў ёй вельмі высечаны і захаваліся толькі па пескавых плошчах ці па далінах рэк, часта толькі ў выглядзе лістовых поўхмызьняковых зарасьляй. Захаваньне і аднаўленьне лесу - адна з найгалоўных гаспадарчых задач гэтага поясу.

Пояс сапраўдных стэпаў мае значна больш аднастайны выгляд, чым прадстэпы. На сотні кілёмэтраў цягнуцца тут роўныя бязьлесныя прасторы, якія заняты да іх распашкі густою стэповаю травою. Зьяўленьне стэпаў тлумачыцца недастатковай вільготнасьцю паветры і асабліва глебы, што не дае магчымасьці разьвівацца лесу. Ападкаў тут выпадае толькі ад 45 да 25 см., што пры гарачым сухім леце (асабліва ў яго другой палове), недастаткова для глыбокага абвільгатненьня глебы і падглебы. Падглебаю стэпаў зьяўляецца звычайна лёсс, багаты солямі (вапнай, гіпсам, паваранай сольлю, содай і г. д.). Солі гэтыя пры недахопе ў стэповым клімаце ападкаў, якія к таму-ж няглыбока праходзяць у зямлю, перашкаджаюць расьці лесу. З гэтае прычыны лес расьце ў стэпу толькі па рачных далінах, ярох і схілах узгоркаў, дзе зямля перамываецца больш глыбока.

Роўныя-ж прасторы займаюцца густой травяной расьліннасьцю з няглыбокімі карэньнямі. Ад рэштак гэтай расьліннасьці (карэньняў і лісьця) верхні пласт лёссу на працягу тысячагодзьдзяў так узбагаціўся перагноем, што афарбаваўся ў чорны колер і launched ператварыўся ў чарназём. Колькасьць перагною ў чарназёме хістаецца ад 6 да 14 проц., а магутнасьць пласту бывае ад дэцымэтру да мэтру і больш. На поўдзень, дзе колькасьць ападкаў памяншаецца, тэмпэратура-ж павышаецца, а стэповая расьліннасьць робіцца радзейшаю, колькасьць перагною ў глебе зьмяншаецца, і чарназём пераходзіць у каштанавую глебу. Чарназём—самая ўраджайная глеба ў сьвеце. Ён без угнаеньня дае добрыя ўраджаі на працягу дзесяткаў гадоў. І толькі, нарэшце, ужо зьяўляецца патрэба ва ўгнаеньні, асабліва — фосфарнымі і калійнымі солямі. Угнаеньне-ж звычайным гноем бывае нават шкодна для чарназёму. (Чаму?)

Стэповы чарназём, у адзнаку ад паўночнага кіслага (лугавога) чарназёму, мае нейтральную ці слаба шчолачную рэакцыю. Ён даволі

багаты на солі, асабліва ў ніжэйшым пласьце. Месцамі колькасьць солі настолькі павялічваецца, што чарназём пераходзіць у неўраджайны саланец. Вымытыя з чарназему і лёссу солі часта зьбіраюцца па нізінах і салоных балотах і ўтвараюць так званыя саланчакі. На паўднёвы ўсход у стэповым поясе колькасьць саланцоў і саланчакоў павялічваецца. (Чаму?)

Для стэпаў характэрнай расьліннасьцю зьяўляюцца: розныя віды кавылёў (расьліны з пушыстымі серабрыстамі васьцюкамі), тыпчак, а таксама месцамі дробныя (да 1 м. вышынёю) хмызьнякі бабоўніка і стэповай вішні. Рана ўвесну ў стэпу зацьвітаюць цыбулькавыя расьліны, як, напрыклад, стэповыя цюльпаны, ірысы і гіацынты. Да сярэдзіны лета травы стэпаў дасягаюць поўнага разьвіцьця. Да канца-ж лета стэп звычайна выгарае, і ў ёй ня спыняецца разьвівацца толькі больш трывалы палын.

Па расьліннасьці і глебах стэповы пояс можна падзяліць на дзьве палосы: паўночную,—чарназёмны кавыльны стэп і паўднёвую,—каштанавую, кавыльна-тыпчаковую з значнай дамешкай палыну і іншых сухастойлівых расьлін.

З жывёл для стэпу характэрны сусьлік, сурок, тушканчык, заяц русак, з птушак — дрофа, стрэпет і розныя віды жаваранкаў. Раней у стэпу пладзіліся і буйныя сысуны, як дзікі конь ці тарпан, антылопа, сайга, але яны даўно зьнішчаны. Зьнікаюць таксама паступова стрэпет, дрофа, сурок і тушканчык.

Чарназёмныя стэпы цяпер усюды ўзораны і ператвораны ў суцэльныя палі, так званы „культурны стэп". Толькі ў Заволжжы і асабліва за Уралам ёсьць яшчэ некранутыя стэпы. У Эўрапэйскай частцы СССР пакінуты толькі запаведныя вучасткі стэпу, як „помнікі прыроды" (напрыклад, Стэп-Запаведнік у саўгасе „Асканія Нова" на поўдні Украіны).

Стэповы пояс асабліва прыгодны для разьвядзеньня збожжавых расьлін, якія і пераважвалі ў яго натуральным расьлінным пакрове і стварылі сваімі карэньнямі чарназём. З збожжавых расьлін тут разводзяцца ў першую чаргу больш патрабавальная да глебы пшаніца, і апроч збожжавых расьлін—цукровыя буракі і сланэчнік. Садаводзтва, якое калісьці адыгрывала ў гэтай паласе важную ролю, адышло на задняе месца. Стэповы пояс—самы ўраджайны пояс СССР, гэта жытніца СССР, якая харчуе больш паловы яго насельніцтва.

### *Прырода поясу пустынь.*

Як паміж лясным і стэповым паясамі разьмяшчаецца паласа прадстэпу, так паміж стэпамі і пустынным поясам цягнецца шырокая пераходная паласа поўпустынь ці сухіх саланчаковых стэпаў. У гэтай паласе побач з стэповымі вучасткамі сустракаюцца рухомыя пяскі і неўраджайныя глiністыя пустыні. Побач з прэснаводнымі рэкамі і вазёрамі тут сустракаюцца салонаватыя рэкі і салоныя вазёры і ба-

лоты (саланчакі). Побач з штучным абвадненьнем існуе і звычайнае земляробства, ужываецца тыповая вандроўная жывёлагадоўля.

Пояс пустынь стварыўся ў выніку недастатковай колькасьці ападкаў пры гарачым сухім і доўгім леце. Але ня трэба думаць, што ў нашых пустынях зусім не выпадае дажджу. Увесну тут бываюць іншы раз вялікія ліўні, узімку выпадае сьнег, але вада хутка сьцякае і выпараецца пры пануючай тут сухасьці. Недахоп ападкаў выклікае адсутнасьць сталага сьцёку ў акіян. З гэтае прычыны ўсе солі, якія ўтвараюцца ад выпятрэньня карэнных парод пустыні, застаюцца ў ёй. Моцнае выпарэньне ў пустыні выклікае згушчэньне соляй у верхнім пласьце глебы, адкуль яны выпадковымі ліўнямі змываюцца ў салоныя вазёры ці саланчакі. Грунтовая вада ў пустынях звычайна бывае салонаватая. Прэсная-ж вада сустракаецца часьцей за ўсё ў пяскох і то рэдка.

З глебаў для поясу пустынь асабліва характэрны сьветлабурыя глебы і шэразёмы, г. зн. сьветлабурыя ці шэрыя гліны з вялікай колькасьцю солі і малой колькасьцю перагною. Шэразёмы зьяўляюцца звычайна на лёссе; на пескавых-жа карэнных пародах ствараюцца барханы ці бугрыстыя пяскі. Глебы пустыні даволі ўраджайныя пры дастатковым абвадненьні.

Пяскі лепш убіраюць у сябе і лепш захоўваюць вільгаць, чым глiністыя глебы. Таму расьліннасьці на пяскох бывае больш. Больш у іх і прэснай вады, з гэтае прычыны пяскі ў нашых пустынях зьяўляюцца любімымі пашамі вандроўнікаў. Гэтыя пашы часта захоўваюцца вандроўнікамі на зіму і на выпадак вялікай сушы.

Расьліны пустынь растуць па аднаму, не густымі зарасьлямі. (Чаму?) Усе яны прыстасаваліся да сушы і вялікай гарачыні. Карэньні іх вельмі глыбока заходзяць у зямлю. (Чаму?) Дзеля памяншэньня выпарэньня лісты ў іх вельмі дробныя ці нават заменены зялёнымі галінкамі. Прыкладам такіх расьлін можа быць характэрны для нашых пустынь саксаул, нявысокае дрэўца з надзвычайна цьвёрдаю і цяжкаю драўнінаю (тоне ў вадзе, ломіцца, а не сячэцца тапаром), тамарыскі (хмызьнякі з прыгожымі ружовымі кветкамі), вярблюдзіна калючка. У глiністых пустынях пераважаюць рознага роду палыны і салянкі.

Прыстасаваўся да жыцьця ў пустыні і яе жывёлінны сьвет. Тут пераважаюць жывёлы, афарбованыя ў жоўташэры колер пустыні, жывёлы гэтыя могуць пераносіць смагу голаду і хутка перасоўваюцца ў пошуках вады і яды. Да іх належаць вярблюд, джэйран і сайга (віды антылоп), кулан (від дзікага асла, амаль зьнішчаны) і інш. Шмат таксама маецца ў пустыні жывёл, якія жывуць у норах, як-то: сурок, суслік, тушканчык. З птушак характэрны для пустыні пескавы рабок, ці капытка, саксаульная сойка. Надзвычайна многа ў пустыні гадаў, якія зарываюцца ў пясок (яшчаркі, зьмеі) і казявак (скарпіёны, павукі-тарантулы і фалангі). Пустыня таксама—бацькаўшчына саранчы.

Пустыні нашы скарыстоўваюцца вельмі рэдкім насельніцтвам для вандроўнай жывёлагадоўлі. З сваімі статкамі, якія складаюцца пера-

важна з авец, вярблюдаў і коняй, яны вандруюць ад аднае студні да другой, ці скарыстоўваюць тыя часовыя зборышчы вады, якія ствараюцца ад рэдкіх ліўняў.

Для лепшага гаспадарчага скарыстоўваньня пустыні неабходна павялічыць колькасьць студняў (грунтовых і артэзіянскіх), загатаўляць сена і чарота на выпадак галялёду і сьнегавых завеяў, захоўваць саксаул для паліва, а таксама палепшыць шляхі зносін для збыту прадуктаў жывёлагадоўлі і распрацоўкі выкапняў.

Зусім зьмяняецца прырода пустынь у оазысах, г. зн. у тых мясцох, дзе ёсьць прэсная вада. Оазысы ўтвараюцца каля крыніц і студняў і асабліва ўздоўж рэк, у так званых тугаях. Тут зьяўляюцца дрэвы: топалі, верба, кусты грэбеншчыка, лоха і зарасьнікі чароту. Сюды прылятае шмат вадзяных птушак, зьяўляюцца дзікі, шакалы і нават заходзіць тыгра. У оазысах мы знаходзім і аселае насельніцтва, а таксама абводненыя палі і сады. Тут утвараюцца складаныя абвадняльныя сыстэмы, паселішчы і цэлыя гарады.

Дзеля ўздыму гаспадаркі оазысаў у першую чаргу неабходна палепшыць штучнае абвадненьне, бо ўся гаспадарка тут заснована на паліўцы зямлі.

*Прырода поясу гор.*

На поўдні СССР да поясу стэпаў і пустынь прылягае горны пояс і парушае іх далейшае прасоўваньне на поўдзень. Дзякуючы ўздыму паветра ў горах робіцца халадней, а колькасьць ападкаў павялічваецца. З гэтае прычыны пояс пустынь, які зьмяшчаецца ў падножжа гор, на вышыні прыблізна 500 м. замяняецца поясам стэпаў; апошні на вышыні каля 1500 м. заманяецца поясам лесу. На вышыні 3000 м, і вышэй лес паступова зьнікае і замяняецца хмызьнякамі, травамі, імхамі і лішайнікамі, а з вышыні 4000 м. і вышэй пачынаецца ўжо царства вечных сьнягоў і лёду.

Але горныя паясы ня зусім паходзяць на паясы нізінаў. У горах умовы сонечнага асьвятленьня, сьцёку, вятроў так рознастайны і так хутка мяняюцца, што на розных схілах гор клімат, прырода, а з гэтае прычыны і гаспадарка надзвычайна бываюць розныя. Даць агульнае апісаньне горных паясоў для ўсяго нашага горнага поясу вельмі цяжка. Прырода і гаспадарка Крыму і Каўказу мала падобны на прыроду і гаспадарку Цянь-Шані. З гэтае прычыны апісаньне горных паясоў будзе дадзена пры апісаньні адпаведных абласьцей.

## 9. Насельніцтва СССР.

*Заселенасьць СССР.*

Выгоднае геаграфічнае палажэньне, клімат і глеба, лясныя багацьці і розныя карысныя выкапні маюць вялікае значэньне ў справе гаспадарчага разьвіцьця краіны толькі ў тым выпадку, калі да іх прыкла-

дзена праца людзей. Таму пытаньне аб заселеннасьці данай краіны, аб забесьпячэньні яе працоўнай сілай зьяўляецца пытаньнем першаступеннай важнасьці.

Якая-ж заселенасьць СССР? У сучасны момант у СССР, які займае плошчу ў 21,2 млн. кв км., жыве каля 160 млн. чалавек, што складае ў сярэднім усяго толькі 8 чалавек на кожны квадратовы кілёмэтр. Па колькасьці насельнікаў СССР займае адно з першых месц у сьвеце, уступаючы толькі Кітаю (450 млн. чалавек) і Брытанскай Індыі (320 млн.) і пакідаючы за сабою нават Злучаныя Штаты (120 млн.).

Зусім інакш, аднак, абстаіць справа з гушчынёю заселенасьці Саюзу.

Паасобныя часткі Саюзу заселены далёка не аднолькава. Асабліва яскрава відаць розьніцу ў заселенасьці паміж Эўрапэйскай і Азіяцкай часткамі. У той час як у Эўрапэйскай частцы прыпадае ў сярэднім звыш 25 чалавек на квадратовы кілёмэтр, вялізарныя прасторы Азіяцкай часткі маюць у сярэднім толькі па паўтара чалавека. Праўда, у Азіяцкай частцы маюцца вялізарныя плошчы, якія ў выніку сваіх прыродных умоў амаль няпрыгодны для гаспадарчага скарыстаньня, а значыцца і для значнага засяленьня. Такія плошчы дзе-ні-дзе сустракаюцца і ў Эўрапэйскай частцы Саюзу.

Побач з гэтым мы маем у Азіяцкай частцы Саюзу зямлю рэдка заселеную, але зусім прыгодную для гаспадарчага скарыстаньня. Шмат ёсьць яшчэ мясцовасьцяў у савецкіх рэспубліках, якія чакаюць зьяўленьня чалавека для скарыстаньня іх натуральных вытворчых магчымасьцяй. Уласна кажучы, толькі Эўрапэйская частка Саюзу, Каўказ і Сярэдня-Азіяцкія рэспублікі зьяўляюцца тэрыторыямі, якія больш ці менш дастаткова заселены.

Але і ў дастаткова заселеных частках Саюзу шчыльнасьць насельніцтва зусім неаднолькавая.

Для шчыльнасьці насельніцтва вялікае значэньне мае разьвіцьцё гаспадарчага жыцьця. Мы часта сустракаем вялікую шчыльнасьць насельніцтва ў мясцовасьцях з дрэннымі глебамі і кліматам, але з добра разьвітай горнай ці апрацоўчай прамысловасьцю.

*Вясковае і гарадзкое насельніцтва.*

Большая частка насельніцтва СССР жыве ў сельскіх мясцовасьцях і толькі 18 проц.—у гарадох, што зьвязана з перавагаю земляробства як галоўнага занятка насельніцтва на працягу соцен гадоў. З разьвіцьцём прамысловасьці гарады ў СССР вельмі хутка растуць, утвараюцца новыя гарадзкія паселішчы і расьце вага гарадзкога насельніцтва.

Самым вялікім горадам Саюзу зьяўляецца яго сталіца—Масква, якая мае звыш двух мільёнаў жыхароў. Таксама звыш двух мільёнаў жыхароў мае другі па велічыні горад—Ленінград, па поўмільёна жыхароў маюць Кіеў, Баку і Харкаў і звыш 400000—Адэса. Яшчэ


Картаграма шчыльнасьці сельскага насельніцтва СССР (1926)
Шкала шчыльнасьці сельскага насельніцтва
менш 0,1 чал. на кв. км.
от 0,1 да 1 " "
" 1 " 5 "
" 5 " 15 "
" 15 " 30 "
" 30 " 50 "
" 50 " 70 "
звыш 70 "
Паўночнае Полярнае мора
Архангельск
Ленінград
Сьвярдлоўск
Масква
Менск
Саратаў
Харкаў
Тыфліс
Чорнае мора
Польшча
Румынія
Латвія
Літва
Турцыя
Паўн. Полярнае мора
Кітай
Манголія

Карта № 8.

25 гарадоў у Саюзе маюць звыш 100 тыс. жыхароў кожны, усе-ж астатнія гарады меншага памеру. У вялікіх гарадох (г. зн. у гарадох, якія маюць звыш 100 тыс. жыхароў) жыве амаль $^2/_5$ (38 проц.) усяго гарадзкога насельніцтва Саюзу. Каля аднэй трэці жыве ў сярэдніх гарадох (ад 20 да 100 тысяч жыхароў у кожным) і прыкладна столькі-ж у дробных гарадох (якія маюць менш 20 тыс. жыхароў кожны).

### *Перасяленцкі рух.*

Насельніцтва Саюзу хутка расьце. У сучасны момант у СССР штогод нараджаецца на 3 мільёны больш чалавек, чым памірае: гэта складае так званы „натуральны прырост насельніцтва“. У выніку павялічэньня колькасьці насельніцтва павінна павялічыцца, зразумела, і шчыльнасьць. У многіх частках Расіі, яшчэ задоўга да рэволюцыі, сельскае насельніцтва стала такім густым, што пачала востра адчувацца зямельная цяснота. Не хапае зямлі, каб забясьпечыць усё сельскае насельніцтва. Такія раёны зьяўляліся „аграрна перанаселенымі“ (г. зн. маючымі збытак сельскага насельніцтва).

Ва ўмовах абшарніцка-капіталістычнага ладу асноўным спосабам зжываньня аграрнага перанасяленьня зьяўлялася перасяленьне сялян у малазаселеныя часткі краіны. І сапраўды, з чарназёмнага цэнтру і заходняй Украіны адбываўся бесьперапынны перасяленцкі рух сялян за Урал—у паўночную частку Казакстану, у заходнюю частку Сібіру, а пазьней і на Далёкі Ўсход. Асабліва ўзмацніўся рух за Урал пасьля пабудовы Сібірскай чыгункі.

Перасяленцкі рух адцягваў абурэньне сялянства ад сапраўдных віноўнікаў зямельнай цеснаты—памешчыкаў-зямляўласьнікаў, і таму царскі ўрад падтрымліваў перасяленчы рух і дапамагаў перасяленцам на новых мясцох захапіць лепшую зямлю, зганяючы з іх карэннае насельніцтва.

Зямельная цяснота яшчэ дае сябе адчуваць у цэлым шэрагу раёнаў СССР да самага апошняга часу, бо адабраная пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі зямля абшарнікаў была падзелена паміж дробнымі гаспадаркамі, якія ўжывалі старую тэхніку. Савецкая ўлада таксама спрые перасяленьню сялян з густазаселеных раёнаў на ўскраіны, але, зразумела, у інтарэсах саміх-жа сялян і не на шкоду карэннаму насельніцтву гэтых месц.

Аднак, савецкі лад адчыняе новыя, больш дзейныя шляхі зжываньня зямельнай цеснаты—шляхам колектывізацыі і індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі. (Якім чынам?)

### *Склад СССР.*

Наша краіна ўяўляе сабою саюзную дзяржаву. У сучасны момант Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік складаецца з сямі асноўных частак:

1. Расійская соцыялістычная фэдэрацыйная савецкая рэспубліка (РСФСР).

НАЦЫЯНАЛЬНА-ПОЛІТЫЧНАЯ СТРУКТУРА СССР

А У Т А Н О М Н Ы Я В О Б Л А С

КОМІ (ЗЫРАН)
МАРЫЙСК.
ВОЦКАЯ
МАРДОЎСК.
КАЛМЫЦК.
АДЫГЕЙСК.
ЧАРКЕСКАЯ
КАРАЧАЕЎСК.
КАБАРДЗІН. БАЛКАРСКАЯ
ПАЎН. ОСЯЦІНСК.
ІНГУСК.
ЧАЧЭНСКАЯ
ОЙРАЦКАЯ

ДАГЕСТАНСКАЯ АССР
НЕМЦ. ПОВОЛЖ. АССР
КРЫМСКАЯ АССР
БАШКІРСКАЯ АССР
КІРГІСКАЯ АССР
ТАТАРСКАЯ АССР
ЯКУЦКАЯ АССР
ЧУВАСКАЯ АССР
БУРЯТА МАНГОЛЬСК. АССР
КАРЕЛЬСКАЯ АССР
КАЗАКСКАЯ АССР
КАРАКАЛПАКСК. АЎТ. ВОБЛ.

РСФСР
УЗБЭКСКАЯ ССР
УКРАІНСКАЯ ССР
ГОРНА-БАДАХШАНСКАЯ АЎТ. ВОБ.
МОЛДАЎСКАЯ АССР
ТАДЖЫКСКАЯ ССР
СССР
БЕЛАРУСКАЯ ССР
ТУРКМЭНСКАЯ ССР
ЗАКАЎКАСКАЯ СФСР

АЎТ. ВОБЛ. ПАЎД. ОСЭТЫІ
АЎТ. ВОБЛ. НАГОРНАГА КАРАБАХА
АЗЭРБАЙДЖАНСКАЯ ССР
АРМЯНСКАЯ ССР
ГРУЗІНСКАЯ ССР
АБХАСКАЯ АССР
НАХІЧАВАНСКАЯ АССР
АДЖАРСКАЯ АССР

Карта № 9.

2. Украінская соцыялістычная савецкая рэспубліка (УССР).

3. Беларуская соцыялістычная савецкая рэспубліка (БССР).

4. Закаўкаская соцыялістычная фэдэрацыйная савецкая рэспубліка (ЗСФСР).

5. Узбэкская соцыялістычная савецкая рэспубліка ці Узбэкістан (УзССР).

6. Туркменская соцыялістычная савецкая рэспубліка ці Туркменістан (ТССР).

7. Таджыкская соцыялістычная савецкая рэспубліка ці Таджыкістан.

У склад некаторых з названых саюзных рэспублік уваходзіць рад самастойных адзінак—аўтаномных рэспублік і аўтаномных вобласьцяў. Межы як саюзных рэспублік, так і аўтаномных рэспублік і вобласьцяў устанаўліваюцца паводле нацыянальных адзнак, г. зн. выходзячы з перавагі ў тэй ці іншай мясцовасьці жыхароў пэўнай нацыянальнасьці. Так, напрыклад, унутры РСФСР, якая зьяўляецца ў аснове расійскай рэспублікай, маецца адзінаццаць аўтаномных рэспублік і чатырнаццаць аўтаномных вобласьцяў, у якіх пераважаюць жыхары не расійскай нацыянальнасьці. Закаўкаская фэдэрацыя складаецца з трох рэспублік, унутры якіх маюцца яшчэ свае аўтаномныя адзінкі, і г. д.

*Нацыянальны склад насельніцтва СССР.*

Вялікая колькасьць існуючых у нас нацыянальных аўтаномных рэспублік і вобласьцяў толькі часткова малюе нам надзвычайную стракатасьць нацыянальнага складу насельніцтва Саюзу. У нас налічваецца амаль дзьвесьце розных народнасьцяй, пры чым некаторыя з іх прадстаўлены вельмі невялікай колькасьцю жыхароў (па некалькі тысяч чалавек). Такія невялікія групы, калі яны нават згрупованы ў адным месцы, ня могуць стварыць аўтаномнай рэспублікі. Аўтаномнасьць такіх невялікіх пляменных груп знаходзіць свой адбітак у стварэньні нацыянальных раёнаў ці нацыянальных сельсаветаў.

*Нацыянальная палітыка СССР.*

СССР зьяўляецца адзінай у сьвеце дзяржавай, у якой усе народы сапраўды роўнапраўны і карыстаюцца поўнай свабодай у адносінах свайго нацыянальна-культурнага будаўніцтва. У буржуазных краінах на паперы прызнаецца роўнапраўе ўсіх нацый, але гэтае роўнапраўе толькі фармальнае. На справе ў дзяржавах з розным нацыянальным складам насельніцтва слабыя і малыя народы знаходзяцца ў становішчы падпарадкаваных і ўціскаемых меншасьцяў і змагаюцца за сваё самавызначэньне. Аднак, у капіталістычным грамадзтве сапраўдная сутнасьць барацьбы нацый за сваё самавызначэньне зьмяшчаецца ў тым, што буржуазія прыгнечанай нацыі ўсімі сіламі імкнецца выззва-

ліцца ад „лішэній", уціску і страт, якія ёй наносіць буржуазія прыгнятаючай нацыі.

Калі ўся справа арганізацыі народнае гаспадаркі і гаспадарчага кіраваньня пяройдзе да працоўных мас, нацыянальныя асаблівасьці і розьніца больш ня будуць падзяляць людзей, а тым самым страціць свой сэнс усякая нацыянальна-вызваленчая барацьба. Гэтак і ёсьць у СССР: у нас паасобным нацыянальнасьцям дадзены правы выдзяленьня ў самастойна нацыянальна-тэрыторыяльныя адзінкі, нацыянальным меншасьцям забясьпечана поўная свабода нацыянальна-культурнага будаўніцтва, і сама дзяржава зварачае асаблівую ўвагу на разьвіцьцё гаспадаркі і ўздым культуры адсталых народнасьцяй.

---

М. Б. Вольф, В. А. Гаўрылаў, Г. А. Мёбус, Г. Г. Шэнберг „Рабочая кніга по географии С. С. С. Р.". 1931 г.

Стар. 6—62. Пытаньні ў тэксьце апушчаны.

# Русский язык

Отдел докомвузовской подготовки.

*Курс ведет И. БАБЧЕНОК.*

## ЗАДАНИЕ № 3

**по русскому языку,**

**рассчитанное на 15 часов.**

ПОСОБИЕ.

*С. Бархударов и В. Птицын*—„Русский язык".

В это задание входит весь материал третьего урока с контрольной работой № 3 (стр. 63—90).

Все три отдела урока предлагаются для проработки с выполнением в меру необходимости письменных упражнений (задач) в рабочих тетрадях, которые для проверки в Комвуз не присылаются.

Для проверки необходимо прислать контрольную работу № 3.

## УРОК ТРЕТИЙ.

1. Прочитать внимательно „Вступительные замечания" (стр. 63-64).

2. Сначала выполнить работы, относящиеся к 1-му отделу, затем ко 2-му и 3-му.

3. Только после этого приступить к выполнению контрольной работы.

### Отдел I.

### Синтаксис.

| Темы и материал к ним | Форма проработки |
|---|---|
| § 31. Обращение.<br>Задачи: 80 и 81.<br>§ 32. Вводные слова.<br>Задачи: 82 и 83. | Материал, относящийся ко всем параграфам задания, проработать так, как это требуется пособием. |

## Отдел II.

## Морфология.

| Темы и материал к ним | Форма проработки |
|---|---|
| § 33. Изменяемые окончания в словах.<br>§ 34. Изменение глагола по лицам и числам.<br>Задачи: 84, 85, 86 и 87.<br>§ 35. Глаголы на СЯ.<br>Задачи: 88, 89, 90 и 91.<br>§ 36. Времена глаголов.<br>Задача № 92.<br>§ 37. Неопределенная форма глагола.<br>Задачи: 93, 94, 95 и 96.<br>§ 38. Повелительная форма глагола.<br>Задача: 97 и 98.<br>§ 39. Частица НЕ перед глаголом.<br>Задачи: 99 и 100.<br>§ 40. Глагольные виды.<br>Задачи: 101, 102 и 103.<br>§ 41. Различие 1-го и 2-го спряжений.<br>Задача 104.<br>§ 42. Суффиксы глаголов.<br>Задачи: 105, 106 и 107. | Если окажется, что изложенное в том или другом параграфе уже известно товарищу, проходящему заочное обучение, то рекомендуется задач такого параграфа письменно не выполнять, а проработать их устно. |
| **Отдел III.**<br>**Работа с книгой.** | |
| § 43. Разбивка статьи на части.<br>Задачи: 108, 109, 110 и 111.<br>§ 44. Заголовок к отрывку.<br>Задачи: 112, 113 и 114. | |
| § 45. Составление плана.<br>Задачи: 115, 116, 117, 118, 119 и 120. | Выполнить одну или две из этих задач по своему выбору. |
| **Повторительные вопросы.**<br>I. О словах, стоящих вне предложения.<br>II. О глаголе.<br>III. О составлении плана. | Продумать и устно сформулировать ответы на все вопросы. |
| **Контрольная работа № 3.**<br>Задачи: 1, 2, 3, 4 и 5. | Выполнить контрольную работу и прислать ее в Комвуз для проверки. |

# ЗАДАНИЕ № 4

## по русскому языку,

**рассчитанное на 15 часов.**

*Курс ведет И. М. БОБЧЕНОК.*

ПОСОБИЕ.

*С. Бархударов и В. Птицын*—„Русский язык".

В это задание входит весь материал четвертого урока с контрольной работой № 4 (стр. 91—124).

Все три отдела урока предлагаются для проработки с выполнением в меру необходимости письменных упражнений (задач) в рабочих тетрадях, которые для проверки в Комвуз не присылаются.

Для проверки необходимо прислать в контрольную работу № 4.

## УРОК ЧЕТВЕРТЫЙ.

1. Прочитать внимательно „Вступительные замечания" (стр. 91-92).
2. Сначала выполнить работы, относящиеся к 1-му отделу, затем ко 2-му и 3-му.
3. Только после этого приступить к выполнению контрольной работы.

### Отдел I.

### Синтаксис.

| Темы и материал к ним | Форма проработки |
|---|---|
| § 46. Связывание отдельных предложений в сложные фразы с союзами.<br>Выводы.<br>Задачи: 121 и 122.<br>§ 47. Союзы подчиняющие. Предложения главные и придаточные.<br>Задачи: 123, 124, 125 и 126.<br>§ 48. Союзы относительные.<br>Задача № 127.<br>§ 49. Вставные придаточные предложения.<br>Задачи: 128, 129 и 130.<br>§ 50. Взаимное отношение предложений в сложной фразе:<br>Задачи: 131, 132 и 133.<br>§ 51. Прямой и косвенный вопрос.<br>Задача 134. | Материал, относящийся ко всем параграфам задания, проработать так, как это требуется пособием.<br><br>Если окажется, что изложенное в том или другом параграфе уже известно товарищу, проходящему заочное обучение, то рекомендуется задач такого параграфа письменно не выполнять, а проработать их устно. |

| Темы и материал к ним | Форма проработки |
| --- | --- |
| **Отдел II.**<br>**Морфология.** | |
| § 52. Имена существительные. Первое склонение. Единственное число.<br>Задачи: 135, 136, 137, 138 и 139. | |
| § 53. Множественное число.<br>Задачи: 140 и 141. | |
| § 54. Существительные на „а" с шипящими звуками перед окончанием.<br>Задачи: 142 и 143. | |
| § 55. Имя существительное. Второе склонение.<br>Задачи: 144, 145, 146, 147, 148 и 149. | |
| § 56. Слова второго склонения с шипящими звуками перед окончанием.<br>Задачи: 150, 151, 152, 153, 154 и 155. | |
| § 57. Имя существительное. Третье склонение.<br>Задачи: 156, 157, 158, 159 и 160. | |
| **Отдел III.**<br>**Работа над книгой.** | |
| § 58. Сложный план.<br>Статья Сталина „Стиль в работе".<br>Задачи: 161 и 162. | Выполнить одну из этих задач по своему выбору. |
| **Повторительные вопросы.** | |
| 1. О союзном связывании предложений.<br>2. Об изменении имен существительных.<br>3. О сложном плане. | Продумать и устно сформулировать ответы на все вопросы. |
| **Контрольная работа № 4.**<br>Задачи: 1, 2, 3, 4 и 5. | Выполнить все задачи контрольной работы и прислать их в Комвуз для проверки. |

Адказны рэдактар—С. Рычкоў.
Наместнік адказнага рэдактара—А. Л. Макоўскі.

## ЗЬМЕСТ

